ЗЬМЕСТ.



# РАСПАЧАЎ РАБОТУ ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД РАБСЕЛЬКОРАЎ.

**10-га ліпеня ў гор. Менску распачаў сваю работу другі Усебеларускі зьезд рабселькораў.**

**З дакладам аб выніках Чэрвенскага пленуму ЎсеКП(б), ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б і задачы друку выступіў сакратар ЦК КП(б)Б т. К. В. ГЕЙ.**

**Даклад—задачы рабселькораўскага руху, партківраўніцтва ім і ўдарніцтва ў друку зрабілі т.т. Будзінскі, Курцік.**

**На зьезьдзе будуць працаваць сэкцыі паасобных галін прамысловасьці і сельскай гаспадаркі: па торфаэнэргетыцы, тэкстыльнашвэйнай прамысловасьці, па перабудове каапэрацыі, дрэваапрацоўчай прамысловасьці, па жывёла-сьвінагадоўлі, МТС, ільнаводных тэхнічных культур і гарбарна-абутковай прамысловасьці.**

**Матэрыял аб выніках работы зьезду будзе зьмешчана ў 7-м нумары „Паляўнічы Беларусі“.**

Заказ № 1383. 16.500 экз. Галоўлітбел № 1641.

Друкарня імя Сталіна

Штомесячны часопіс

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА ПРАМЫСЛОВА-КААПЭРАТЫЎНАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ

г. Менск. Савецкая, 68, тэл. 11-60

Выданьне газ. „Беларуская вёска“

Пяты год выданьня

Умовы падпіскі:

На год — 2 руб. — к.
На паўгода — 1 руб. 20 к.
На 3 месяцы — 60 к.
Асобны нумар каштуе 30 к.

1931 № 6

ЧЭРВЕНЬ



# ІМЯ ТРЭЦЯГА, РАШАЮЧАГА

Гіганцкімі тэмпамі адбываецца соцыялістычнае будаўніцтва ў СССР. Кожны год, кожны месяц уступаюць у строй усё новыя і новыя соцыялістычныя волаты. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі ў корні мяняе твар вёскі. Магутнай хваляй колгаснага руху разьбіваюцца ланцугі прадвечнага ўбоства і жабрацтва батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас сялянства. Больш 52 проц. бядняцка-серадняцкіх мас Саюзу сталі на шлях колектывізацыі, больш 38 проц. беднякоў і серадкякоў БССР калектыўнага змагаюцца на колгасных палёх. На аснове суцэльнай калектывізацыі ажыцьцяўляецца ліквідацыя апошняга аплоту капіталізму ў вёсцы—кулацтва як клясы.

Мы ўступілі ў пэрыод разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту, — у першы пэрыод соцыялізму. Разгортваючы нябачаныя ў гісторыі чалавецтва тэмпы індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, мы сёлета закончым пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі.

Лёзунг партыі — дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны ў тэхніка-экономічных адносінах у бліжэйшае дзесяцігодзьдзе—героічным энтузіязмам рабочай клясы і працоўных мас Саюзу пасьпяхова ператвараецца ў жыцьцё. Самаадданая барацьба рабочай клясы і працоўных мас сялянства пад кіраўніцтвам партыі за датэрміновае выкананьне програмы гаспадарча-культурнага будаўніцтва, за пяцігодку ў чатыры гады, а на рашаючых вучастках у 2 1/2—3 гады—парука і сьведка гэтаму.

Грандыёзная програма соцыялістычнага будаўніцтва, якая вызначана для трэцяга, рашаючага году пяцігодкі, патрабуе агромністага напружаньня сіл і вялікіх грашовых сродкаў.

Сёлета па СССР павінны ўступіць у строй 518 новых волатаў соцыялістычнай індустрыі, 1040 машына-трактарных станцый. Па БССР у 1931 г. намечана затраціць 85 мільёнаў рублёў на капітальнае будаўніцтва прамысловасьці, 176 мільёнаў рублёў на сельскую гаспадарку, якая к канцу 1931 г. павінна быць калектывізавана ня менш, як на 45 проц.; 143 мільёнаў рублёў — на народную асьвету; 16 мільёнаў рублёў на дарожнае будаўніцтва.

„Кожны працоўны Савецкага саюзу ведае,—гаворыцца ў адозьве ЦВК СССР,— што, будуючы соцыялізм у нашай краіне ў варожым капіталістычным абкружэньні, мы можам разьлічваць толькі на свае сілы і сродкі, што абавязак кожнага з нас — актыўнай самаадданай работай і сваімі сродкамі дапамагаць сваёй дзяржаве, сваёй уладзе паскорыць тэмпы, наблізіць тэрміны пабудовы соцыялізму, умацаваць экономічную незалежнасьць савецкай краіны ад капіталістычнага сьвету“.

І менавіта дзякуючы актыўнаму падтрыманьню працоўных, дзякуючы ўздыму матар'яльнага дабрабыту рабочай клясы, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, дзяржаўны крэдыт Саюзу дасягнуў вялікіх посьпехаў і відавочна адбівае агромністы энтузіязм і волю мас працоўных да перамогі.

Першай пазыкай індустрыялізацыі, якая

была выпушчана на 200 мільёнаў рублёў, краіна адказала на пагрозу фінансавай блёкады з боку сусьветнага капіталізму. Другой — шахцінскаму шкодніцтву, трэцяй — на імкненьне кітайскіх белабандытаў перашкодзіць нашаму пасьпяховаму соцыялістычнаму будаўніцтву. Звыш аднаго мільярда рублёў для соцыялістычнага будаўніцтва даў першы выпуск пазыкі „Пяцігодка за чатыры гады“.

У адказ на патрабаваньні мільёнаў перадавых рабочых і колгасьнікаў, урад выдаў дэкрэт аб другім выпуску пазыкі „Пяцігодка—за чатыры гады“ пад назвай „Трэці, рашаючы“. Пазыка імя трэцяга, рашаючага зьяўляецца найбольш буйнай з усіх выпушчаных да гэтага часу масавых пазык. Урад устанавіў кантрольную лічбу новай пазыкі ў 1600 мільёнаў рублёў. Гэты разьмер пазыкі цалкам адпавядае патрабаваньням, якія прад'яўляе на даным этапе размах соцыялістычнага будаўніцтва і забясьпечвае бесьперабойнае фінансаваньне пабудовы 518 і 1040.

Рабочыя, колгасьнікі і ўсе працоўныя Савецкага саюзу шырока падтрымліваюць выпуск новай пазыкі. Рад прадпрыемстваў, колгасаў і ўстаноў, высунуўшы сустрэчныя пляны па рэалізацыі пазыкі імя трэцяга рашаючага, датэрмінова скончылі падпіску і перавыканалі кантрольнае заданьне: замест трохтыднёвага заробку рад фабрык, заводаў і ўстаноў далі па сустрэчнаму месячны і больш.

Аднак трэба адзначыць, што побач з пасьпяховым разгортваньнем рэалізацыі пазыкі на фабрыках і заводах, на вёсцы рэалізацыя пазыкі разгорнута слаба, масавая работа ў радзе месц засталася ў глыбокім тыле актыўнасьці шырокіх мас колгасьнікаў, беднякоў і серадзякоў аднаасобнікаў.

Для вёскі па БССР вызначана рэалізаваць пазыкі трэцяга рашаючага на 16 мільёнаў рублёў. Рост продукцыйнасьці сельскай гаспадаркі, узьняцьце прыбытковасьці сялянскай гаспадаркі складаюць спрыяючыя ўмовы ня толькі для выкананьня гэтай лічбы, але і значнага яе перавыкананьня. Трэба толькі шырока разгарнуць масавую растлумачальную работу, шырока разгарнуць сярод колгасьнікаў, беднякоў і серадзякоў-аднаасобнікаў соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. Мобілізаваць увесь вясковы актыў для актыўнай работы па рэалізацыі пазыкі.

Захоўваючы поўную добраахвотнасьць у разьмяшчэньні пазыкі, трэба рашуча біць па „левых“ загібістых, якія падменьваюць масавую работу голым адміністраваньнем, і права-опортуністычнай стаўцы на самацёк у рабоце па рэалізацыі пазыкі. Пад кіраўніцтвам партыйнай організацыі, згуртаваўшы вясковы актыў, мобілізаваць увагу колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы вёскі на актыўнае змаганьне, за датэрміновае сканчэньне рэалізацыі пазыкі „трэцяга, рашаючага“ у вёсцы.

Паляўнічыя раённыя таварыствы і сельячэйкі павінны разгарнуць шырокую масавую работу сярод паляўнічых з тым, каб кожны паляўнічы набыў аблігацыю пазыкі імя „трэцяга, рашаючага“. Мобілізаваць 35-тысячную армію паляўнічых для актыўнай работы па разьмяшчэньню пазыкі на вёсцы.

„Пазыка выпускаецца ў пэрыод надзвычайнага абвастрэньня экономічнага крызісу за межамі СССР, калі капіталістыя шукаюць выхаду з тупіку за кошт падрыхтоўкі да вайны, за кошт новага аграбленьня пролетарыяту і працоўнага сялянства. У барацьбе дзьвюх сыстэм — перамога на баку соцыялізму. Соцыялістычнае будаўніцтва Савецкага саюзу апіраецца на невычарпальныя крыніцы энэргіі і працоўнага ўздыму шматмільённых мас і на ўласнае накапленьне ўнутры краіны.

Пасьпяховай рэалізацыяй пазыкі імя „Трэцяга рашаючага“ адкажам спробам капіталістых організаваць фінансава-гаспадарчую блёкаду СССР, створым магутную фінансавую базу для завяршэньня пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі“.

---

**Паляўнічыя Беларусі павінны прыняць самы шчыры ўдзел у рэалізацыі пазыкі 3-га рашаючага году пяцігодкі.**

**Пасьпяховая рэалізацыя пазыкі трэцяга рашаючага дасьць магчымасьць яшчэ шырэй разгарнуць соцыялістычнае будаўніцтва нашай краіны.**

# ЗАДАНЬНЕ НАРКАМСНАБУ ВЫКАНАЦЬ

**На штурм**
**За баявое выкананьне заданьня нарыхтовак дзічыны**

## Паляўнічыя масы павінны даць 35 тысяч кілё мяса рабочым сталоўкам

Для выкананьня дырэктывы партыі аб выкарыстаньні ўсіх мажлівасьцяй для бесьперапыннага і лепшага забесьпячэньня мясам рабочых цэнтраў Наркамснаб СССР у сваёй пастанове ад 12/III 1931 г. вызначыў нарыхтаваць з паляўнічых угодзьдзяў за 1931 г. па СССР 5 міл. 15 тысяч штук баравой дзічыны і 10 міл. штук вадаплаваючай. З гэтай колькасьці на тэрыторыі Беларусі павінна быць нарыхтавана: вадаплаваючай і балотнай дзічыны 20 тысяч штук і баравой 15 тысяч. Усяго 35 тысяч. Заданьне невялікае і выканаць яго ёсьць магчымасьць. На кожнага паляўнічага прыходзіцца па 2 штукі (па два кілё мяса). Бязумоўна, ні адзін паляўнічы ня можа сказаць, што дзьве птушкі, якія ён павінен здаць у каапэрацыю, заданьне вялікае.

Выканаўшы гэту праграму нарыхтовак дзічыны, паляўнічая каапэрацыя, гэтым самым, за кошт дадатковых мясных рэсурсаў у выглядзе дзічыны, унясе вялікі ўклад для вырашэньня праблемы рабочага харчаваньня. 35 тысяч штук дзічыны заменяць 350 галоў буйнага рагатага ската і дадуць мяса высокай спажыўнай якасьці.

У намэнклатуры вадаплаваючай і балотнай дзічыны ўваходзяць качкі, гусі, журавы, цаплі, лысухі, бекасіныя і іншыя кулікі. Баравой: цецярук, глушэц, рабок, пардва, слонка.

Уся нарыхтаваная дзіч паступае ў Беларускае аб'яднаньне пушпрадукта, які павінен утвараць разьмеркаваньне нарыхтаванай дзічыны.

Нарыхтоўчыя цэны ўстаноўлены наступныя: цецярук, пардва—1 р. 20 к. за кілёграм; рабкі бекасіныя—1 р. 50 к. за кілёграм; качкі і іншыя—1 р. 10 к. за кілёграм.

Як вядома, плянавая, масавая нарыхтоўка дзічы да гэтага часу не ўтваралася. Паляўнічымі адстрэльвалася вялікая колькасьць дзічы, якая і скарыстоўвалася на харчаваньне саміх паляўнічых і толькі вельмі малая частка дабытага прадукту паляваньня пападала ў гарады і мястэчкі, у сталоўкі.

Між іншым да імпэрыялістычнай вайны дзіч, асабліва рабок, з Расіі вывозілася ў вялікай колькасьці і займала першае месца па колькасьці і па якасьці на міжнародным дзічылым рынку.

Зьмяніліся сацыяльна-эканамічныя ўмовы, якія мелі ўплыў на колькасьць дабываньня дзічыны і яе таварнасьць. За апошні час значна павялічалася колькасьць паляўнічых, а разам з тым і ўжываньне здабываемай дзічыны паляўнічымі і іх сем'ямі сабе ў харчы. Гэта і зрабіла ўплыў на зьніжэньне таварнасьці дзічы, бо ў той час, калі да рэвалюцыі пралетарская частка паляўнічых, працоўныя паляўнічыя ня мелі магчымасьці ўжываць у харчы прадукт свайго паляваньня з-за беднасьці, дык у апошнія часы—пасьля рэвалюцыі яны атрымалі гэтую магчымасьць.

Ня гледзячы на тое, што павялічыўся лік паляўнічых, выхад дзічы на той самай плошчы ня зьменшыўся; ён стаў толькі разьмяркоўвацца між большым лікам паляўнічых. Такім чынам на адзінку паляўнічага прыпадае меншая колькасьць дзічы. Аднак, пры правільна арганізаванай паляўнічай гаспадарцы інтэнсыўнасьць угодзьдзяў павялічыцца і гэтае адмоўнае зьявішча будзе зжыта, здабыча дзічы на кожнага паляўнічага павялічыцца, не зьмяншаючы асноўнага запасу.

Раней на продаж для унутранога спажываньня і экспарту дзіч ішла, галоўным чынам, з паўночных частак СССР. Між

тым практыка мінулага году паказала, што ў Беларусі дзіч можа здабывацца ў вялікай колькасьці і ісьці, галоўным чынам, на рабочае харчаваньне, згодна паказаньня Наркамснабу БССР.

Паляўнічая каапэрацыя, зьяўляючыся адзіным нарыхтоўшчыкам вадаплаваючай, балотнай і баравой дзічы, павінна выканаць заданьне Наркамснабу. Райтаварыствы павінны гэта заданьне давесьці да кожнай сельячэйкі і кожнага паляўнічага, шырока разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва, як сярод райтаварыства і сельячэек, так і асобных паляўнічых на лепшае выкананьне і перавыкананьне заданьняў.

Рашуча змагаючыся з апортуністычнай стаўкай на самацёк, з спасыланьнем на аб'ектыўныя ўмовы, мы павінны заявіць, што ніякіх аб'ектыўных умоў існаваць ня можа—аб гэтым сьведчыць ужо адно тое, што на кожнага паляўнічага Беларусі прыходзіцца толькі па дзьве штукі для таго, каб заданьне было выканана і перавыканана, а таксама і тое, што нашы паляўнічыя ўгодзьдзі дзічай багаты. Посьпехі дзічанарыхтоўчай кампаніі, галоўным чынам, павінен вырашыць калектыў,—арцель, брыгада паляўнічых, а ня толькі адзіночкі.

Практыка мінулага году паказала, што калектыўнае паляваньне дало вялізарнейшы эфэкт. Райтаварыствам і сельячэйкам трэба пасіліць працу па арганізацыі арцеляй і брыгад пры кожнай сельячэйцы. Калектыўнае паляваньне больш прадукцыйнае, больш інтэнсіўнае, не драпежніцкае і арцель і брыгады паляўнічых—асноўная апора за выкананьне заданьня.

Немалаважную ролю адбывае ў нарыхтоўках дзічы забесьпячэньне огнебояпрыладамі. Між тым некаторая частка паляўнічых траціла не гаспадарча шрот, страляючы па бутэльках, шапках і г. д.

У сучасны момант неабходна перайсьці ад простага гандлю боепрыладамі да выдачы огнебоепрыладаў пад кантрактацыю. Гэтым самым мы зможам стымуляваць пасьпяховае выкананьне заданьня і пры меншай затраце набояў павялічыць дзічанарыхтоўкі. Пераход ад простага гандлю огнебоепрыладамі да мэтаду кантрактацыі—магутны сродак у павялічаньні нарыхтовак дзічы ў сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічай гаспадаркі. Арганізаваўшы арцелі і брыгады паляўнічых, вытвараючы забесьпячэньне паляўнічых боепрыладамі на падставе мэтадаў кантрактацыі,—тым самым мы арганізоўваем паляўнічых вакол ячэек, раённых т-ваў, нарыхтовак дзічыны, аховы паляўнічых угодзьдзяў, барацьбы з браканьерствам і наладжваем паляўнічую статыстыку. Апрача таго мэтад кантрактацыі зможа больш падрабязна выявіць неабходную патрэбнасьць у огнебояпрыладах паасобных кварталаў паляўнічага сэзону і выявіць неабходныя лічбовыя паказальнікі для плянаваньня, як у галіне паляўнічай гаспадаркі, так і ў галіне нарыхтовак дзічы і пушніны.

Шрот закантрактаваным паляўнічым неабходна адпускаць, выходзячы з нормы 100 грам за птушку, здадзеную ў паляўнічую каапэрацыю, з відаў, паказаных вышэй. Райтаварыствам неабходна пераключыцца на работу з простага гандлю на мэтад кантрактацыі і плян нарыхтовак дзічыны павінен быць перавыканан.

Калі да гэтага моманту дзіч ня мела таварнага значэньня, дык у гэтым годзе паляўнічым трэба зьвярнуць больш увагі, каб апраўдаць тыя надзеі, якія ўскладзены на сыстэму паляўнічай каапэрацыі для найхутчэйшага і найлепшага вырашэньня рабочага забесьпячэньня, а таксама выкананьня заданьняў і па нарыхтоўцы пуху і пяра. Большая частка дзічы здабываецца ў цёплы час, ад чаго дзіч псуецца.

Паляўнічыя павінны прыняць усе крокі для таго, каб дзіч была скарыстана і не прападала задарма. Для захаваньня дзічы ад псаваньня на кароткі час на паляваньні, неабходна зрабіць наступнае: забітую птушку неабходна на першым прывале выпатрашыць, выцягнуўшы ўнутрэўе драўляным кручком, які можна зрабіць з сучка, а потым набіць лапкамі ельніку.

Райтаварыствы і паляўнічыя павінны зьвярнуць максымум увагі дзічанарыхтоўкам. Выканаем і перавыканаем заданьне здабычы птушкі! Арганізуем паляўнічыя арцелі, брыгады, калектыўныя паляваньні! Возьмемся, як адзін, за вырашэньне пастаўленых перад паляўнічай каапэрацыяй задач партыі і ўраду.

**Сямашка.**

# Стэпава-вазёрная паляўнічая гаспадарка на вадаплаваючую дзічыну ў Сібкраі

На Заходня-Сібірскай нізіне знаходзіцца вялізарны Барабінскі стэп, які вельмі багаты воднымі басэйнамі—азёрамі рознай велічыні. Буйнейшым з вадаёмаў зьяўляецца возера „Чаны", якое падзяляецца на „Большой чан" і „Малый чан". Плошча возера 339 тысяч 245 гэктараў. Другое па велічыні возера зьяўляецца „Сартлан" плошчай 26.886 га. Большасьць вазёр, асабліва найбольш буйнейшыя, утрымліваюць у сабе вялізарныя запасы рыбы і ў сэнсе рыбалоўства Барабінскія вазёры маюць вялізарнае значэньне ў Заходня-Сібірскім краі, асабліва „Чаны". Таварны выхад рыбы на 1930 год зьяўляўся ў 39.000 цэнт., што складае 12,5 проц. да агульнай таварнай прадукцыі ўсяе сельскай гаспадаркі, разглядаемай тэрыторыі.

Але апрача рыбнага багацьця „Бараба" багата і вадаплаваючай дзічынай. Качкі, гусі, лебедзі, гагары і інш. гняздуюцца ў мільённай колькасьці. Апроч аседлай дзічыны, якая гняздуецца на плошчы Чанаўскай вазёрнай сыстэмы, тут спыняецца на вясеньнім і асеньнім пералётах няўлічаная колькасьць п р а х о д н а й птушкі, якая гняздуецца паўночней у басэйнах рэк Іртыша і Обі, а можа быць і ў тундрах поўначы. Вынікі кальцаваньня качак даюць вядомае паказаньне, што мясцовыя качкі ўлятаюць на зімоўку ў Індыю. Улічваючы тыя факты, якія маюцца, што і качкі, якія гняздуюцца ў басэйне Іртыша пад 57—58 паралельлю (б. Тарская акруга) таксама зімуюць у Індыі і, маючы вынікі назіраньня над пралётамі птушак у Барабінскім стэпу, можна зрабіць заключэньне, што вазёры Чанаўскай сыстэмы ляжаць на шляху лініі пралёта птушак, якія зімуюць у Індыі.

Бараба і падаўней была вядома багацьцем вадаплаваючай дзічыны і, бязумоўна, зьяўлялася пунктам найбольшага згуртаваньня і канцэнтрацыі гэтай дзічыны на гняздоўі, якое ня мае роўнага па ўсяму Сібірскаму краю. Бязумоўна, такому становішчу садзейнічалі натуральныя ўмовы, колькасьць і якасьць вадаёмаў, якія знаходзяцца тут, з наяўнасьцю ў іх вялізарных кармавых рэсурсаў, зручнасьці месц для пабудовы гнёзд, зарасьнікаў для хаваньня і вырашчваньня моладзі, якія даюць гарантыю забясьпекі ад драпежнікаў. Для мясцовага насельніцтва промысел вадаплаваючай дзічыны зьяўляецца вялікім падспор'ем у яго бюджэце, даючы значную колькасьць мясной прадукцыі, а таксама яек, збор якіх учыняецца інтэнсыўна. Праўда, гэты промысел да апошняга часу амаль зусім ня ўлічваўся ў эканоміцы насельніцтва. Гэта можна тлумачыць толькі існуючым з боку адпаведных органаў няверным поглядам на паляваньне наогул, як на нешта ня суразнае, а тым больш на вадаплаваючую дзічыну, ня меўшую ў мінулым таварнага значэньня. Багацьце дзічыны Барабінскіх вазёр выклікала наезды паляўнічых аматараў, бывала, з далёкіх мясцовасьцяй. І цяпер яшчэ Бараба ня страціла свайго значэньня ў адносіне дзічыны, ня гледзячы на тое, што насельніцтва, сьвядомае або несьвядомае, прымала ўсе меры да таго, каб зьнішчыць усё багацьце.

На працягу шмат дзесяткаў год, з году ў год увесну, у пэрыяд гнездаваньня дзічыны, над Барабінскім стэпам вісела дымавая заслона. Пах дыму адчуваўся на ўсёй тэрыторыі Барабы. Удзень можна было бачыць навокал, ва ўсіх баках слупы дыму, якія падымаліся да неба. Уначы ўсюды віднеліся заравы ад пажараў. Гэта гарэлі „Сібірскія джунглі", вялізарныя зарасьлі чаротаў, якія служылі месцам гнездаваньня пернатай дзічыны. Пажары гэтыя не зьяўляліся выпадковымі. Іх учыняла мясцовае насельніцтва ў мэтах збору яек дзікай птушкі. Як ужо было сказана вышэй, збор яек меў

вялічэзнае значэньне для сельскага насельніцтва. Нарыхтоўваўся прадукт для гадавой патрэбнасьці. Ня было, амаль ніводнай вёскі, насельніцтва якой, хаця-б у некаторай сваей частцы, не займалася ўвесну дармовымі яйкамі. Ніякіх лічбаў аб колькасьці збору яек за старыя гады ня маецца. Матар'ялы, атрыманыя эканамічным паляўнічым абсьледваньнем гэтай тэрыторыі, якое было ўчынена Сібірскім паляўнічым саюзам у 1930—31 годзе, вызначаюць колькасьць сабраных яек за апошнія гады ў 7 мільёнаў штук. Бязумоўна, што збор за мінулыя годы выяўляўся ў лічбах куды большых. Тады колькасьць збору вызначалася не дзесяткамі або сотнямі, а брычкамі або лодкамі. „За два тыдні сям'ёй здабылі 5 лодак"— хваляцца старыя прамыслоўцы.

І зусім зразумела, што для збору такой вялізарнай колькасьці яек, звычайны, існуючы спосаб збора іх шляхам адшуканьня асобных гнёзд не гадзіўся. Адшуканьне гнёзд у суцэльных зарасьлях,— справа марудная, патрабуючая шмат часу. Неабходзен якісьці другі спосаб, дазваляючы з найменшай затратай працы і часу дасягнуць найвялікшай эфэктыўнасьці; вымагалася „рацыяналізацыя" яечнага промыслу. Вопыт паказаў, што такім спосабам будзе выпальваньне плошчы чаротаў, дзе найбольшае скапленьне гнёздаў. Штучна пушчаны пал зьнішчае ўсе перавагі для хуткага адшуканьня гнёзд. Нямінуючае пры пажары псаваньне агнём значнай часткі яек значэньня ня мела. Хай дастанецца хаця частка яек, яна будзе больш за таго, што можна сабраць пры нармальным адшуканьні гнёздаў.

У маі месцы, калі па разьліках прамыславіка ў некаторых відаў дзічы ўжо павінны быць зьнесены поўныя кладкі яек, ён з сям'ёй накіроўваецца на вызначанае месца і пускае пал. З моцным шумам загарэўся сухі чарот. Агнявыя языкі абхопліваюць масы чаротаў, густымі белымі клубамі вырываецца дым і паветравым цячэньнем разносіцца далёка па ваколіцах. Птушка, сідзячая на гнёздах, чуючы набліжэньне агнявой стыхіі, падымаецца на паветры і доўгі час носіцца над пажарышчам.

Нярэдка апаленыя агнём або папаўшыя ў паласу едкага дыму, задушаныя апошнім, яны падаюць і гінуць. Калі вядомая частка плошчы, дзе стаялі густыя чароты, ужо выгарала і ўяўляе сабой чорны гладкі прастор, на якім дзе-ні-дзе прабіваецца струйкамі дым, калі агонь сваёй галоўнай масай пайшоў далей і пыл яго ужо не адчуваецца, прыступаюць да збору яек. На чорным фоне пажарышча ўцалеўшыя яйкі відаць далёка і збор іх падобен збору грыбоў—нагінайся і бяры. Але неабходна сьпяшацца: ужо зьявіліся канкурэнты. З усіх бакоў налятаюць шэрыя вароны, сарокі, балотныя луні. Яны ведаюць па вопыту, дзе прайшоў пажар—там багатая пажыва і сьпяшаюцца пакарыстацца ёю. Хмары разбураных пажарам птушак з крыкамі носяцца над пажарышчам. Звонкімі галасамі пераклікаюцца задаволеныя зборшчыкі яек, адносячы ў вёдрах і карзінах сабраныя яйкі ў брычкі. Агонь пашоў ужо далёка. Зарасьлі цягнуцца на вялізарную адлегласьць, куды большую супроць той, якую ў сілах абхваціць сям'і селяніна, што ўчыніла падпал. Колькі тут загінула зародкаў будучых жызьняй, загінула зусім бяз усякай карысьці для чалавека, падлічыць ніяк немагчыма.

Апроч такіх падпалаў, учыняемых з спэцыяльнай мэтавай установкай — для збору яек іх, пускаюць і для іншых мэт: апальваньне сенакосных вучасткаў, часта выпадкова кінутая незатушаная пры закурваньні цыгаркі сярнічка, а то і проста, каб пусьціць палы, бо пусканьне палаў увесну шырока распаўсюджаны ў Сібіры. Гэта ня было зьявішчам мінулага, яно існуе і зараз. У мінулым 1930 годзе Сібірскі краявы паляўнічы саюз забіў трывогу ў адносіне веснавых пажараў, губячых вялікую колькасьць дзічыны. Ён зьвярнуўся ў краявыя органы—Сібкрайвыканком, краявую пракуратуру, краявыя зямельныя ўправы. Але акруговыя і раённыя арганізацыі не адвялі справе барацьбы з пажарамі дастатковай увагі. Усе даныя дырэктывы і загады на мясцох амаль ня выконваліся і пажары бушавалі па ранейшаму,

Апроч апісанага яечнага промысла даволі значна было разьвіта і здабываньне самой дзічыны. Паляваньне з стрэльбай у гэтым промысьле мела малое значэньне. Вялізарная частка здабычы атрымлівалася ад дапасаваньня розных спосабаў лову, якія лічуцца шкоднымі, а таму і за-

баронеными. З усіх спосабаў паляваньня бяз стрэльбаў на першым месцы па колькасьці здабываемай прадукцыі стаяў лоў гоннымі сецямі вадаплаваючай дзічыны, галоўным чынам, качак і гусей у пэрыяд іх лінькі, калі птушка траціць здольнасьць лётаць. У другой палове чэрвеня, адчуўшы набліжэньне пырыяду лінькі, птушка—самцы і халастыя самкі (самкі, якія вывялі птушанят, ліняюць пазьней), зьбіраюцца ў вялікія зграі, бывае дасягаючыя колькасьцю да 2—3 тысяч штук і садзяцца ўсёй масай на якое-небудзь знаёмае возера, дзе шмат неабходных кармавых рэсурсаў, а таксама маюць такія мясцы, дзе птушка можа схавацца на часы яе бяспомачнага стану ад шматлікіх наземных і паветраных ворагаў. Гэтым умовам упаўне адпавядаюць густыя зарасьнякі чаротаў, а таму, як правіла, „лінныя“ азёры заўсёды пакрыты чаротам (па мясцоваму—камышом). Дзякуючы той абставіне, што лінька ўтвараецца з году ў год на адных і тых самых азёрах, мясцовае насельніцтва ведае гэтыя вазёры, раней назірае засеўшай на лінька зграі і арганізуе лоў. Арганізуюцца арцелі ў колькасьці 7—10 чалавек, кіраўнікі якіх называюцца „башлыкамі“.

Прыладамі лова служаць спэцыяльныя сеці „гоны“, вязаныя з тоўстых нітак №№ 00 і 0. Ячэя сеці 55,60 с. м. Кожная сець—гон мае ў доўжкі 20 мэтраў, вышыні 2 мэтр. Колькасьць гонаў на арцель ад 10 да 20, значыцца, кожная арцель мае сецей ад 200 да 400 мэтр. Башлык вядзе назіраньне за ліняючай птушкай і калі наступае час лову (звычайна канец чэрвеня і першая палова ліпеня), арцель накіроўваецца на возёра з гоннымі сецямі. На паказаным башлыком месцы ў чаротавых зарасьлях на возеры ўстанаўляюць сеці на колах, утвараючы ня скончанае кола, якое называецца „двор“ або „прыгон“. Месца, неабцягнутае сецьцю, носіць назву „вароты“, ад варот па абоіх баках прыгона ставяць з сецяй-жа адкрылкі. Сеці ніжняй часткай датычаць да возера і значная частка іх узвышаецца над паверхняй вады, калі прыгон загароджан і адкрылкі пастаўлены па дадзенаму башлыком знаку, частка лаўцоў у брод па возеру ўхоплівае месца, дзе знаходзіцца зграя, паўкругам і гоніць птушку да прыгона. Расстаўленыя в разьлікам адкрылкі не дазваляюць зграі ляцець у бок і, у канцы канцоў, яна ўся поўнасьцю заходзіць у „прыгон“.

Вароты зачыняюцца раней прыгатаванай сеткай, прамысьлавікі ўваходзяць у прыгон, ловяць згруджаную птушку і забіваюць. У сярэднім кожная арцель на працягу месяца здабывае лінной птушкі да 20.000 штук качак. Гусей здабываецца значна менш. Агульная-ж колькасьць, здабываемай гонамі птушкі на ўсёй тэрыторыі падлічваецца ў 1 мільён штук. Значная частка здабытай дзічыны, дзякуючы цёплай пагодзе, якая стаіць у час промысла, далячыні паляўнічых угодзьдзяў ад месца жыцьця лаўцоў, псуецца і выкідаецца. Такім чынам ня служыць прадметам харчаваньня насельніцтва.

Другім спосабам здабываньня дзічыны зьяўляецца лоўля сілкамі, або плёнкамі, які ўчыняецца і ўвесну, і ўлетку, і ўвосень. Хаця такога колькаснага эфэкту, які даюць гонныя сёці, лоўля сеткамі не дае, за тое колькасьць прамысловікаў, якія займаюцца гэтай справай, значна больш, ды і пэрыяд лову цягнецца шмат далей, таму агульная колькасьць здабычы сілкамі зусім ня ўступіць першаму спосабу ад гонных сецей.

Упаўне натуральна, што наяўнасьць вялізарнай колькасьці дзічы, яе нязвычайная скучанасьць, выклікалі і большае скапленьне на данай тэрыторыі розных драпежнікаў, асабліва пярнатых. Вызначыць колькасна ўрон, які наносіцца імі, ніякім чынам немагчыма. Трэба меркаваць, што хаця гэты ўрон і мог выяўляцца ў адносна буйных лічбах, але процант яго да агульнай колькасьці дзічы, якая ёсьць там, не перавышае звычайнага. Таксама пры такім пасіленым зьнішчэньні, якое ўтварала мясцовае насельніцтва ў запасах дзічы, што маецца тут, можна лічыць, што процант натуральнага адхода вадаплаваючай птушкі не перавышае звычайнай нормы. Ёсьць поўная падстава меркаваць, што найбольш сур'ёзным зьнішчэньнем птушкі зьяўляецца чалавек, які дапасоўвае вышэйпаказаныя зьнішчаючыя спосабы. Гэтыя спосабы вядуць да прагрэсыўнага зьнішчэньня дзічыны. А што такое сапраўды ўтвараецца, у гэтым няма ніякіх сумненьняў. У нас няма для параўнаньня лічбы, вызначаючай наяўнасьць птушкі ў ранейшыя часы і зараз, але па

заяве шмат якіх паляўнічых-старажылаў, колькасьць птушкі зьмяншаецца з году ў год.

Зараз, калі перад намі востра стала пытаньне аб вырашэньні мясной праблемы, калі неадкладнай задачай сёнешняга дню зьяўляецца адшуканьне новых харчовых рэсурсаў, якія могуць замяніць мяса свойскіх жывёл, ігнараваць вылічаемую мільёнамі колькасьць вадаплаваючай дзічыны, вядома, ня прыходзіцца. Але недапушчальна безрассудныя адносіны мясцовага насельніцтва да запасаў дзічы, якія зараз ёсьць і ўяўляюць каштоўнае мяса, адносіны бесгаспадарчыя, мяжуючыя з расьцягненьнем народнай гаспадаркі—неабходна крута зьмяніць.

Вадаплаваючая дзічына набыла таварнае значэньне, зрабілася прадметам вядомай каштоўнасьці, значыцца, значэньне яе для дзяржавы ўпаўне вызначылася, а таму пасыўныя адносіны да лёсу вадаплаваючай дзічыны ў далейшым былі-б злачынствам.

Заходня-Сібірскі Краявы паляўнічы саюз узяў на сябе задачу выканаць прапанаваны плян нарыхтовак пярнатай дзічыны і тым самым садзейнічаць задавальненьню мясной прадукцыі рабочых цэнтраў, а разам з тым і аднаўленьню жывёлаводства, бо за кошт мяса вадаплаваючай дзічыны захаваецца вядомая колькасьць свойскай жывёлы.

Грубы арыфмэтычны падлік гаворыць, што стопроцантнае выкананьне пляна нарыхтовак захавае 40.000 галоў рагатае жывёлы па Заходня-Сібірскаму краю.

Паралельна з выкананьнем плянаў дзічы, з адстрэлам падаўляючае вялізарнасьцю лічбаў колькасьці дзічы, неабходна захаваць і на будучыя часы дастатковую колькасьць асноўных вытворцаў дзічы, каб у будучым прыплод павялічваўся з года ў год. Такія магчымасьці можа даць толькі арганізацыя паляўнічай гаспадаркі на асобных паляўнічых угодзьдзях, прыпісаных да сыстэмы Заходня-Сібірскай паляўнічай каапэрацыі. Заходня-Сібірскі краявы паляўнічы саюз да такой арганізацыі прыступіў. Вялізарная плошча сыстэмы Чанаўскіх вазёр у 30000 квад. кілёмэтраў замацавана за паляўнічай каапэрацыяй для арганізацыі дзічнае паляўнічае гаспадаркі.

**Вч. Ушакоў.**



**Выканаем заданьне па дзічанарыхтоўцы. 35 тысяч птушак заменяць 350 галоў рагатага ската.**

# БОБР—ВАЛЮТА

## Пакласьці канец барбарскаму зьнішчэньню баброў.

Ня будзем гаварыць аб тэй вялікай каштоўнасьці, якую ўяўляе сабою бобр. Мы толькі напомнім чытачам, што эўрапейскі бобр захаваўся выключна ў СССР. Другі сходны, менш каштоўны від бабра ёсьць у Паўночнай Амэрыцы, дзе ён разводзіцца штучным спосабам. Па СССР бобр застаўся толькі ў Беларусі і ў Варонескай акрузе.

Савецкая ўлада зьвярнула вялікую ўвагу на гэтага вельмі каштоўнага зьвера і тыя месцы, дзе ён больш за ўсё захаваўся—басэйн ракі Бярэзіны і каля Варонежу—пастановай ураду абвешчаны запаведнікамі і гэтым самым дадзены ўсе магчымасьці для распладжваньня бабра.

Апрача ракі Бярэзіны ў БССР басэйн ракі Сожа з яе прытокамі, дзе маюцца бабры, абвешчаны пастановай Наркамзему заказьнікамі. Здавалася, што пастанова ўрадавага органу павінна выконвацца ўсім насельніцтвам, адміністрацыйнымі і грамадзкімі організацыямі, аднак на самай справе далёка ня так. Зьмяшчаемы матар'ял па выніках абсьледваньня паляўнічазнаўцамі Сямашкай і біолёгам Патцэра бабровых месц па рацэ Сож і яе прытоках паказвае, што, пачынаючы прыблізна з 1923 году па 1931 год, у гэтых мясцох зьнішчана больш 35 баброў.

Адчыненыя на баброў заказьнікі зусім не ахоўваюцца. Расьліны, якія служаць кормам для бабра, лаза і інш. высякаюцца. Рыбаловы, пастушкі і нават паляўнічыя самымі рознастайнымі барбарскімі спосабамі зьнішчаюць бабра.

Бабровай гаспадаркай ніхто ня цікавіцца. Зямельныя органы Чэрыкаўскага, Крычаўскага і Клімаўскага раёнаў ня прымаюць ніякіх мер для захаваньня бабра і яго памнажэньня: выдаюць дазволы на лоў рыбы, высечку лазы ў мясцох гнездаваньня бабра. Рыбацкія арцелі, атрымаўшы дазволы на лоў рыбы, на вачох грамадзкасьці забіваюць, ловяць сецямі бабра і застаюцца непакаранымі. Больш таго, выяўлены факты, калі браканьер, забіўшы бабра, судом аштрафоўваецца толькі ад 5 да 20 руб. у той час, калі бобр зьяўляецца ў некалькі разоў каштоўней і гэтым самым ня толькі не вялася барацьба з браканьерамі, але патуралі драпежніцтву.

На аснове пададзеных фактаў:

Мы абвінавачваем кіраўніцтва Крычаўскага, Чэрыкаўскага і Клімавіцкага райтаварыстваў паляўнічых у безгаспадарчых адносінах да бабровай гаспадаркі; кіраўніцтва зямельных органаў гэтых раёнаў не змагалася з драпежнікамі бабровай гаспадаркі.

Мы патрабуем ад адміністрацыйных органаў і органаў прокуратуры памянёных раёнаў ужыць самыя энэргічныя захады для барацьбы з драпежнікамі бабровай гаспадаркі, прыцягнуць да адказнасьці працаўнікоў зямельных органаў і райтаварыстваў, якія на працягу доўгага часу патуралі барбарскаму зьнішчэньню бабра і ня ўжывалі ніякіх мер для аховы бабра.

Мы прапануем Чэрыкаўскаму, Крычаўскаму і Клімавіцкаму райтаварыствам тэрмінова прыступіць да організацыі бабровай гаспадаркі. Зараз-жа устанавіць штат „егераў" для аховы бабровых заказьнікаў. Белкохотсаюзу організаваць адпаведныя навуковыя сілы і аказаць практычную дапамогу ў організацыі бабровай гаспадаркі.

Бобр—багацьце паляўнічай гаспадаркі БССР. Бобр—валюта. Бобр павінен быць ахован ад драпежнікаў.

# Бабры ў былой Магілеўшчыне

Выехаўшы 26/XI 1926 года ў Крычаўскі, Чэрыкаўскі і Клімаўскі раёны па заданьню „Белкохотсоюза" для абсьледваньня баброў, я ўпэўніўся, што ў Крычаўскім раёне ёсьць каля 10 сямей (вярней трэба лічыць ня лік сямей, а лік жылых хат і нор, бо ў норы ці ў хаце можа быць і адзіночка), у Чэрыкаўскім каля 14 жылых нор і хат і ў Клімавіцкім раёне каля 20, а ўсяго прыблізна 44 жылых

хат і нор. Грубая схэматычная карта пасяленьня баброў перадана мною з дакладнай запіскай сакратару праўленьня „Белкохотсоюза“.

Па паказаньню паляўнічых, лік сямей значна большы. Так, грамадзянін першага Крычаўскага пасёлку Скачкоў Сямён гаворыць, што вышэй Крычава—29 сямей, а грам. г. Чырыкава Ефстаф'еў Міхась паказвае толькі вышэй г. Чэрыка 16 сямей, але паказаныя імі некалькі нор відаць займаюцца ня розьнымі сем'ямі, а аднэй і тэй-жа сям'ёй, так што прыходзіцца лічыць ня ўсе норы, а толькі тыя, у якіх бобр зімуе. Праверыць дакладна колькасьць жывых нор, падлічыць запасы, хаця-б прыблізна лік экзэмпляраў у сям'і ніяк не ўдаецца, бо закраіны (замёрзлы лёд у берагоў) на рэчках і мяккі лёд на азёрах і старарэччах, які не прасьвечваецца, а таксама вельмі высокая вада скрыла выхады нор, запасы кармоў і інш.

У цэнтральным, а таксама раённых праўленьнях паляўнічага саюза няма хаця-б больш ці менш дакладных даных аб колькасьці жылых хат і нор і аб месцы знаходжаньня апошніх. Няма ўсюды вызначаных, прымацаваных членаў саюза, якія-б цікавіліся і глядзелі за бабрамі.

Колькасьць баброў, ня гледзячы на тое, што за апошнія два гады прымаліся, хоць і малыя меры да іх абароны, слаба павялічваецца. Гэта тлумачыцца тым, што бабры ўвесь час прасьледуюцца і трывожацца як чалавекам, так і сабакамі. Ні адзін рыбак—селянін або пастушок ня можа стрымацца, каб не пагнацца, ня кінуць чым небудзь, ня ўдарыць восьцямі, вяслом ці палкай ва ўбачанага ім бабра. Хаты іх паляць або разбураюць. Бадзячыя ў вялікай колькасьці на ўгодзьдзях сабакі, а таксама паляўнічыя сабакі ў часы паляваньня на качак, зайцоў ці яшчэ горш—харкоў, таксама не прапускаюць бабра і нярэдка душаць маладых. Бабраты пападаюцца ў сеці, жакі і там задыхаюцца. Колькасьць кармоў па берагох рэк і азёр з году ў год памяншаецца, бо кусты выразаюцца на атапленьне, а лаза на кошыкі і замацаваньне чыгуначных і шасэйных дарог, якія там напава будуюцца.

Часьцей за ўсё або бліжэй за ўсё да баброў маюць дачыненьне не паляўнічыя, а рыбакі, і адносіны рыбакоў да баброў зусім варожыя. Усе яны ў адзін голас завяраюць, што дзе бобр, там няма рыбы, што бобр паядае і псуе (робіць параненьне) рыбу, перавдае рыбакам сеці, зьядае рыбу ў жаках і на куконах і г. д.

Грам. г. Крычава Гулікаў бачыў, як бобр плаваў з яшчэ жывой буйной рыбай у роце. Ён-жаназіраў з іншым рыбаком, як два бабры ганяліся за ляшчамі і адзін раз нашлі аб'едзенага ляшча з сьлядамі бабра ў яго. Скачкоў Сямён з першага Крычаўскага пасёлку бачыў, як бобр цягнуў мянтуза ў нару. Грам. в. Рэўта Сапроненка Амельлян бачыў косьці рыбы і сьляды бабра, а ня выдры каля іх. Шмат хто гаворыць, што бобр есьць толькі мяса, а косьці пакідае.

Якраз на долю рыбакоў падае найбольшы процант забітых баброў.

Вось далёка няпоўны сьпіс пагібелі баброў па раёнах, згодна сабраных мною зьвестак.

Чэрыкаўскі раён.

У 1914 г. рыбак Ефстаф'еў застрэліў бабра і прадаў аптэкару за 25 руб., а апошні перадаў у Магілеў за 75 р.; рыбак Грабарчук забіў бабра; у 1922 г. злавілі бабра (самца) на лузе каля рэчкі Волчас; рыбаком злоўлена ў невад і забіта самка бабра з чатырмя ўжо добра разьвітымі плодамі.

У 1923 г. рыбак Грабарук забіў другога бабра, які спаў на кустох; у 1924-25 г. рыбакі в. Охер на Сожы супраць г. Чэрыкава забілі восьцямі маладога бабра; у 1929 г. знайшлі бабра з разьбітай галавой супроць в. Манастыршчына і прадалі прыватніку за 20 руб.; у возеры былога маёнтку Палонскага па рэчцы Волчас быў забіты рыбакамі бобр.

У 1930 г. улетку пастушкі вёскі Охар злавілі на лузе бабра і замучылі яго, былі палкамі, цягалі за хвост і г. д.

Усяго па раёну зьнішчана 13 баброў.

Крычаўскі раён.

У 1920-21 г. грам. г. Крычава Курсакоў у возеры Цяжэбным улетку забіў бабра-самку, а ўвосень двух маладых баброў і шкуры прадаў Шоламу Кагану ў г. Крычаў; у 1921 г. забіт бобр з вінтоўкі на возеры Асінкі ніжэй упаданьня ў Сож р. Лабжанкі, у 1922-23 г. сабакі паляўнічага Шахрая з г. Крычава выцягнулі з нары і задушылі двух маладых баброў; у 1925 г. рыбак Мельнік з в. Задобрасьць забіў бабра ў ніжнім Старасожжы;

у 1925 г. рыбакі з в. Каменкі у возеры Цяжобным выцягнулі невадам бабра гадавіка і забілі яго; у 1925 г. каменскія рыбакі (Міхальчанка Аляксей і інш.) в. Верхняе Старасожжа выцягнулі бабра самку і забілі вяслом. Мяса закапалі, а скуру спарылі; рыбаком в. Глушнёва быў падбіты трымя выстраламі і дабіт вяслом бобр у часовага чыгуначнага маста; у 1924-26 г. у возеры Старасожжы грам. в. Сакольнічы ў жак папаліся два бабраняты і задохліся там; у 1926 г. рыбакі злавілі ў невад старога бабра-самца і забілі яго; у 1927 г. таксама старога бабра-самца выцягнулі невадам і забілі ў Верхнім Старасожжы і рыбакі в в. Сакольнічча, але, баючыся пакараньня, сказалі, што выцягнулі мёртвага.

У тым жа годзе рыбакі забілі самку з малаком, так што яе бабранягкі, відаць, таксама загінулі; у 1928 г. увосень рыбакі ў ніжнім Старасожжы развурылі хату бабра, будуючы тоню для невада; у 1928 ці 29 годзе ўлетку рыбак в. Кашаны злавіў жыўём бабра, але па настаяньню паляўнічага Тарасевіча пусьціў зноў у раку; у 1929 г. рыбакі ў адным з вазёр злавілі бабра, але забілі яго ці пусьцілі зноў, выявіць не ўдалося; у 1930 г. грам. Калатоўка з в. Прудок забіў бабра ў канаве ў другога шасэйнага маста. Суд прысудзіў яму штраф— 5 руб.

Усяго па раёну забіта 18 баброў.

Клімавіцкі раён.

З 1917 па 1921 год забіта баброў грам. в. Рэўта 5 штук, в Лапатавічы—2, в. Рудні—3, в. Дуброўкі—2.

У 1927 г. грам. в. Гразевіцкая Слабодка забіў бабра ў Чортава віра і прадаў яўрэю з Крычава; у 1928 г. забіты бобр у р. каля в. Грышына. Скурка адабрана і грам. асуджаны—штраф—20 руб.; у 1929 г. рыбак в. Бярозаўкі Дуброўскі Ягор і інш. зімою ганялі рыбу гонамі вышэй в. Рэўта пад купальняй і забілі бабра васьцямі; у 1929 г. забіт бобр грам. в. Рудні Кукуравым.

У тым жа годзе ў аднаго кулака пры раскулачваньні знайшлі скурку бабра. У 1930 г. 28/VI у грам. в. Асмаловічы Судзіловіча адабраны бабронак і скурка здана ў магазын раённага паляўнічага т-ва. Па словах грам. Асмаловіча бабронак быў злоўлены ім на вудачку для шчупакоў, на плотку.

Усяго па раёну забіта 18 баброў.

Па сьпісу заказьнікаў, фактычна існуючых на 1 кастрычніка 1929 г. за №№ 38, 39, 40, лічацца заказьнікі на баброў у Клімавіцкім раёне па р. Лабжанка, а ў Крычаўскі і Чэрыкаўскі раёнах па р. Сожы і прылягаючых да яе вазёрах, але на мясцох ніхто аб заказьніках ня чуў. Заказьнікі бабровыя засталіся толькі ў сьпіску, як належыць не афармлены і да нізоў (сялян, паляўнічых і рыбакоў) не даведзены. Цікава адзначыць, што бабры ў гэтай мясцовасьці не мясцовыя, а прывозныя з Украіны, па словах сялян з ракі Умані, Воронескай губ. Так, грам. першага Крычаўскага пасёлку Скачкоў Сямён гаворыць, што ў 1901 г. Чэрыкаўскі абшарнік Панятоўскі прывёз з р. Умані, Варонежскай губ. 2 пары баброў і пусьціў іх р. Волчас, упадаючую ў р. Сож. Але бабры ў рэчцы не засталіся, а перайшлі ў рэчку Сож і абасноваліся ў берагох урочышча Манастыршчына. Адтуль яны разышліся ўніз і ўверх па азёрах.

Хутка пасьля гэтага Крычаўскі абшарнік Галынскі прывёз адтуль-жа, адкуль і Панятоўскі, пару баброў і пусьціў іх у р. Сож, нарабіў ім нор і хат з гальля. Аднак бабры гэтымі норамі і хатамі не карысталіся, а пасяліліся ў старых выдравых норах ва ўрочышчы Сянькоў бераг, ня вельмі далёка ад ўпадзеньня рэчкі Лабжанкі ў Сож. Да гэтага часу, апавядаюць сяляне, баброў у акрузе ня было. Галынскі перад выпускам баброў склікаў мясцовых паляўнічых, паказаў ім бабра і прасіў не забіваць гэтага зьвера. Па словах грам. в. Рэўт Сапрыкова Мікіты, Амельляна і інш. бабры ў р. Лабжанцы не вяліся і толькі лет 20 таму аднекуль зьявілася першая пара баброў. Ка і аднаго з іх грам. в. Рэўт злавілі ўсёй вёскай жыўём і пасадзілі ў бочку з вадой, усе зьбегліся глядзець на нябачнага зьвера. Бабра гэтага пусьцілі зноў у рэчку і ад той пары разьвялі бабраў у р. Лабжанцы. Вось апісаньне бабровых пасяленьняў па раёнах.

Крычаўскі раён.

У Крычаўскім раёне бабры жывуць у нізоўі рэчкі Лабжанкі, якая ўпадае ў Сож не непасрэдна, а праз возера Верхняе Старасожжа; па рэчцы Сож (ад 2 шасэй-

нага маста да Сакольнінскай або мелавай гары супроць першага Крычаўскага пасёлку і вёсцы Паклады), а галоўным чынам у пойменных вазёрах і старарэччах, як Цяжэбнае возёра, Бердзін Рог, верхняе і ніжняе Старасожжа.

Усе гэтыя вазёры ляжаць на левых бакох ракі Сожу і ўяўляюць сабой старое русло ракі. Трохі ніжэй гэтых вазёр бабры жывуць у правым беразе ракі Сож. У гэтым раёне асабліва цяжка было праверыць колькасьць жылых нор, бо бабры тут і самі жывуць у норах і ўсе запасы харчоў забіваюць туды, а норы пад льдом зусім ня відаць.

Спакайней за ўсё, вядома, параўнаўча, адчуваюць сябе бабры ў возёры Цяжэбнае, бо адзін бок яго балоцісты і не даступны (бераг), а дно завалена карчамі і ў ім мала зручных тоняў для невадаў. На жаль, у гэтую зіму Крычаўская рыбалоўная арцель расчышчае ў некалькі мясцох бераг і будуе тоні. Левы бераг Сожа і берагі вышэйпамянёных вазёр мясцамі парасьлі дробнай лазой, з якой плятуць кошыкі, мясцамі дубняком, а правы бераг амаль што голы. Тырчачыя ўсюды пні гавораць, што абодвы берагі ўперад былі густа заросшымі дрэвамі.

У 1927-28 годзе на замацаваньне адкосаў чыгункі, якая тады будавалася, зрэзалі ўсю лазу на берагох і бабры тады галадалі, а таксама ня мелі месца дзе схавацца. Тут бабры паядаюць у вялікай колькасьці хвошч, які расьце ў вадзе. Між іншым на гэтым-жа вучастку разам з сьлядамі баброў пападаецца шмат сьлядоў выдры.

Уся пойма і месца, дзе жывуць бабры, вясной затапляюцца. У 1929 годзе ў высокую ваду баброў бачылі на палёх грам. 1-га Крычаўскага пасёлку. Увосень 1928 г. бабры, як відаць, адчуваючы высокую ваду, пабудавалі дзьве хаткі на возеры Цяжебнае і адну хатку ў ніжнім Старасожжы. Апошняя хата ў тую-ж зіму была разбурана рыбакамі, а апошнія дзьве былі кінутымі бабрамі ўвясну.

Лугі па берагох, дзе жывуць бабры, знаходзяцца ў карыстаньні сялян ваколічных вёсак. Паляўнічыя кажуць, што бабры нядаўна былі ў Маляціцкім сельсавеце па р. Маляцічы блізка вёскі Добры і ў Ваеўскім сельсавеце ў возёры Самалёва па р. Волчас, але зараз там баброў ня відаць. Кажуць, што ёсьць бабры і ў Кашанскім сельсавеце, але праверыць гэта мне не ўдалося.

Клімавіцкі раён.

У Клімавіцкім раёне бабры вядуцца па р. Лабжанцы, левы прыток р. Сож, амаль на ўсім працяжэньні яе. Да рэвалюцыі баброў разьвялося ўжо даволі многа; было іх куды больш, чым зараз. Мною разам з інструктарам Белкохотсаюза т. Сямашкам абсьледвана ніжняя палова цячэньня р. Лабжанкі да Крычаўскай граніцы. Вышэй г. Клімавічы баброў абсьледваў тав. Сямашка. Лік жылых хат і нор вышэй г. Клімавічы па славох прыказчыка магазыну тав. Гомалкі каля 6—7.

Рэчка Лабжанка ад г. Клімавіча да возера і в. Рудня мае даволі высокія берагі. Берагі гэтыя дзе-ні-дзе крута спускаюцца проста ў рэчку і парасьлі тут зьмешаным лесам. Вось у такіх мясцох і назіраецца прысутнасьць бабра. На ўсім апошнім працяжэньні берагі рэчкі ўперад, відаць, паросшыя дрэвамі і кустамі, зараз амаль голыя. Усё вырублена на дровы: вербы або ракіты стаяць дзе-ні-дзе адзіночкамі, лазы вельмі мала, часьцей за ўсё відаць альховыя кусты і рэдка дубкі.

Бабру харчоў тут на рэчцы не хапае і яму прыходзіцца падымацца на круты бераг поймы і валіць асіну вышэй памянёных мною месц. У в. Рудні берагі нізкія. Тут было ўперад возера, а зараз засталося вазёрышча і разрытае ў 2—3 мясцох высокая плаціна. На гэтым вучастку працяжэньнем 12 кілёмэтр., па словах паляўнічых в. Рэута Сапраньковых Мікіты і Амельляна, якія цікавяцца бабрамі, і прыказчыка Клімавіцкай паляўнічай крамы тав. Гомалкі жывуць 15 сямей.

Першая нара нямнога вышэй в. Рэута ў б. дзягцярнай печы блізка гарадзкой купальні на левым беразе; другая нара супроць в. Рэута, чуць вышэй яе, на левым беразе; трэцяя нара трохі ніжэй в. Рэута на высьпе „Іёселева Лучка“; чацьвертая нара на высьпе „Салатковы дубы“; пятая нара каля старожкі хутара Мартына Радзіёнава ў лужку, у крутым левым беразе (запасаў лазы знойдзена шмат); шостая нара ніжэй маста ў вераб'ёвай завадзі на правым беразе.

Бераг гэты высокі, абрывісты, парос зьмешаным лесам, у берага глыбокія віры і калоды. Бобр вылазіў тут на бераг і падразаў асіну 4 вярш. таўшчынёй.

Сёмая нара ў „Гарэлага дуба" ў левым адвесным беразе, парослым буйным альхоўнікам. Лазы вельмі мала, вярба рэдка, але блізка самаго берага лес з невялікай прымесьсю асіны; восьмая нара трохі ніжэй маста па дарозе з Лапатавіч у в. Баб'я Гара і вышэй Чортавага віра ў кутку ніжняга канца Старарэчча і р., у левым беразе.

У гэтым месцы ёсьць выспачка карзіначнай івы і хаця рэдка растуць ракіты на беразе.

Дзевятая нара ва ўрочышчы „Пабедаўскі луг" на левым беразе, парослым рэдкімі альховымі кустамі. Лазы мала.

Урэшце, супроць в. Рудня ў старой грэблі, перасечанай размывам на дзьве або тры выспачкі ёсьць тры ці чатыры сям'і.

На першай выспачцы (якая далей ад в. Рудні), куды нам удалося пранікнуць па ужо таяўшаму лёду, мы знайшлі дзьве набудовы бабра: падобна хатцы ці адрамантаванай нары. Над нарой нацягана бабром куча палак аб'едкаў. Хатка гэта знаходзіцца на абодвых канцох доўгай выспы—абрыўка плаціны.

У сярэдзіне выспы з ніжняга боку паціны ёсьць запасы лазы пад лёдам. Па ўсіх адзнаках, відаць ёсьць адна сям'я і на другой выспачцы, куды нам пранікнуць ніяк не ўдалося, бо лёд растаяў і месца было вельмі глыбокім. Лазы, вярбы тут шмат. Ніжэй в. Рудні па беразе р. Топка ёсьць зарасьлі лазы, і бабры там трымаюцца ўлетку. Такім чынам, на ўсім вучастку прышлося прыняць на веру каля 13 жылых нор. Праверыць, ці сапраўды яны жылыя, не ўдалося.

Чэрыкаўскі раён.

У Чэрыкаўскім раёне бабры жывуць, як па р. Сож, так і па пойменных вазёрах Сожа. Уперад бабры пладзіліся ў р. Волчас, якая ўпадае з правага боку ў Сож вышэй г. Чэрыкава, але зараз яны там або зусім зьнішчаны, або адтуль яны выйшлі самі.

Лепш за ўсё, зноў-жа параўнаўча, бабры адчуваюць сябе ў азёрах Нартоўскае і Манастырскае. Возера Нартоўскае ўяўляе сабой цэлы шэраг невялікіх вазёр, якія злучаны адно з адным рэчачкай. Вазёры гэтыя цягнуцца па левым баку Сожа вышэй г. Чэракава і ляжаць сярод балота, якое абкружана лесам. На першым возерцы, пачынаючы з нізу па цячэньні, „Трасьцявом" ёсьць жылая хатка бабра, невялікая, з сьлядамі прысутнасьці бабра. На другім возерцы „Вільное" або „Вільне" адна хата, вялікая, занова адрамантаваная і з усімі адзнакамі прысутнасьці бабра (сьляды, аб'едкі, запасы корму і памёт, умёрзшы ў лёд) і трохі вышэй другая хата, разбураная і неадноўленая бабром.

Абедзьве хаткі на правым беразе возера. Па берагох шмат кустоў лазы і альхі. Мэтраў 60 ад возера зьмешаны лес. На трэцім возеры „Зімняе" або „Доўгае" таксама на правым беразе адна даволі вялікая жылая хата. Лазы па берагох вельмі мала, а ёсьць альха. Гэта возерца ляжыць таксама ў балоце. Кепска, што ўзімку па гэтых вазёрах пракладаецца дарога і бабры вельмі часта беспакояцца.

Вышэй возера Нартоўскага ляжыць возерца Раздорцы, дзе ёсьць жылая хата. Урэшце, яшчэ вышэй возера Манастырскае або Папоўскае даволі доўгае і глыбокае, дзе таксама ёсьць адна невялікая жылая хата. Хата гэта на левым баку возера, на плаўні. Правы бераг возера амаль голы, а левы парос кустамі па вадзе і балоту мэтраў на 10 ад берагу. Тут у хатцы відаць на лёдзе брудныя сьляды бабра і аб'едкі пучкоў асакі.

Вось толькі тут і ёсьць 5 сапраўдных хатак бабра, апошняе жыльлё яго ў раёне ўяўляюць сабой норы, частыя па Сожы ніжэй г. Чэрыкава супроць вёсак: Манастыр, Журавель і Горкі з вазёрамі „Старык" і „Радомля", часткай-жа вышэй г. Чэрыкава і в. Манастыра з вазёрамі: „Первалач", „Старык" і „Бярозка".

Шмат хто з рыбакоў бачылі летам баброў трохі вышэй г. Чэрыкава і ніжэй в. Гронава, але відаць бабры тут ня зімуюць.

Усяго па Чэрыкаўскаму раёну прышлося прыняць каля 14 жылых хат і нор. Між іншым зусім сьвежы абвал берага ў возеры „Первалач" знайшоў бітком набітую лазовым вецьцем і палкамі нару бабра—кладовую, тады як на дне супроць нары ніякіх адзнакаў нельга было ўба-

# Выканаць пляны трусагадоўлі

Плян разьвіцьця трусагадоўлі па калгаснай сыстэме прадугледжваў арганізацыю 20 трусагадоўчых калгасаў з агульным лікам 10.000 трусоў і 22 трусагадоўчыя гаспадаркі ў прыгарадных рабочых раёнах з агульным лікам 36.000 трусоў (большасьць з іх гаспадаркі трусашкуравыя).

На 1/I 1931 г. гэтыя гаспадаркі мелі толькі 1.409 трусоў. Гэтая лічба на 15 чэрвеня стала ў дзесяць разоў большая; маецца 14.090 трусоў ці 38,2 проц. заданьня.

Ня гледзячы на тое, што 285.000 руб, адпушчана на разьвіцьцё трусаводных гаспадарак, (з якіх 100.000 крэдыту) у шэрагу месц (Плешчаніцы, Тураў, Ветрына, Слуцк, Копыль і г. д.) будаўніцтва клетак зрываецца. Атрыманыя з Масквы 5.000 матак не скарыстоўваюцца па прыналежнасьці. Яшчэ горш абстаіць справа па сыстэме Белжывёлаводсаюзу.

Плян 1931 г. у 20 жывёлагадоўчых раёнах прадугледжваў арганізацыю 62 гаспадарак, з якіх у першапачатковых каапэрацыйных т-вах 28 гаспадарак, прыгарадных гаспадарак 10, піянэрбазах і школах 24 з агульным лікам 3.600 трусоў.

Белжывёлаводсаюз, нават, высунуў сустрэчны плян разьвіцьця трусагадоўлі, замест 3.600 аж 3.940 галоў.

Аднак на 15 чэрвеня Белжывёлавод плян выканаў на 5,5 проц., ёсьць 205 трусоў у 62 гаспадарках. Плян мабілізацыі 46.800 руб. сродкаў насельніцтва ня выканаяы. Мясцовыя арганізацыі і БЖС зрываюць мабілізацыю сродкаў насельніцтва.

Заданьне даць дзяржаве таварнай прадукцыі 30.000 шкур і 15.000 галоў на мяса поўнасьцю ня выканана.

Рад раённых арганізацый безадказна аднесьліся да выкананьня пляну разьвіцьця трусагадоўлі. Так Парыцкі райкаапсаюз у пратаколе № 5 запісаў:

„Слухалі аб арганізацыі 4 гаспадарак з агульным лікам 310 трусоў“. Ухвалілі: „арганізацыю трусагадоўчых гаспадарак з-за адсутнасьцю належных памяшканьняў і кліматычных умоў (?) лічыць нямэтагодным“.

Заданьне Белжывёлаводсаюзу сарвана. Петрыкаўскі, Плешчаніцкі, Жлобінскі райкаапсаюзы паведамляюць, што ў раёне зусім няма трусоў (?).

Барысаўскі райкаапсаюз паведамляе, што ў раёне ёсьць трусы, але невядома колькі (?).

Толькі адзін Чарэйскі р-н па бальшавіцку ўзяўся за выкананьне пляну, на 15 чэрвеня раён выканаў плянавае заданьне, выгадаваўшы 205 трусоў.

НКЗ, Белкалгасцэнтр і Белжывёлаводсаюз не забясьпечылі выкананьне плянавых заданьняў, патураючы зрыву выкананьне пляну. НКЗ зусім ня кіруе гэтай справай, не кантраліруе дзеяньня нізавых арганізацый. Так, напрыклад, Менскае птушкаводнае т-ва, якое арганізавалася яшчэ ў 1924 г., вясной 1931 г. распалася і 1.000 птушак пароды: „роднай лэнд“ і „вендот“ пашло пад нож. Праўленцы растрацілі сродкі т-ва, а НКЗ аб гэтым ня ведае.

Факты патрабуюць увагі. Плян трусагадоўлі павінен быць выканан.

**Рыг. Малаток.**

---

чыць. Гэта зноў-жа гаворыць за тое, што ўлічыць тут баброў пры беглым абсьледваньні ў такі час і пры такіх умовах ніяк немагчыма.

Прыглядаючыся да мясцовасьці, займаемай бабрамі і іх харчоў, прыходзіцца прыйсьці да заключэньня, што бобр—жывёла недалікатная; мірыцца ён і з тарфяным балотам, з высокім пясчаным берагам, з вазёрнай стаячай вадой і рачным цячэньнем. Харчамі задавальняецца такімі, якія ёсьць у гэтай мясцовасьці; жыве ў вялізарным лесе, а то і на адкрытым лузе. Ня ўхіляецца ён і ад чалавечага жыльля.

У заключэньне лічу патрэбным сказаць, што, паведамляючы гэтыя, ня зусім праверaныя даныя, спадзяюся, што яны прыгадзяцца, як матар'ял і будуць праверaны ў далейшым поўным абсьледваньні баброў у Беларусі.

*Біолёг Дзярж. Пал. Запаведнікаў*

**М. Ф. Патцар.**

# Да канца пяцігодкі ніводнага ваўка ў лясох БССР

## Арганізуем шырокія масы працоўных на зьнішчэньне ваўка

Лёзунг: „Да канца пяцігодкі зьнішчыць на Беларусі апошняга ваўка“ зусім правільна і своячасова высунуты беларускімі паляўнічымі арганізацыямі. Гэты лёзунг павінен стаць лёзунгам кожнага паляўнічага, калгасьніка, аднаасобніка і павінен быць цалкам выкананы. Выкананьне пастаўленай задачы зьнішчыць ваўка цалкам вырашыць, так званае „воўчае пытаньне“, якое рабіла нязьлічаныя страты паляўнічай, сельскай і ўсяе народнай гаспадаркі.

Ня будзем яшчэ раз даваць лічбаў страт зарэзанай ваўкамі хатняй буйнай і дробнай жывёліны. Гэтыя лічбы ўжо шмат раз даваліся на старонках паляўнічай прэсы, усім вядомы і правераны горкаю практыкай і тым „воўчым падаткам“, які штогодна плаціць на ўтрыманьне ваўкоў сельская і паляўнічая гаспадарка. Тут да месца толькі прыпомніць, што лепшыя захады паляўнічых арганізацый, накіраваныя да паднятьця сваёй гаспадаркі, застаюцца і будуць заставацца безрэзультатнымі, пакуль ня будзе выкананы лёзунг аб зьнішчэньні ваўка.

Вось прыклады. На працягу дзесятку год у нас зусім забаронена паляваньне на дзікіх коз. Але значных вынікаў ад гэтага добрага захаду мы ня маем, бо тое, што чалавек разумна хоча захаваць, каб пабагаціць паляўнічую гаспадарку, драпежніцка і бязьлітасна зьнішчаецца ваўком. Каза, дзе яна плодзіцца, зьяўляецца адным з галоўных наедкаў для ваўкоў і пакуль ёсьць воўк, ня будзе казы. А колькі зайцоў і іншай карыснай дзічыны штогодна зьнішчаецца галоўным драпежнікам—ваўком гэтага ніякая статыстыка не падлічыць. Можна без памылкі сказаць, што паляўнічая гаспадарка плаціць „воўчы падатак“ яшчэ ў большым размеры, чым сельская, бо дзічыну воўк зьнішчае штодзенна, на кожным кроку і яе яму лягчэй здабыць. Ня зьнішчыўшы ваўка ніякімі заходамі значна не падняць паляўнічай гаспадаркі, і дзеля гэтага „воўчае пытаньне“ павінна стаць да канца пяцігодкі аднэй з галоўных гаспадарчых задач усёй паляўнічай масы.

На жаль, лёзунг „зьнішчыць апошняга ваўка“ з першых дзён сустрэў, побач з гарачымі яго прыхільнікамі, таксама і навяр'е ў яго рэальнасьць сярод ныцікаў. Так ужо яно вядзецца, што кожнае сьмелае і радыкальнае мерапрыемства, выкананьне якога патрабуе мабілізацыі сіл і сродкаў, сярод апортуністычных недавяркаў, выклікае нікчэмныя разважаньні аб мажлівасьці выканаць заданьне, аб яго рэальнасьці.

Але ўсім ныцікам і малаверам трэба даць рашучы адпор—арганізаваць шырокія масы паляўнічага насел.: колгасьнікаў, беднякоў і серадкякоў аднаасобнікаў, для актыўнага ўдзелу ў зьнішчэньні ваўкоў, шырока разгарнуўшы соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Аб тым, што задача да канца пяцігодкі зьнішчыць усіх ваўкоў зьяўляецца зусім рэальнай, сьведчыць прыклад з Зах. Эўропы, дзе ўжо даўно зьнішчылі шкоднікаў-ваўкоў, і дзе іх трымаюць толькі ў няволі, у зьвярынцах. Ня дзіва, калі там на паляваньнях б'юць па нашаму проста баечную колькасьць дзічыны, напрыклад, па некалькі тысяч зайцоў. Коз у Заходняй Эўропе, ня гледзячы на тое, што прыродныя ўмовы там ня лепшыя за нашы, шмат больш, чым у нас, бо там ня плацяць ім „воўчага падатку“.

І калі мы паставілі сваім лёзунга „дагнаць і перагнаць капіталістычныя

краіны“ ў тэхнічна-экономічных адносінах, дык і ў паляўнічай гаспадарцы мы павінны ажыцьцявіць гэты лёзунг, зусім зьнішчыўшы ў сябе ваўкоў.

Лёзунг гэты зусім рэальны, нават пры ўмове, што мы ў першы год пяцігодкі трохі часу страцілі дарэмна. Трэба дагнаць прапушчанае і да канца пяцігодкі зьнішчыць на тэрыторыі Беларусі апошняга ваўка.

Гэта заданьне патрабуе напруджаньня сіл, мабілізацыі сродкаў, актыўнасьці паляўнічай масы, правільнага кіраўніцтва і выкарыстоўваньня гэтай актыўнасьці. Важнасьць пастаўленага перад намі заданьня высоўвае яго ў шэраг ударных і яно павінна быць абавязкова выканана.

Паляўнічыя арганізацыі на гэту справу павінны зьвярнуць максымальную ўвагу, памятуючы, што выкананьне паляўнічай пяцігодкі і воўчае пытаньне—гэтыя справы аднаго парадку, вельмі шчыльна зьвязаныя. Калі ня будуць зьнішчаны ваўкі, пяцігодка паляўнічай гаспадаркі ня будзе цалкам выканана. Павінны быць распрацаваны новыя спосабы і мерапрыемствы па зьнішчэньні ваўкоў і ўдасканалены ўжо існуючыя.

Перш чым перайсьці да спосабаў зьнішчэньня ваўкоў, я хачу закрануць адно важнае пытаньне, якое хаця і не зьяўляецца спосабам непасрэднага зьнішчэньня ваўкоў, але мае з імі вельмі шчыльную сувязь. Я хачу сказаць пра сыстэму прэміраваньня паляўнічых і насельніцтва за зьнішчаных ваўкоў. Гэта пытаньне ня новае. Паляўнічыя і дзяржаўныя арганізацыі (б. Дзяржстрах) даўно практыкуюць сыстэму прэмій за зьнішчэньне ваўкоў. Гэта мерапрыемства зусім правільнае і вельмі карыснае для вырашэньня „воўчага пытаньня“ ў сучасны момант адстала ад жыцьця. Прэміі, якія цяпер выдаюцца за кожнага забітага або зьнішчанага ваўка, устаноўлены даўно, шмат год таму назад і цяпер зьяўляюцца вельмі малымі. Трэба памятаць, што ваўкі зьнішчаюцца ня толькі паляўнічым, а кожным, хто пажадае дапамагчы гэтай справе, напрыклад, воўчыя гнёзды—вельмі добры спосаб зьнішчэньня,—часта знаходзяць пастухі, лясьнікі, сяляне і інш. Калі сьвядомы паляўнічы зьнішчае ваўка, падыходзіць да гэтай справы, як да вельмі важнай і карыснай для паляўнічай гаспадаркі, дык не паляўнічага трэба зацікавіць бліжэйшымі вынікамі зьнішчэньня ваўка, адпаведнай прэміяй. Выдача іх паляўнічым таксама дапаможа пасьпяховаму выкананьню заданьняў па зьнішчэньні ваўкоў. Трэба таксама памятаць, што тыя сумы, якія будуць патрачаны на гэта прэміяваньне, у шмат столак акупяцца тою эканоміяй і карысьцю, якую сельская і паляўнічая гаспадаркі будуць мець ад кожнага зьнішчанага ваўка. Тут скупіцца нельга, а, пераглядзеўшы стаўку прэміяваньня, трэба ўстанавіць іх у такім разьмеры, каб яны сапраўды зацікавілі кожнага зьнішчаць ваўкоў. Трэба знайсьці сродкі для такога прэміраваньня, каб яно было рэальным і зацікаўлівала.

Пераходзячы да спосабаў зьнішчэньня ваўкоў у далейшых артыкулах, мы мяркуем разгледзіць і апісаць наступныя: а) аблавы, б) паляваньне з фляжкамі, в) паляваньне на прынадзе і з парасём, г) зьнішчэньне воўчых гнёздаў, д) атручваньне і е) розныя індывідуальныя спосабы зьнішчэньня ваўкоў.

Разьмеры гэтага артыкулу не даюць магчымасьць, і падрабязна спыніцца на якім-небудзь з паказаных спосабаў; у далейшым яны будуць тэмаю для паасобных артыкулаў.

Тут мы толькі адзначым, што надышоў і надыходзіць найлепшы сэзон для шуканьня і зьнішчэньня воўчых гнёздаў і для летніх аблаў на маладых ваўчанят.

Каб не прайшла без карысьці сёлетняя пара, паляўнічым арганізацыям трэба неадкладна ўжыць захады да ажыцьцяўленьня паказаных спосабаў летняга зьнішчэньня ваўкоў.

У чэрвені і ліпені ваўчанят яшчэ можна застаць у гнёздах і забраць іх усіх разам; у жніўні і ў верасьні можна рабіць вельмі дабычныя аблавы на маладых ваўчанят, калі яны яшчэ трымаюцца недалёка ад гнёздаў і калі з імі часта ўдаецца забіваць і старых ваўкоў.

Летнюю пару паляўнічыя арганізацыі і самі паляўнічыя павінны выкарыстаць па-ўдарнаму для зьнішчэньня галоўнага драпежніка—ваўка.

**Тамаш.**

# Паляўнічая практыка

**Паляўнічы павінен ведаць ня толькі здабываць дзічыну, але і тое, як яна плодзіцца і жыве**

## Дупель*)

### Прылёт дупялей

Адлятаючы ад нас і прылятаючы зноў у Беларусь, так сказаць нявідзімкай, паводзіны дупеля ў паўднёвай частцы СССР зусім другія пры прылёце ўвесну.

Перадавыя дупялі там (на поўдні) зьяўляюцца каля 20 сакавіка. Колькасьць дупялей з кожным днём усё павялічваецца і павялічваецца, асабліва калі пагода цёплая і дзьме ня моцны паўднёва-заходні вецер. Так працягваецца дзён 6--10, а потым ужо пачынаецца валавы прылёт. Дупелі ўжо ляцяць не адзіночкамі, а табункамі па 15—30 штук. Бачачы такую зграю ўпяршыню, цяжка паверыць каб зграя гэта складалася з дупялей. Па-першае, дупліныя зграі, нават нікім не патрывожаныя, лётаюць з места на месца днём, утвараючы пры палёце асобныя, досыць гучныя пакракваньні (падобнае хутчэй на асобнае карканьне), якія розьняцца значна ад гукаў, якія ўтвараюць дупелі пры адзіночным палёце. Табункі вельмі старожкія, рэдка падпусьцяць чалавека бліжэй 50-60 крокаў. Пры палёце дупелі ляцяць вельмі хутка і кучна. Такія зграйкі трымаюцца разам на працягу некалькіх дзён, потым мала-па-малу разьбіваюцца на больш дробныя партыі і, нарэшце, зусім разьбіваюцца.

Разьбіўшыся, дупелі робяцца менш старожкімі і пералёт іх днём зусім спыняецца, г. зн. удзень яны ўжо ня лётаюць. Няма ў мяне вестак аб адлёце дупялей да нас з месца іх зімоўкі, але, мяркуючы па прылёту на наш бераг мора, дупелі бязумоўна зьбіваюцца ў зграйкі пры адлёце і такім чынам, пераляцеўшы Сярэдземнае мора, ляцяць удзень і над зямлёю да поўдня СССР (пераляцець у адзін дзень Сярэдземнае мора наўрад ці змогуць дупялі) і там разьбіўшыся, як было сказана, зьяўляюцца на нашых балотах па адным. Праз некалькі дзён пасьля прылёту дупелі пачынаюць такаваць.

### Ток

Спачатку такі бываюць вялыя, амаль адзіночныя, але дзень-другі такі пачынаюць разгарацца і, нарэшце, колькі ні ёсьць паблізку дупялей зьлятаюцца ў адно пэўнае месца і такуюць з вялікім напружаньнем ад золку да золку.

Думаюць, што ў большасьці выпадкаў месцам тока дупялей зьяўляюцца прагаліны сярод качкарнага балота, паросшыя чэмэрыкаю і акружаныя кустамі ракітніка, часам невялікімі, часам досыць значнымі, аголенымі ад вады і пакрытымі жыдкаю расьліннасьцю, грыбамі. Месцы такія звычайна наглядаюцца ва ўсіх прырэчных мясцовасьцях.

На працягу свайго доўгага паляваньня я наглядаў за трыма дупялінымі токамі, ў паўночна-ўсходняй частцы был. Віцебскай губэрні. Наглядаемыя мною таковішчы досыць рэзка адрозьніваліся адно ад другога, але ні на адным з іх ня было ні палян, ні ракітавых кустоў, хоць вакол было шмат такіх месц.

Я не адмаўляю таго, што дупялі могуць такаваць і на палянах з зарасьлямі ракіты, але падкрэсьліваю, што гэтыя адзнакі для дупелінага тока не абавязковы. Пра дупеліныя токі мала ведаюць наогул і сельскія паляўнічыя, а гарадзкія ня ўсе пра іх і чулі. Таму мяркую, што нагляданьні мае дадуць паляўнічым шмат цікавага.

Вось у якіх месцах я наглядаў ток:

1) Прырэчны луг, ідучы ад палатна чыгункі, гладкі, вільготны, з густой лугавой травой. У паўвярсьце дзе-ні-дзе раскіданы нізкарослыя бярозкі і кочкі. Бярозкі, паступова згушчаючыся, пераходзяць у балотную крэп. Працягнуўшыся з вярсту ўздож бора, крэп абрываецца ў лугі, разрэзанага ракой. У пачатку бярозак—месца тока з дробнымі рэдкімі кочкамі, з нізкай рэдкай травой. Сажнях у пяцідзесяці ўзвышаны пяшчаны бераг. Пахатныя палі

---

*) Гл. „П. Б.“ № 5—1931 г.

з аднаго боку—з двух—бор, з чацьвертай—луг уніз па рацэ, разрэзаны масыў лесу на дзесяткі кілёмэтраў.

Ад станцыі чыгункі па простай праз рэчку паўтары кілёмэтры.

Грохат цягнікоў, сьвісткі паравозаў і ўдзень і ўначы не перашкаджаюць дупялям.

2) Вялізарнае балота з вокнамі і зыбунамі. Мясцамі валакністы мох з журавінамі, мясцамі нізкарослы хмызьняк з травой і адна трава, ні кустоў, ні дрэваў, Хваёвы лес ахоплівае пачатак балота і цягнецца з аднаго боку, з другога-ж прымыкае можавае балота ў некалькі тысяч *га*, паросшае сасьняком—вельмі добрыя месцы для белай курапаткі. Далей—палі і сенажаці. Недалёк ад поля, каля дарогі, у вялікіх кочках з густой травой і рэдкім хмызьняком разьмясьціўся ток.

3) Плошча мохавага балота ў Янавольскай казённай дачы, 500 *га* сярод сасновага лесу з прымесьсю елкі, асіны, па нізкіх месцах—суцэльная бяроза. Сярод балота сустракаюцца сухія выспы. Рака, заліўны луг, сьціснуты хвойным лесам—кілёмэтрах у двух. Палі далёкіх вёсак рэдка дзе ўціснуты ў суцэльны лес.

Гэта рэдкі глухарыны ток.

З таварышам па паляваньні прышлі мы ў гэта месца на вячэрнюю „пасадку“ глушцоў. Асьцярожна пераходзім з аднаго сухога месца на другое, прыслухоўваемся. Магутны шум прылёту, хлопаньне крыльляў. Мы затаілі дух. Нерашучае „тэ-кэ“ некалькі разоў прарэзала цішу замершага лесу і змоўкла да раніцы. Згасла вячэрняя зара. Сьцямнела. Ціха адыходзім стараючыся не напалохаць глушца і слых наш ловіць характарную песьню дупялей.

Ток аказаўся там, дзе балота з рэдкім, нізкарослым беразьняком, перамешаным з сасёнкамі, што ўрэзаліся паміж двума выспамі.

Ток быў у поўным разгары. Ні мы, блізка падайшоўшыя да такуючых птушак, ні хлюпаньне вады ад нашых крокаў, хоць і асьцярожных, не патрывожылі птушак. Дупялі працягвалі свае палкія песьні, свае буйныя скокі.

Белыя падбоі хвастоў мільгалі на фоне яшчэ мёртвага, цёмнага пакрову балота. Усю ноч песьня то заміралаў аднатонным шчабятаньні, то палка пераходзіла ў гук, нагадваючы трашчэньне рагавога грэбня ад хуткага руху пальца па яго зубцах.

Да ранішняга току глушцоў мы сачылі за токам дупялей, седзячы на такой адлегласьці, з якой ён быў чутны. Расьсьвятала. Ток глушцоў скончыўся. Сонца не паднялося яшчэ, як ніводнага дупеля ўжо ня было на таковішчы. Згубленае пер‘е і прымятая леташняя трава сьведчылі пра шлюбнае зборышча птушак на пляцу ў 30—35 кв. мэтр.

Мохавае балота сярод лесу, то з густым багульнікам, то з бяссочнай травой валасьняком, месцамі рэдзенькі хмызьняк—ня месца для дупеля.

Чаму ў такім месцы быў ток, адкуль маглі сабрацца дупелі сюды ў колькасьці не адной сотні.

Гнездавацъ дупель тут ня можа. Ня можа ён скопам заставацца тут і на днёўку ў пэрыяд свайго такаваньня.

Месца гэтага тока пераконвае мяне ў тым, што раён знаходжаньня такаваўшых дупялей куды шырэйшы раёну пражываньня такуючых цецярукоў. Яны зьляталіся, напэўна, здалёк. Зьлёту іх, як відаць, не перашкаджалі ні адлегласьць, ні страявы лес. За гэта гаворыць і тое, што на мясцох гэтых таковішч вывадкі ўяўлялі выключэньне. Мала іх было і ў ваколіцах току. Але-ж, якая колькасьць вывадкаў павінна была быць, калі-б усе такуючыя насялялі бліжэйшыя месцы.

Знайсьці такуючых дупялей няцяжка. Харавая песьня іх крыху цішэй глушынай а шчабятаньне масы зьверне ўвагу няведаючага і ён адразу зразумее, што тут—шлюбнае зборышча птушак.

Там, дзе гняздуе дупель, ток яго заўсёды заўважыць браканьер. Як толькі сонейка схіліцца на захад, браканьер накіроўваецца на заўважанае месца, захапіўшы дастатковую колькасьць набоеў, сьсячэ густую сасонку ў рост пояса (шалаш яму непатрэбны), ідзе на позыцыю, утыкае перад сабою гэтую сасонку і, прыстасаваўшыся садзіцца і чакае зьлёту.

Ток разгарэўся, ён пачынае абстрэл, цэлячы з вытрымкай ў белыя падбоі хвастоў. Абстраляўшы ток з аднаго месца ён ідзе далей, трымаючы перад сабою сасонку. І так паступова мяняе „пазыцыю“ пакуль поле абстрэлу ня будзе „ачышчана“.

Здабычу падбірае па сканчэньні „паляваньня“ і, зразумела, далёка ня ўсю—падранкі ўходзяць і бескарысна гінуць. 30—40 штук за выхад—дабыча звычайная.

Злавіць браканьера на месцы злачынства ня так лёгка. Па-першае, ён ня будзе страляць вечарам, калі ведае, што за ім сочаць, дачакаецца начы, а па-другое, страляе ён чвэрць зараду—далёка не пачуеш.

Да рэвалюцыі браканьера цягнулі на злачынства капейкі, за якія ахвотна скуплялася ў яго дабыча буфэтамі чыгуначных станцый і гасьцініц. Вока кантролю нашых паляўнічых арганізацый бязумоўна паслабіць зьнішчэньне дупялей на токах, але ўсё-ж пакуль паляўнічы нашай вёскі не ўсьвядоміць разумнага карыстаньня паляваньнем (а гэта сьвядомасьць пакуль далёка яшчэ не пранікла ў кожную хату—трэба праўда сказаць), зло канчаткова ня будзе зьнішчана.

Ня мала гіне дубялей на токах і ад чацьвераногага „браканьера“ лісіцы. Калі ап'янёныя каханьнем дупялі не разьлятаюцца ад стрэлаў (замаўкаюць яны толькі на мінутку), не палохаюцца чалавека, то як лёгка можа лавіць іх гэты спрытны крывяжэрны зьвер, знайшоўшы ток.

Сапраўдны паляўнічы павінен ведаць токі дупялей, наглядаць за імі і ахоўваць іх.

Няпоўна будзе калі не сказаць 2—3 словы пра густавыя перавагі дупеля. Ці кармовыя ўмовы дрэнныя ў месцах зімоўя, ці далёкі пералёт прычынай, толькі дупель прылятае да нас худым. А тут ток, вывад птушанят, лінька, дупель не павялічваецца ў вазе. Страляць дупеля ў гэты час (калі-б нават і дазвалялася)—значыць бяссэнсоўна, без разьліку губіць птушку.

Але вось лінька скончылася, птушаняты ўжо вялікія, дупель хутка пачынае тлусьцець, падвышаюцца яго густавыя якасьці. Дупель у жніўні літаральна абрастае слоем тлушчу таўшчынёю ў 5—6 мм. і, як кажуць, смажыцца ва ўласным саку, не патрабуючы ні масла ні сьмятаны, так шмат у яго тлустасьці!

Па густавых сваіх якасьцях дупеля можна аднесьці да дзічы першага разраду, ён лічыцца „штукай“, тады як глушэц лічыцца „паўштукай“.

„Дупелі былі“—не бяз гонару скажа знаёмы знаёмаму і гэтым усё будзе сказана. Ці зьявіўся дупель у мясным магазыне, у буфэце, зараз-жа будзе распрадан. Дупель нідзе не заляжыцца. Дупель першаклясная ежа.

**А. Ф. Лялін.**

## Качка і паляваньне на яе

Ва ўсім сьвеце налічваецца 170 відаў качак. У СССР пражываюць 42 віды, з якіх 14 відаў мы маем не драпежных качак (Anatinae), складаючых галоўную мэту паляваньня.

Першае месца сярод такога вялікага ліку відаў качак займаюць крыжны (Anas boscas) і чыркі. На іх мы, галоўным чынам, на крыжнах, і зьвернем увагу чытача.

Крыжан—гэта самы буйны з так званых не драпежных (благародных) качак. Яе завуць у другіх мясцох СССР кракушкай, качкай.

Крыжан—буйнейшая за ўсіх дзікіх качак. Яна настолькі падобна на звычайную свойскую качку, што нявопытны чалавек яе не адрозьніць. Паляўнічы-ж пазнае яе ў гурце свойскіх качак, да якіх яна нярэдка падсаджваецца вельмі лёгка. Крыжан—качка адлічаецца вялікай прыгожасьцю, рухавітасьцю і добра складзенай фігурай параўнаўча з хатняй качкай. Яе апярэньне адразу кідаецца ў вочы вопытнаму чалавеку. Асабліва відаць яе адносна доўгая шыя, моцна пасаджаная галава і вялікая рухавітасьць. Калі часта бывае, што свойская качка забіваецца паляўнічым замест дзікай, крыжна, то гэта здараецца толькі з нявопытным паляўнічым. Вопытны паляўнічы ня толькі адрозьніць яе ў гурце свойскіх качак, але пазнае яе і на ляту, па ўзмаху крылаў, і наогул—па ўсёй яе фігуры.

Голас крыжна паходзіць на голас свойскай качкі, але ўсё-ж ня можа быць зьмешан з ім па звонкасьці і выразнасьці больш частых ускрыкваньняў. Падробліваць голас крыжна ды і чырка вельмі лёгка, ня трэба і спэцыяльнага вабіка. Трубачкай пальцы правай рукі, на дапамогу губы і вабік гатоў; трэба толькі

умець пырскаць вуснамі ў рытм голасу той ці іншай качкі, г. зн. крыжна ці чырка. Вядома, павінен быць навык. У крыжнавай качкі асноўны гук (kраканьне паходзіць на слова „кваaак“, „квааак“). Але гэтыя словы прыблізныя, перадаць-жа іх дакладна, зусім выразна, ня так-то і лёгка. Голас качура вельмі розьніцца ад голаса самкі: хрыплы, ціхі, цяжка перадаваемы, але, тым ня менш, нейкі, асабліва прыемны для слыха.

### Апярэньне

Вельмі прыгожы качур у шлюбным апярэньні.

Галава і шыя яго чорная з зялёным і фіалетавым адлівам; на ніжняй частцы шыі, абмяжоўваючы афарбоўку галавы і шыі, вузкае белае колца, не замкнутае ззаду.

Сьпіна бурая, часта пераходзіць у паступовы шэры колер на верхніх канцох крыла і амаль чорная на верхніх крыючых пер'ях хваста, з якіх самыя доўгія загнуты колцамі да верху; плечавыя пер'я з далікатнейшымі хвалістымі бурымі папярэчнымі струменьчыкамі; знадворныя апахалы другарадных махавых пер'яў фіалетавага колеру з мэталічным бляскам, што ўтварае на крыле люстэрачку, якая сьпераду абмяжована вузкай белай і больш шырокай чорнай палоскай, праходзячай па вяршынях вялікіх крыючых пер'яў, а ззаду чорнай і белай, ляжачых на вяршынях другарадных махавых пер'яў; вялікія махавыя пер'я цёмна-шэра-бурыя; рулявыя серабрыстыя, з шырокімі белымі канцамі.

Вальлё і прылягаючыя часткі грудзей буравата-каштанавага колеру, які паступова пераходзіць у шэравата белы на ніжняй частцы бокаў грудзей, дробнаісьпісаных цёмна-шэрым колерам, а таксама на жываце; ніжнія крыючыя хвост пер'я чорныя з фіалетава-зеленкаватым адлівам.

Дзюба аліўкавага колеру з чорнай вяршынай; ногі чырвоныя, з аранжавым адлівам; радужына бурая. Колькі колераў і адценьняў знаходзіцца ў апярэньні такога красуна, цяжка падлічыць, але, вядома, што не адзін дзесятак.

За тое як бедна ў сваім апярэньні самка параўнаўча з качурам. Зьверху цёмна бурая, з буравата-вохрыстымі краямі пер'я; ніжні бок рыжавата-гліністы з чорна-бурымі плямкамі, якіх няма на горле і ніжняй частцы шыі. Колернае апярэньне, люстэрачка на крылах, якая так прыемна вабіць ваша вока.

Маладыя птахі без разбору пола ў першым апярэньні паходзяць на дарослую самку. Пасьля пэрыяду памнажэньня дарослыя качуры ліняюць, трацячы дробныя пер'я і захоўваючы старыя махавыя і рулявыя. За тым становіцца яны падобнымі на самак. Качаняты ў пуху зьверху цёмна-бурыя, зьнізу сьветлыя, асабліва на жываце; на крылах і па бакох знаходзяцца белаватыя плямы. І качур, скінуўшы шлюбнае апярэньне, і дарослая, стаўшыя на крыло моладзь, ня гледзячы на падобнасьць у апярэньні вельмі розьняцца па полу: у качура ногі чырвона-аранжавыя і, як правіла, вышэй калена пёрушкі попельнага колеру, якія кідаюцца ў вочы, калі адвярнуць верхняе пер'е.

### Месца і спосаб жыцьця качкі

Крыжан качка—лічыцца птахай прэснаводных басэйнаў, хаця ў часы пралёту і ўзімку прымаецца ў берагох мора, але ні ў якім разе не гнязьдзіцца там.

Улюблёныя месцы крыжна — стаячыя прэсныя воды, зарослыя чаротамі, сітнікам, хвашчом, асакой. Зарасьлі лавы і другіх куставых дрэў у мясцох гнездаваньня крыжна — абавязковы. Любіць крыжан і старыя тарфяныя распрацоўкі, гары з вялікімі выпаленымі ўпадзінамі, запоўненыя вадой і пакрытыя ўсё-ж такі густой расьліннасьцю, толькі што пералічанай намі вышэй.

Такія мясцы даюць крыжну і ціхія куткі, і шмат корму, дзе выводкі жывуць да таго часу, пакуль не падымуцца на крыло. Удзень крыжан затайваецца ў зарасьлях чарота, асакі, і г. д., але, як толькі настае вечар, зараз-жа выплывае на адкрытыя мясцы. Да ўборкі хлябоў крыжан трымаецца ў большасьці вядомага месца і ўначы, і ўдзень, а ў канцы лета нанач зграі крыжнаў звычайна ляцяць карміцца на хлебныя палі.

Сьпякота. Сонца пад поўдзень. Ідзеш мяжой. Сьцяной стаіць авёс. Дзянькоў пяць-шэсьць і пабяжыць серп, зазьвініць каса у палосах сьпелага хлеба. Чысьціць

„шпоры“ лягаш. Язык—рукавіца, упалыя бакі, мухі ўхадзілі і ногі сабакі. Раптам пацяжка і... замер лягаш.

— Курапаткі,—думаецца. Два асьцярожных крокі ўперад,—узьлятае крыжан.

„Нумар“ такі ня дзіва у сьпелых аўсох. І такія нумары нярэдкасьць. Лягчыны сярод яравых палёў—звычайныя мясцы кармежкі крыжнаў, дзе яны бязбоязна застаюцца і на дзень, калі яны яшчэ не напалоханы, а з лягчын нярэдка заходзяць у самыя хлябы і праводзяць у іх цэлы дзень.

Крыжна—вельмі пражорлівая і відаць ненасытная качка. Есьць крыжна нежныя пабегі, лісточкі, кончыкі траў, усякія балотныя і вадзяныя расьліны, клубні, почкі, зерні хлеба і траў і асабліва любіць грэчку. Вусьні, чэрві, ракушкі, розныя сьлізьнякі і г. д.—таксама ідуць ёй у харчы. Няпроч яна паласавацца і малой рыбкай, але гэты від харчоў даецца ёй рэдка, бо крыжна ня ырковая, да лову рыбы не прыстасавана. Ня чураецца крыжна і дробных жабак.

У канцы лета асабліва ў пачатку восені, крыжны зьбіраюцца ў вялізарныя зграі на чыстых водных прасторах, ставох, азёрах, маленькія зграі за вялікімі выплываюць з набліжэньнем сонечнага закату і ў рэчцы ўтвараецца вялізарнейшая зграя. З наступленьнем сумерак зграі паступова пачынаюць зьмяншацца: яны ўлятаюць вялікімі і малымі зграйкамі на дробныя балотцы, на хлебныя палі, і г. д. і там застаюцца, як ужо было сказана, да раніцы. З першым ранішнім сьветам зграі качак зноў зьлятаюцца на азёры, дзе і праводзяць дзень.

Але вось дні становяцца ўсё карацей і карацей. Насядае жоўта-лістая восень. Пацягнулі журавы, гусі к поўдню. Даўно ўляцелі слонкі, дупялі і толькі дзе-ні-дзе затрымаўся бекас адаіночка, але качка ўсё яшчэ не пакідае сваіх водных угодзьдзяў і толькі калі сьцекляным лёдам пакрыецца вада,—яна паляціць у мясцы зімоўкі.

У паўднёвай Эўропе, Паўночнай Афрыцы і ў паўднёвых Штатах Амэрыкі крыжны пераважна бываюць узімку, далятаючы ў гэты час да Азорскіх выспаў, Мадэйеры і Канарскіх выспаў на захадзе і да Нубін к поўдню ў Афрыцы. У Азіі ўзімку яна спускаецца да Пэрсіі, паўночнай Індыі, Кітаю і Японіі, залятаючы ў даволі вялікай колькасьці у Туркестан і Закасьпійскі край, дзе таксама гнездуецца. У Амэрыцы залятае ўзімку да Мэксыкі, Вэст-Індыі і нават да паўночных частак Паўднёвае Амэрыкі. Ці далятае наша качка да паказаных месц, адказаць цяжка, ды наўрад ці магчыма для яе рабіць такія далёкія пералёты, але факт той, што яна там сустракаецца.

Не засіжваецца крыжан і на мясцох сваіх зімовак. Як толькі прыпячэ сонейка, стануць аслабанияцца ад лёду закрайкі вадаёмаў, нашых рэк, крыжна ўжо тут. Для качак вясна зьяўляецца парой любві з моманту першага іх зьяўленьня.

**Шлюбны пэрыод і вывад птушанят**

Качур крыжна вельмі запальлівы ў пэрыяд памнажэньня самец. Ён не адыходзіць ад самкі ні на мінутку, ні за вошта ўперад яе не зьляціць з месца. Бывае, што самка плёскаецца ў якой-небудзь лужыне, або калупаецца дзюбай у тлустым брудзе, а качур, як часавы, стаіць на берагу ці на купіне. Убачыўшы небясьпеку, ён пачынае варушыцца, падаваць трывожны голас, але не паляціць раней самкі. Качка ўлятае, ня выказваючы ніякага ўдзелу да забітага качура. Качур ня толькі будзе лётаць навокал паляўнічага, не налятаючы асабліва блізка, але нават некалькі дзён падрад будзе круціцца каля таго месца, дзе страціў сяброўку.

Кожная парачка качак займае свой вызначаны вучастак і качур сьмела адганяе халастых прышляцоў, якія пытаюцца пасяліцца ў яго вучастку, а тым больш заўладаць яго супругай. Даходзіць да адважнай бойкі. Бойка між супраціўнікамі адбываецца і на вадзе і на зямлі, і ў паветры. Перамога, як заўважана, заўсёды застаецца ўласьніку вучастку, які выказвае найвялікшую адвагу.

Ніякага ўдзелу ў сямейным жыцьці качур ня прымае; самка адна будуе сабе гняздо, адна наседжвае яйкі і адна даглядае дзяцей; качур нават бунтуе ёй у гнездаваньні і самцы нямала прыходзіцца хітрыць, каб утаіць месца гнязда ад запальлівага свайга супруга.

Адчуўшы ў сябе набліжэньне кладкі яек, качка рыхтуе гняздо ў якім-небудзь скрытным месцы. Тут ёй прыходзіцца хітрыць, як бы скрыць гэта месца ад свайго супруга. На беразе вадаёму пры-

сядзе яна, заложыць галоўку пад крыло і прыкідваецца, што сьпіць. Качур прысядае разам з ёю і бясклопатна засьне, а качка таго толькі і чакала: шмыгне ў траву-асаку, ці камыш, адбяжыць як мыш, некалькі мэтраў падымецца нявысока і, адляцеўшы старонкай, апускаецца да долу, падпаўзе да гнязда. Зрабіўшы сваю справу, адпаўзе на некаторую адлегласьць у другі бок, падымецца і, зрабіўшы кола, ляціць ад супроцьлеглага боку да таго месца, дзе скрывалася, зноў спускаецца да долу і падкрадаецца да чакаючага яе супруга.

У большасьці качур прачынаецца ў адсутнасьці самкі, якая, бывае, адсутнічае больш гадзіны. Праснуўшыся, ён пачынае бясклопатна зваць сваю супругу, азіраючыся па бакох і плаваючы. Потым пачынае шукаць каля берагу. Пасьля дакладных дарэмных пошукаў раптам зьяўляецца яго супруга. Качур кідаецца насустрэч. Не пасьпела качка, аправіцца, выйсьці на бераг, як зноў качур нападае на яе і гэта паўтараецца некалькі разоў на працягу гадзіны. Пакуль цягнецца кладка яец самка павінна хітрыць, каб не паказаць месца гнязда—інакш можа быць, што гняздо разбурыць качур, а калі і ня гэта, дык ва ўсякім выпадку будзе вялікая перашкода ў кладцы яек.

Урэшце кладка скончана, самка канчаткова хаваецца ад качура і садзіцца на яйкі. Качур доўга трымаецца каля таго месца, дзе страціў сваю супругу. Урэшце тухне пал, на качура наступае час лінькі і ён забіраецца ў зарасьнякі.

Гняздо самка-крыжан будуе блізка ад вады, часьцей-жа ў некаторай адлегласьці ад яе. Купіна ў чароце, ракітавыя зарасьлі, абкружаныя асакой,—месца гнездаваньня крыжна. Здараецца, што і яна выбірае сабе месцам гнязда дупло вярбы і нярэдка, к зьдзіўленьню, займае нават гняздо сарокі і вароны, або якой-небудзь другой птахі.

Качанят, у такіх выпадках, яна спускае да долу ў дзюбе. Гняздо на зямлі штучна будуецца з сухой травы і лістоў камыша, высьцілаецца спачатку больш кволымі расьлінамі, а калі кладка скончана, пачынаецца наседжваньне, усьцілаецца яшчэ пухам.

Месца гнездаваньня крыжна наогул не абавязкова, як правіла, там, дзе жыве вывадак. Два-тры кілёмэтры ад гнязда да вадаёму праз поле часта матка вядзе сваіх птушанят. Ня выключаны выпадкі, калі качка пераносіць сваіх качанят у дзюбе праз тыя мясцы, дзе ня могуць прайсьці птушаняты.

Лік яек крыжна хістаецца ад 8 да 12 і нават да 16. Яйкі, падобны на яйкі свойскай качкі, апроч нязначнай розьніцы ў велічыні (трохі менш). Афарбоўка іх хістаецца ад зеленавата охрыстай да бледна охрыста-зялёнай.

Качка сядзіць на гнязьдзе шчыльна, амаль не зьлязаючы; адзін раз толькі ў суткі сойдзе яна, каб падмацаваць сябе харчамі. Затое к моманту вываду качанят бывае вельмі схудалай. Птушаняты вылупліваюцца праз тры тыдні і чуць абсохнуць ідуць за маткаю на ваду. Качка вельмі любіць дзяцей. Калі сабака ці чалавек напалохае яе з гнязда, яна прыкідаецца якой-небудзь хворай, слаба ляціць, часта падае і яе можна злавіць. Рэдка сабака не паддаецца абману і не пагоніцца за ёй.

Яшчэ больш прывязана матка да сваіх дзяцей. Тут яна вельмі адважна падстаўляе сябе пад набой стрэльбы і часта плоціцца жыцьцём ад браканьера. Як бы ня была напалохана качка, але, пачуўшы голас качанятка, яна зараз-жа тут над вамі, часта пакрыкваючы, ці праляціць ня ў меру блізка, ці сядзе на ваду. Падробліваць голас малога качаняткі пасьвістваньнем вельмі лёгка. Браканьер—віртуоз у гэтым штукарстве. Не задумваючыся ён пускае набой у адважную матку і... сям'я асірацела, але чым скарэй становяцца дарослымі качаняты, тым менш работы матцы і, урэшце, яна зусім перастае ахоўваць іх, абмяжоўваючыся толькі сваячасовым паведамленьнем аб прыбліжэньні небясьпекі, бо вывадак у гэты час не разьбіваецца і трымаецца разам да зьлёту ў зграі.

Пагаварыўшы аб крыжнах, трэба сказаць некалькі слоў і аб чырках, бо гэты падвід пташак у нашай мясцовасьці плодзіцца ўсюды. Чыркоў ёсьць дзьве пароды: першая—чыркі карасьцелькі, другая—чыркі палавыя. Чырок завецца месцамі: чырушка, хрыпунок, грязьнік, чырок палавы і г. д.

Чырок гняздуецца ў нас амаль усюды, за выключэньнем Крыма і Украіны. У выбары месца для гнязда вельмі няпрыхотлівы, гняздуецца каля лужын, старых мачыл (мясцы мочкі льна), паросшых тра-

вой, наогул—дзе ёсьць вада, трава ды зарасьлі лісьцьвеных парод дрэў. Прылятае чырок адным з першых і ўлятае адным з апошніх. Па часу прылёту і адлёту адстае толькі ад крыжна. Насупраць крыжну, качур-чырок прымае ўдзел у вырашчваньні патомства і менш мяшае самцы ў кладцы і выседжваньні яек. Калі самка сядзіць на яйках—качур далёка не адлучаецца. Калі зьявяцца качаняты, ён шмат дапамагае ў вырашчваньні іх. Колькасьць яек у чыркі даходзіць да 12, так што сьценкі гнязда бываюць вельмі высока выкладзены яйкамі. Нявольна зьдзіўляешся, як можа такая невялікая птаха сагрэць і высядзець такую вялікую колькасьць яек. Яйкі чырка матавыя, трохі зеленкаватага колеру. Качаняты вельмі прынарлівы (добра ныраюць, як старыя, добра хаваюцца і, падняўшыся на крылы, вельмі шпарка лётаюць). Па смакавых якасьцях чыркі далёка абганяюць качку крыжна. У гастраноміі лічыцца „штукай" тады як крыжан „паўштукай".

### Якая прычына памяншэньню ў нас вывадкаў качкі

Прычын натуральнага парадку, якія робяць уплыў на памяншэньне качак, нямала, але ні пярнаты хішнік, ні чатырохногі—ліс і інш. зьвяркі ня робяць такога ўплыву на памяншэньне ў нас вывадкаў качкі, як губіць яе бяз толку некаторыя някультурныя, несьвядомыя двуногія драпежнікі. Як толькі зьявілася ў нас качка ўвесну, браконьер, не задумваючыся, бярэ на мушку і качура і самку. Пачалася кладка яек, тут ужо і сівабароды дзед, і ўсаты мужчына, і малы хлапец, які можа ўжо залезьці ў зарасьлі лазы—усе кідаюцца выбіраць яйкі. Не адстае ад іх і пастух. Часта ня столькі папала яек на патэльню, колькі за патэльню ўжо наседжаных выкідаецца. А што ўцалее і вывядзецца, паслухмяны „Шарык" давіць яшчэ ў жоўтым пушку і радуе някультурнага гаспадара Шарыка, не прызнаючага ніякіх законаў аб паляваньні.

У выніку, да дня адчыненьня паляваньня качкавыя мясцы чыстыя, а калі знойдзеш вывадак, два, як небудзь уцалеўшыя—радасьць непамерная.

Паляўнічая каапэрацыя толькі зможа палажыць канец такой сапраўднасьці. Сам па сабе аматар яечні не скароціць свой апэтыт. Ён абавязкова будзе, пакуль можна, прамышляць гэтым і памяншаць колькасьць качак. Таму мы і павінны ўсімі мерамі дапамагаць паляўнічай каапэрацыі ў барацьбе з браканьерамі.

### Страляньне качак

Правілы страляньня на качках я хачу перадаць не старому ваўку-паляўнічаму стралку, а маладому, пачынаючаму паляўнічаму. Хай запамятае сабе паляўнічы наступнае становішча: з усіх пападаньняў шротам у лятучую дзіч наогул 90 проц. уходзіць пад дзіч, пад ніз, а калі дзіч прабягае, або пралятае міма, то ззаду яе. Асноўнае правіла: страляць па ўбягаючай або лятучай дзічы так, як бы вы жадалі страляць праз яе ці перад ёю.

Страляньне па лятучай маладой качцы асабліва лёгка пры ўзьлётах, калі яна бярэ верх, але як толькі ўзьляцела і пацягнула ўперад, пашла бокам, тут ужо павінен быць разьлік практычнага навыку, які павінен быць пры страляньні наогул па птушках. Другая справа за тое на пералётах, калі качка з хуткасьцю маланкі стараецца пакінуць, заўважыўшы небясьпеку. Тут на павадок яе ня схопіш. Ускідкай стрэл, пры мімалётным налёце думкі і меткасьць вока—бо спуск і дасягненьне набоем мішэні патрабуе часу, на працягу якога мішэнь перамесьціцца ў кропку, вызначаную вамі ўперадзе, у напрамку палёту качкі. З гэтае прычыны трэба даць некалькі мэтраў уперад, вядома, лічучыся з хуткасьцю палёта. Некалькі мэтраў—у разуменьні вельмі расьцягнутае, але між волі прыходзіцца абмяжоўвацца гэтым туманным паказальнікам, бо як улічыць хуткасьць палёту качкі пры розных момантах? У даных выпадках усё павінна быць зьведзена к практыцы, вопыту і вокамеру паляўнічага. Асобных рацэптаў для кожнага выпадку стральбы няма. Ня трэба забываць толькі якасьці стрэльбы і набою патронаў.

Страляньне па качкам мае яшчэ два палажэньні: калі качка на вадзе і калі яна бяжыць па траве, гэта — калі мішэні ня відаць у поўным сэнсе гэтага слова

Кропка прыцэла на плавучай качцы або сядзячай на вадзе,—лінія вады. Інш

справа, калі прыходзіцца страляць па схаванай мішэні. Тут патрабуецца амаль што не матэматычны разьлік: трэба вызначыць і корань травы, і вышыню плывучай мішэні і хуткасьць перасоўваньня, каб набой лёг якраз па месцу. А качка плыве ці бяжыць па траве вельмі хутка. Такі момант паляўнічы перажывае асабліва захапляючыся.

Вынік стрэлу па схаванай мішэні аднаго разу застаўся ў мяне на ўсё жыцьцё у памяці і думаю з тысячы бывае адзін, ня больш. К слову, мне хочацца апавядаць аб ім таварышам паляўнічым, уперад чым скончыць аб правілах страляньня па качках.

Лугавая паласа ў паўкілёмэтра ўшыркі абмяжована яравымі палямі. Кілёмэтры на паўтары працягнулася яна ад возера і ўлілася ў заліўны луг. З шматлікімі завадзямі зьмейкай круціцца рэчка па лузе між раскінутых ракітавых кустоў. Чарот, хвошч, куйшынка ў вялізарных натуральных ямах з сьветлай вадой, кусты ракіты, па пояс асака, месцамі багна, дрыгва пакрываюць лугавую паласу, па якой я тады паляўнічыў. Пасярод канава з возера ў рэчку.

Чырвона - багравы зеніт сонца навіс над гарызонтам. Сьвежай прахладай дыхнуў луг. Жужжаць мухі. Надаедліва зьвіняць камары. Там, за вялікай упадзінай, закрытай ад мяне кустамі ракіты, разьмясьціўся Іван Іваныч з „Цапам“, я за ракітамі на другім баку.

Гарачыя скачкі Цапа ў ракітавым кусьце і прыжок яго ў ваду, стрэл—усё зьмяшалася, зьлілося так хутка і так нечакана, што мяне кінула ў поўнае непаразуменьне.

— Што такое здарылася?—крычу я.

— І сам ня ведаю,—адказвае Іван Іваныч.—І ня качка, і ня рыба! Не разумею! Усё-ж такі Іван Іваныч закладае патроны ў ламанку.

Цап заклапочана круціцца ў вадзе, нешта шукае. Ад ракіты да куста, што направа ад мяне, бачу нетарапліва бяжыць шнурком асака. Я замёр. Па сіле напору асакі відаць, што бяжыць качка. Раз другі бяру на прыцэл.

— Як бы не абвысіць!—думаю. На трэцім прыцэле гашэтка націскаецца.

Густы сівы дым павіс над травой. Дзе шнурок абарваўся, слаба дрыжыць асака.

— Што?—ня цярпіцца Івану Іванычу.

— Качка, што можа быць другое.

Падыхожу к здабычы. Разьвярнуў асаку і... вачам ня веру—выдра!

### Шрот

Шрот трэба ўжываць мяркуючы па дальнасьці ўзьлету качак і іх узросту. На першых паляваньнях лепш за ўсё № 5, далей № 3. На пералётах № 1, 2. Біць качку трэба цапавал, памятаючы, што ня ўбітая на сьмерць на вадзе зараз-жа схаваецца і прападзе без карысьці. У страляньні па качках патрабуецца ня толькі дакладны прыцэл, але павінен быць і шрот па яе ўзросту.

### З якім сабакам паляўнічаць за качкай

На паляваньні за качкамі лепш за ўсё спаніэль. Спаніэль не баіцца вады, добра і з ахвотай плавае. На самых глыбокіх балотах і азёрах ён гатоў плаваць цэлы дзень. Ён гоніць качак голасам. Кожную забітую беражна возьме і прынясе свайму гаспадару. Выгнаць качак з чаротаў ён вялікі майстра, вельмі стараецца пры гэтым, ня леніцца. Добра сочыць за паляўнічым. Паляўнічыць на качак з спаніэлем адно задавальненьне. Ня кожны паляўнічы, асабліва вясковец, можа набыць спаніэля, таму прыходзіцца яму прыстасоўваць іншых сабак. Пры паляваньні на качак стойкі ня трэба. Задача сабакі—знайсьці і выгнаць з густых зарасьляй птушку. Добра працуюць за качкамі ганчакі. Найлепш шукаюць, гоняць голасам, з ахвотай плаваюць і запальваюцца гэтым паляваньнем настолькі, што цяжка адазваць ці адагнаць. Чым флегматычней натура ганчака, тым лепшыя яго якасьці на паляваньні за качкамі. Трэба заўважыць, што процант добрых ганчакоў, якія ідуць за качкамі, невялікі і паляўнічаму прыходзіцца часта браць з сабой звычайную дварняжку, з якіх часта бываюць удалыя на гэтым паляваньні сабакі.

Помесь легавага з дварняжкай або лягавага з ганчаком больш за ўсё даюць добрых сабак за качкамі. Я яшчэ ў дзяцінстве знаў такога сабаку ад лягавага і ганчака. Гэты сабака вельмі добра шукаў цецярукоў, трымаў стойку, добра ішоў па зайцу з голасам. Унівэрсальны сабака

быў. Лягавых сабак, чыстапародных брацъ на паляваньне за качкамі ня раіцца і нават нельга. Маладую качку трэба прасьледваць, што называецца, у пяту; пры таком становішчы нядоўга сапсаваць лягаша.

### Паляваньне ўлетку

Паляваньне за качкамі пачынаецца па закону з 20 ліпеня ці з 1 жніўня. К гэтаму часу амаль уся моладзь даходзіць да крыла. Дзень адчыненьня сэзону паляваньня ўлетку—дзень масавага зьнішчэньня дзічыны наогул, а качкам дастаецца больш за ўсё. У гэты дзень і адзіночкамі і кампаніямі ўсе ідуць на качак і на тых мясцох, дзе яны выведіся, адчуваецца сапраўдная кананада.

Вынікі кампанійскага паляваньня нярэдка патрабуюць нават умяшацельства хірурга і нярэдка паляўнічаму прыходзіцца, сьцяўшы зубы чакаць, пакуль хірург павыме з яго цела шрацінкі. Кампанейскае паляваньне за качкамі асабліва небясьпечнае. Лепш прасядзець дома, чым ісьці на качак з незнаёмай кампаніяй. Паляўнічы павінен быць асьцярожны ў кампанейскіх паляваньнях; абавязан сачыць, дзе яго кампаньён і ці ня ідзе ён выпадкова ўперадзе, што часта здараецца каля рэчак.

Летняе паляваньне за качкамі вельмі цяжкае. Фізычна слабому паляўнічаму, асабліва паляўнічаму горада, яно зусім не па плячу. Зарасьлі асакі, і чароты ў рост чалавека і купіны, і ямы з вадой вышэй пояса, і багну і гразь павінен перамагчы паляўнічы за качкамі. Падчас і з галавой акунешся, і калі паляваньне на качак не карысталася асаблівай павагай сярод паляўнічых аматараў старых часоў, упаўне зразумела такое зьявішча. Якая патрэба пагоніць барына ці „вялікага“ чалавека ў такія непралазныя мясцы? Не абуваць-жа барыну лапці, поршні з анучамі, не адзяваць-жа грубае плацьце, адну нацельную сарочку і ня лезьці вышэй пояса ў ваду? Не, паляваньне за качкамі не для барына,—гэта пралетарскае паляваньне.

Кажуць паляўнічыя спортсмэны любяць паляваньне, якое дае найбольш цікавае эстэтычнае задавальненьне ці патрабуе ад паляўнічага найбольшай спрытнасьці, навыку для дабыцьця дзічы. Паляваньне за качкамі і належыць да такога паляваньня. Абставіны, у якіх утвараецца паляваньне за качкамі, вельмі прыгожыя і цікавыя, што ня толькі ня ўступае ў гэтай адносіне абставінам іншых паляваньняў па пяру, але, магчыма, і лепш за іх. Прыходзілася ня раз чуць ад паляўнічых аб гэтым. І зусім правільна. Страляй толькі ў меру, не рабі падранкаў. На летнім паляваньні за качкамі можна адпачыць, як гэта кажуць, адвесьці душу. Апрача таго, яно зьяўляецца амаль што самым здабычлівым з усіх паляваньняў па пяру.

### Асеньняе паляваньне

У канцы жніўня канчаткова вырастуць і, падняўшыся на крыло, качкі пачынаюць пералёты на вячэрняй зары на корм у вядомыя мясцы, а раніцой вяртаюцца на днёўку ў тыя мясцы, дзе яны звычайна праводзяць дзень. На пералётах прыхо-

---

**Рабселькор-ударнік, арганізуй шырокія колы паляўнічых на барацьбу за выкананьне і перавыкананьне заданьня дзічанарыхтовак, арганізуй сустрэчныя пляны, ударныя брыгады. Асьвятляй на старонках сваёй часопісі практыку работы месц у барацьбе за плян дзічанарыхтовак.**

**Бязьлітасна змагайся з кулацкімі элемэнтамі і яго агентамі ўсіх масьцей, якія імкнуцца сарваць выкананьне заданьня дзічанарыхтовак.**

дзіцца страляць выключна крыжнаў і чыркоў. Трэба памятаць, што качка бачыць добра і здалёку заўважае небясьпеку. Тады яна абавязкова аблятае староной ці падымаецца вельмі высока ўверх, калі не заўважыць здалёку. Таму, становячыся на peралёце, трэба зрабіць будачку ці схавацца за кустом, наогул не стаяць на чыстым месцы. Лёт працягваецца нядоўга: патухла зара, спусьціліся сумеркі, качка прайшла, хіба якая-небудзь апаздалая стайка ці адзіночка праляціць у нязвычайны час упоўдзень.

Мясцы вячэрніх пералётаў высачыць лёгка: на сонечным захадзе трэба стаць на месца магчымага пералёту (вопыт паляўнічага пакажа такія мясцы) і сачыць па гарызонту. На фоне вячэрняй зары ярка будуць відны ня толькі стайкі, але і адзіночкі. Трэба сачыць супроць зары, калі нават пералёт чакаецца з усходу на захад. Зара садзейнічае меткасьці стральбы.

Стрэлы палохаюць качак і гэтыя месцы запамятаюцца імі і ў далейшым аблятаюцца.

На мясцох начных кармежак качкі не садзяцца на адкрытыя мясцы, а сярод зарасьляў чаротаў, травы і воднай расьлінасьці. У гэтых мясцох вытвараюцца сідкі на зорах раніцой у будках.

Апісваць тэхнічны бок пабудовы будак няма патрэбы: кожны паляўнічы ведае аб гэтым. Зьяўленьне будкі на месцы прылёту выклікае падазронасьць у асьцярожнай птахі, таму некаторы час, пакуль качкі прыгледзяцца, стануць даверлівымі, трэба пачакаць і не пачынаць паляваньня. Качкі, зьбіўшыся ў зграйкі, маюць схільнасьць садзіцца ў такой самай кампаніі, як і яны самі, г. зн. да свойскіх качак. На гэтым і аснована паляваньне з будак.

Калі ўвесну даволі адной падсаднай (аб гэтым будзе гутарка ўперадзе), дык увосень трэба ня менш трох, чатырох а то і пяць. Дзе ўзяць такую колькасьць падсадных качак зараз, у нашы часы? У такім выпадку падсадныя качкі замяняюцца драўлянымі чучаламі, якія можна набыць у магазынах ці профілямі качак з фанеры. Профілі гэтыя, як і драўляныя чучалы павінны быць расьпісаны масьлянымі фарбамі і да адзнакі зары расстаўлены каля будкі на адлегласьці вернага стрэлу. Паляваньне з будак, як і паляваньне на пералёце ня трэба ўтвараць штодзень на адных і тых-жа мясцох. Неабходна рабіць перарывы між днямі паляваньня ў межах ад 3 да 5 дзён. Паляваньне з будкі працягваецца да самых замаразкаў.

Пералёты раніцой ідуць там-жа, дзе і ўвечары; пачынаюцца з раньняй зарой, калі не расьсеяўся яшчэ змрок і нічым ня розьніцца ад вячэрніх, апроч, вядома, працягу часу, бо качкі пачынаюць вельмі хутка здымацца з кармежкі і за якія-небудзь паўгадзіны пералёт раніцой скончаны.

### Страляньне качураў увесну

Веснавое паляваньне на качураў зводзіцца да таго, каб прымусіць зьнявіцца качура на ляту і падсесьці к таму месцу, дзе затаіўся паляўнічы. Лепшай прыцягацельнай сілай для гэтага зьяўляецца жывая качка-самка, якая заклікае самца натуральным голасам. Такую качку называюць падсабной ці кругавой. Мэтыс ад крыжна і шэрай свойскай качкі дае добрых падсабных качак. Разьвядзеньне падсабных качак такое проста, як і звычайнай свойскай. Дастаўшы яйкі падсабных качак, іх можна падкласьці пад любую наседку і нават пад курыцу, якая найлепш іх выводзіць. Качкі, выведзеныя ў хатніх умовах з яек дзікай заусёды бываюць найлепшымі падсаднымі. Паляваньне з падсадной утвараецца або з лодкі, або з берагу.

Як у тым, так і ў іншым выпадку трэба зрабіць прыкрыцьцё, каб вока качкі ня ўбачыла прысутнасьці паляўнічага. Для гэтага робіцца будка. Рабіць будку ў дзень паляваньня ня трэба, а неабходна даць ёй абстаяцца, каб птушка прывыкла да яе.

Калі месца выбрана, усё прыстасована, г. зн. пабудована будка,—прыступаюць да паляваньня. Раніцой да зары трэба быць на месцы ў будцы. На ўсходзе, чуць забялела, спускаюць на ваду падсадную. Прыкол, грузіла і кола—прыстасаваньні, якія трымаюць качку ў абмежаваным месцы. Падсадных качак называюць і кругавымі. Гэта назва прысвоена ім таму, што ў шмат якіх мясцох іх прывязваюць к драўлянаму колу (кругу), дыямэтрам больш чвэрткі мэтра, да акружнасьці якога пры-

вязана вяроўка, на якой плавае качка. Колца служыць для адпачынку качкі.

Прыкол—завостраны зьнізу колышак (любой пароды) з разьвятленьнем зьверху. Да колышку гэтага ўмацоўваецца шнур, за які прывязваецца качка. Даўжыня шнура каля 2 мэтраў. Астрыём колышак убіваецца ў дно вадаёму, а калі дно такое, што колышак трэба пагрузіць глыбей, дык гэта робіцца ў пораўнь вясла ў разьвілку.

Грузіла—гэта якар. Гірка ў кілёграм ня менш, конская падкоўка і некалькі гаек, якімі скрапляюцца чыгуначныя рэйкі, прывязваюцца да шнура, на які зачэплена качка. Такое грузіла, кінутае ў ваду, дае дастатковую цяжкасьць, каб утрымаць плаваючую качку на вядомым месцы. Даўжыня шнура павінна быць разьлічана так, каб ён ня быў вельмі задоўгім і ня блытаўся, а таксама ня вельмі кароткім, каб не патапіць качку. Шнур прымацоўваецца за нагу качкі пры дапамозе шырокага раменчыка, які называецца „нагоўкай“.

Манковая качка ці падсадная, як мы яе называлі раней, дастаўляецца ў асобным кошыку з прутоў лазы. Гэты кошык не павінен быць вельмі прасторным, каб ад штуршкоў пры пераездах у ёй ня хісталася качка і не паламала крылы ці ногі. Перад паляваньнем трэба добра вытрымаць качку ў цемнаце, у кошыку. Пасьля вытрымкі яна асабліва добра крычыць, ваклікае качура.

Лепшы лёт і падсадка качураў бывае зараз-жа пасьля прылёту з вырая, а потым, калі яны з качкамі разаб'юцца на пары, вынік паляваньня зьніжаецца, але як толькі качкі сядуць на гнёзды, качуры зноў ахвотна ўдуць на заклік кругавых, але гэта працягваецца нядоўга. Пачынае зьяўляцца моладзь, наступае пэрыяд лінькі, качуры, забіраючыся ў маладаступныя мясцы, ня ідуць на вабік, і паляваньне спыняецца да 1 жніўня.

---

Паляваньне на качак, пасьля таго, як скончылася паляваньне па вывадках, мае шмат спосабаў. Паляваць скрадам, з быком, з прыманкай на сабаку, на прынаду з лодкі, з гарбузом і г. д. у гэтыя часы можна.

Падрабязнае апісаньне кожнага асобнага спосабу заняло-б шмат месца, таму скажу вельмі каратка аб тых спосабах, які маюць мясцовы, выпадковы характар.

З быком паляўнічаюць якуты. Роль быка зводзіцца да таго, каб паступова пасоўваўся да берагу вадаёма. Качка даверліва адносіцца да жывёлы. Як толькі бык падойдзе да берагу і качка будзе ў меру, паляўнічы страляе з-за быка: з працівалеглага боку ад качкі ён увесь час ішоў радам з быком.

Аб паляваньні з крадам і прыманкай на сабаку пісаў яшчэ Сабанееў. Паляўнічы, апроч стрэльбы, бярэ з сабой дварняжку, які ня гоніць птах і ў запас бярэ чорнага хлеба. Убачыўшы паблізасьці качак, паляўнічы кладзецца на зямлю і пачынае кідаць у розныя бакі кусочкі хлеба. Сабака іх ловіць і, вядома, паядае. Кідаючы паступова кускі па напрамку качак, паляўнічы паўзком паступова пасаўваецца к вызначанай мэце. Качкі, ня бачучы чалавека і не баючыся сабакі, зацікаўліваюцца, што сабака есьць, набліжаюцца і пападаюць пад стрэл.

Паляваньне з-пад гарбуза. Выняўшы мякаць з гарбуза, абалонку пускаюць на ваду, насадзіўшы яе на якар. Для гэтага выбіраюцца мясцы мелкаводныя, дзе качка знаходзіць сабе корм і зграямі трымаецца гэтых месц. Калі качкі агледзяцца, прывыкнуць да плаваючых гарбузоў, паляўнічы прыступае да паляваньня.



Адзеўшы на галаву абалонку гарбуза з дзіркамі для вачэй, паляўнічы ідзе ў ваду да плаваючых гарбузоў і пагружаецца ў ваду так, каб гарбуз на галаве быў ва ўзровень вады і не адрозьніваўся ад плывучых тут-жа гарбузоў. Вядома, пагрузіцца ў ваду трэба пад самы падбародак. Качкі падсаджваюцца да чучалаў, расстаўленых толькі што на лодцы каля самых гарбузоў. Прывыкшыя да гарбузоў яны падплываюць да іх уплатную і ня бачаць, як суседкі адна за другой зьнікаюць пад вадой і пападаюць у мяшок з адвёрнутай галавой здрадніцкага гарбуза, які хапае іх за лапы. Таксама ловяць і з снапамі сьпелага, неабмалочанага аўсу.

Калі гарбуз і сноп аўса—спосаб здабычы качкі анэкдотычны ня толькі для абывацеля наогул, але і для паляўнічага, то бываюць моманты сапраўднасьці, ад якіх прабягае азноб у далікатнага паляўнічага, які смакуе ўсё хараство паляваньня толькі на паветры і ні ў якім разе не ў вадзе. Аб паляваньні з халадком я хачу сказаць у заключэньні.

1902 год. Лета нарэдкасьць дажджлівае. Ня толькі заліўныя лугі, але і бугаркі сенакосных месц засталіся ня скошанымі. Качкі стаямі пакрываюць разьлівы Сянюхі, упадаючай у раку Вялікую, Пскоўскай акругі.

1 верасьня па старому стылю. Толькі занялася зара. Яшчэ не расьсеяўся начны эмрок. Сізы туман вісіць над ракой,—плывем уніз па Сінюхе. У вілах тэлеграфіст бяз стрэльбы, з стрэльбамі памочнік начальніка станцыі і я. Шклом блішчыць вада. Далікатнай кісяёй трэўка прыкрыта, даткнешся, марозцам шапаціць. Страляньне толькі з лодкі, умова ўчарашняга дня. Сьпяшаемся пад'ехаць да берага. На блакітным фоне захаду красуны качуры пакідаюць нас адзін за другім. Качкі і пачкалі, і адзінокай узьвіваецца эдаецца і блізка, як рукой падаць, але ня ў меру. Галяніпчы за калена, бот цячэ—сьмела сходзім у ваду. Ня ўсьпела нага знайсьці апоры, як вада палілася ў боты. Глядзець далей няма чаго. Усплыло і сонейка, не сьпяшаецца, грэе. Стрэл за стрэлам кладзе качку на ваду і ляцяць серабрыстыя пырскі. Вынікі паляваньня былі добрыя.

Вось і поўдзень. Зьнімаем адзежу і высушваем на сонцы. Рэматус не пачым, а такіх выпадкаў у жыцьці было нямала. Робіць уплыў закал з дзяцінства: з 9 год узяў стрэльбу і пашоў паляўнічыць. Вось і выпрацаваўся звычай і да вады, і да холаду, і да дажджу.

**А. Ф. Ляліп.**



# Сабакагадоўля

## Гутарка з маладым паляўнічым*)

### Аб значэньні афарбоўкі пры вядзеньні пароды.

Пасьля разьвітальных слоў майго таварыша, я думаў, што доўга яго ня ўбачу. Аднак, на другі-ж дзень гадзіне а 5-й зноў пачуўся ціхі стук у дзьверы і, амаль нечакаючы майго дазволу, малады паляўнічы стаяў перад мной, здымаючы паліто і шапку.

— Ня мог уцярпець! Прышло мне ў галаву пытаньне аб значэньні афарбоўкі ганчака пры вядзеньні пароды, ніяк ад яго не аддзелаюся. Дай, думаю, набяруся сьмеласьці і зноў пайду пытаць вашых цярпеньняў. Дык вось, ужо выбачайце маю надаедлівасьць і дазвольце паставіць пытаньне: якое значэньне мае афарбоўка пры вядзеньні пароды рускіх ганчакоў? Аб другіх пародах я не гавару, там афарбоўка па-мойму такога значэньня ня мае, але ў расійскім ганчаку, прадстаўніку „ўсходніх гончых“, як вы называлі іх учора, здаецца, мае вялікае значэньне, асабліва зараз, пры вельмі вялікім зьмяшаньні яе з другімі пародамі.

— Так, — сказаў я, — гэтае пытаньне вельмі важнае і пакуль мы ім толькі і займемся, г. зн. вырашым яго ў адносіне толькі расійскага ганчака. Умовы нашай гутаркі застаюцца тыя-ж, што і раней: не перабіваць і слухаць, сваю думку выказваць пасьля.

— Вядома, вядома! Вы мяне проста прывучаеце да стрыманасьці, а раней я яе зусім ня меў. Зусім нікому не даваў гаварыць, усё хацелася найхутчэй перадаць свае думкі.

— Гэта я заўважыў за вамі з першага знаёмства і таму-то кожны раз напамінаю ўмовы. Ну чуеце? Я не прэтэндую на пагрэшнасьць маіх вывадаў, але вопыт шматгадовай практыкі паляўнічага аматара ганчакоў, знаўшага амаль усе выдатныя тыпы расійскіх ганчакоў, а потым і шматгадовая судзейская практыка прывялі мяне да наступнай упэўненасьці; прынята ўсімі паляўнічымі-ганчатнікамі, што пароду і заводзкасьць ганчака вызначаюць наступныя галоўныя адзнакі, г. зн. пабудова галавы, вочы, вуха, гон (хвост) і, урэшце, афарбоўка. Ставячы гэтую адзнаку, г. зн. афарбоўку, у канцы пераліку адзнакаў, мы нібы адводзім ёй апошняе месца пры вызначэньні заводзкасьці сабакі, але на самай справе гэта ня зусім так.

— Пры беглым абглядзе, напрыклад, на выстаўцы на вялікую колькасьць выстаўленых экспанатаў мы падзяляем іх на пароды, уперад за ўсё прыглядаючыся да афарбоўкі, гэта асабліва важна пры аднясеньні таго ці іншага экзэмпляра да пароды расійскага або расійска-польскага і, ад часткі, англійска-расійскага. Такім чынам, наадварот, афарбоўка ганчака зьяўляецца адзнакай нібы дамініруючай.

Вядома аўтарытэт па гончых сабаках у канцы мінулага і пачатку сучаснага стагодзьдзя Н. П. Кішэнскі ў сваёй кніжцы: „Гончая у ружейной охоте“ гаворыць: „Гончая может быть всех окрасов за исключением кофейного“. У гэтым з ім нельга не згадзіцца, гаворачы аб гончай наогул.

Разьбіраючы, аднак, асобныя пароды, асабліва расійскую, мы сустракаемся ў сучасны момант, дзякуючы вялізарнай мешаніне, з вельмі цяжкім вырашэньнем гэтага пытаньня. Зараз прынята, што ў расійскага чапрачнага ганчака падпалы або, лепш сказаць, фон павінен быць сьветла-жоўты і ні ў якім разе чырвоны, а ў расійска-польскай наадварот. Чапрак з сівым падшэрсткам або колеру падпалін, але бяз бляску, матавы, а ў расійска-польскага наадварот зусім чорны і з бляскам.

Падыходзячы з гэтай мэтай у адносіне

---

*) Гл. „К. П,“ № 5, 1931 г.

да афарборкі ў расійскага ганчака і знаходзячы ў ім наяўнасьць пароднай афарбоўкі для расійскага ганчака, мы яе, вядома, да гэтай пароды і адносім, а потым ужо пачынаем прыкладаць да яе ўвесь маштаб адзнакаў данай пароды.

У заметках судзьдзі знаходзіцца наступнае: вуха даўгаватае, брылі і падгрудак, вока круглае і г. д., якраз адзнакі расійска-польскага сабакі. Наадварот, пры мне стандартныя адзнакі расійска-польскага ганчака мы часта адзначаем: чапрак, нябліскучы, вуха кароткае, вока ня зусім цёмнае, г. зн. якраз адзнакі расійскага ганчака, але ў яго чырвоныя або мазаныя падпаліны і да расійскіх гончых па гэтаму аднесьці яго нельга.

У чым тут справа?

Мая думка і ўперад была такая, а зараз, пасьля апошніх шасьці год судзейства на выстаўках чуць не па ўсіх гарадох нашага вялізарнага СССР, яна яшчэ больш замацавалася: прычынай, блытаючай абедзьве пароды хаця і з-за афарбоўкі служыць толькі адна абставіна—амаль ва ўсіх чапрачных гончых сабаках цякуць дзьве крыві, расійская і польская, і розьніца між асобнымі экзэмплярамі толькі ў тым, якой у іх крыві больш, а таму і вынікі мэтызацыі асобных экзэмпляраў гэтай афарбоўкі прадбачыць нельга. Я далёк, аднак, ад думкі, што чапрачная афарбоўка пагалоўна не пародная. Ёсьць сабакі гэтай афарбоўкі з вялікімі радаслоўнымі бязумоўна пародныя, але іх вельмі мала.

Другая справа іншыя афарбоўкі расійскага ганчака: шэры, багравы ўсіх адценьняў і багравы ў так званым лёгкім чапраку, г. зн. трохі цёмнаватай і сівой сьпіной. Усе лепшыя экзэмпляры расійскіх ганчакоў, якіх я калі бачыў за апошнія часы, былі менавіта, гэтых афарбовак і пераважна апошняй, бо яна часьцей іншых сустракаецца.

Рэдкая шэрая афарбоўка (воўчая) яшчэ захавалася ў некаторых мясцовасьцях і сабакі гэтай афарбоўкі зноў сталі прыцягваць да сябе ўвагу паляўнічых за свае высокія палявыя якасьці. Яны зараз ёсьць у горадзе Арле, яго ваколіцах, у Будкоўскага і Завойскага, а таксама ў Яльцы ў Карабліна і ў Праскураве ў Нікалаева. Забракаваны на адной з Маскоўскіх выставак і зноў рэабелетаваны на другой шэры „Дунай“ Ялецкага т-ва, зараз належачы, здаецца, Карабліну, даў такіх шчанюкоў, якія сталі працаваць толькі ў першую восень, на палявой спробе ганчакоў у Маскве ў 1929 годзе ў смычку, прайшлі першымі і пабілі, ня гледзячы на свой узрост, лепшы маскоўскі смычок расійскіх-жа асеністых „Забаўку“ і „Метку“ Галавіна. На жаль, выжлец гэтага смычка быў украдзены, а потым знойдзены загінуў, а выжлоўка на вывадцы таго-ж году ў Маскве пад судзействам М. І. Аляксеева атрымала вялікую сярэбраную мэдаль.

Шэрыя ганчакі ў зьмяшаньні з багравымі пераважна даюць трэцюю афарбоўку, г. зн. у лёгкім чапраку, а адсюль я заключаю, што гэтыя тры афарбоўкі расійскага ганчака павінны быць прызнаны выключна пароднымі і іх асабліва належыць трымацца паляўнічым, якія вядуць пароду расійскіх ганчакоў. Лепшыя да гэтага выжлоўкі ў Маскве, „Забаўка“ Галавіна, зараз загінуўшая ў Ленінградзе „Зацейка“ ваенна-паляўнічага т-ва, абедзьве ў лёгкім чапраку. У такой-жа афарбоўцы, бязумоўна, добрыя былі тры выжлоўкі на выстаўцы ў Тамбове. Адна з іх: „Зьмяя“ Мазгіна была на выстаўцы і ў Маскве і чуць не пабіла „Забаўку“ Галавіна, якая да таго лічылася амаль прыгажэйшай і доўгі час займала першае месца.

Трымаючыся гэтых афарбовак, вядома, пры наяўнасьці ўсіх другіх адзнакаў заводзкэ-расійскага ганчака, можна хутчэй за ўсё прыйсьці да жадаемага выніку аднаўленьня тыпу старога расійскага ганчака, г. зн. да стандарту.

З сказанага мною вы можаце зараз заключыць, што па маёй думцы афарбоўка пры вядзеньні пароды расійскага ганчака мае вельмі вялікае значэньне.

Я замаўчаў.

— Вы скончылі?—спрасіў таварыш.

— Так,—адказаў я.—Я хацеў-бы яшчэ сказаць адносна белых адмецін, якія сустракаюцца ў расійскіх ганчакоў, але гэта адносіцца ўжо да другой галіны. А вы як думалі?

— Думаў таксама, між іншым, яшчэ падумаю і тады вам скажу, хаця магчыма, ня скора, таму, што вельмі саромлюся адрываць у вас час на свае дакучлівыя пытаньні.

— Усё-ж такі, прыходзьце! Не саромцеся, а калі мне будзе часу, то зараз, блізка пазнаёміўшыся з вамі, я гэта вам скажу.

Мы разьвіталіся з таварышом да наступнага разу.

Н. Чэлешчаў.

# 2.300 кілёмэтраў на сабаках

Па заданьні сэктара службовай сабакагадоўлі Цэнтральнага савету Осоавіяхіму СССР, я 22 лістапада 1930 г. выехаў на Дальні Ўсход для закупкі двух вупражак ездавых сабак.

Акрамя закупкі ездавых сабак, трэба было падшукаць і вопытнага каюра.

Пасьля доўгай перапіскі з цэнтрам і Камчаткаю па пытаньні закупкі, у другой палове сьнежня ўдалося купіць вупражку сабак у каюра т. Дзьячкова.

У той-жа час з Петрапаўлаўску на сухазем'е ўваходзяць апошнія параходы. Трэба было сьпяшацца, а другой вупражкі яшчэ няма. Падходзіць студзень. У выніку моцнага цыклёна, прышоўшага ад берагоў Японіі, у Петрапаўлаўскай бухце замерзьлі параходы. Але Дзьячкову з адной вупражкай удалося вырвацца з Камчаткі на сухазем'е з апошнім параходам.

Падрыхтоўка да гэтага доўгага і адказнага шляху заняла пяць сутак, і 31 студзеня на цэнтральнай плошчы Сьвярдлоўска, пры вялізарным натоўпе пралетарскіх мас гораду, быў дадзен афіцыйны старт II Усесаюзнаму ваенізаванаму прабегу на сабаках па маршруту Сьвярдлоўск—Масква.

У прабезе ўдзельнічалі тры чалавекі: я, як камандор прабегу, каюр (пагоншчык сабак) тав. Дзьячкоў М. і ленінградзкі журналіст т. Геко Ю.

Вупражка з 11 камчацкіх сабак 1 лютага вышла з Сьвярдлоўску і воўчай рысьсю панеслася наперад пад крыкі каюра „кух-кух“ (налева), „сюда“ (направа).

На чале з правадырамі, Белагрудым і Двуглавым (клічка сабак) вупражка цьвёрда і ўпэўнена прайшла Краснауфімск. Ад Краснаўфімску па прасёлачных зрытых дарогах, паўгарыстай мясцовасьці Перадуральля праз пяць сутак прыбыла ў г. Сарапул.

У Сарапуле пасьля 500-кілёмэтровага прабегу сабакам быў дадзены двухдзённы адпачынак.

У Сарапуле вупражку сустракала да 2 тысяч чалавек. У агульнагарадзкім тэатры на мітынгу змычкі рабочай моладзі з прызыўнікамі, дзе прысутнічала да 800 ча-



лавек, быў зроблены даклад аб прабегу. Зроблены былі таксама даклады ў Доме селяніна і на абутковым мэханічным заводзе.

Паміж Сарапулам і Казаньню распаўсюджана 12 тысяч агітлістовак, арганізавана ячэйка Осоавіяхіму, праведзены сходы і лятучыя мітынгі.

Прайшоўшы Елабугу, Мамадыш, 18 лютага фіешыравалі ў г. Казані.

У Казані, улічваючы вопыт мінулагодняга прабегу, парашылі даць пасьля 1000 кілёмэтраў, зробленых у 14 пераходаў, 3 дзённы адпачынак.

У Казані быў праведзены мітынг, на якім прысутнічала кала 1500 чалавек, потым удзельнікі выступілі з дакладам

па радыё, выступілі на Зьезьдзе саветаў у Татарыі, у Татара-Башкірскай школе камскладу і на карнавале ў гонар 13 юбілею Чырвонай арміі і ў шэрагу другіх месц.

Раніцаю 24 лютага вупражка выехала з Казані ў Н.-Ноўгарад. Па шляху да Ніжняга быў зроблены шэраг дакладаў аб неабходнасьці ўзмацненьня ўвагі да абароны краіны і Осоавіяхіму, пра значэньне службовай сабакагадоўлі. У Чэбаксарах, Васільсурску, Лыскаве, Бязводным усюды нам былі наладжаны цёплыя таварыскія сустрэчы.

Прайшлі Н.-Ноўгарод, Уладзімер. Усюды сустрэчы, даклады, мітынгі аб узмацненьні абароны СССР.

17 лютага мы прыбылі ў цэнтральную школу-пітомнік РСЧА, а 18 лютага быў даны фініш у Маскоўскім цэнтральным парку культуры і адпачынку.

Усяго за час прабегу намі было праведзена 70 масавых выступленьняў і мітынгаў. Дакладная колькасьць праведзеных гутарак не паддаецца вучоту. Гутаркі праводзіліся ў час вымушаных кароткіх прыпынкаў, на днёўках і вечарамі.

За гэты час у 20 розных газэтах і журналах Масквы, Ленінграду і, галоўным чынам, правінцыі зьмешчана да 80 заметак, артыкулаў і апавяданьняў з масай фатаздымкаў прабегу. Інфармацыі зьмяшчаліся як у расійскіх, так і ў газэтах нацменшасьцяй.

Па шляху сьледваньня вупражкі ўдзельнікі прабегу ў насельных пунктаў распаўсюджвалі агітлістоўкі, спэцыяльна выпушчаныя да дня прабегу сэктарам службовай сабакагадоўлі ЦС. Усяго за час прабегу было раздана 30 тысяч лістовак. У розных гарадох да прабегу былі выпушчаны плякаты і лістоўкі.

У заключэньне можна падвесьці практычныя вынікі. Асноўны і галоўны посьпех прабегу—прыцягненьне ўвагі дзесяткаў тысяч рабочых і сялян да пытаньня абароны СССР наогул і да ваенна-службовага сабакі, як сродка ўзмацненьня абароны,—у прыватнасьці.

У якасьці прыкладаў, ярка ілюструючых дзеяньне агітацыйных выступленьняў прабегу, можна ўказаць на наступныя.

У Канавіна заводы „Красная Этна“, „Двигатель рэволюцыі“ і 1 фабрыка на мітынгу пастанавілі калектыўна ўсім уступіць у члены Осоавіяхіму.

Рабочыя Сарапульскага камзаводу ўсім калектывам увайшлі ў Осоавіяхім.

У горадзе Лыскове некалькі сот прысутных на мытынгу рабочых запісаліся ў члены Осоавіяхіму.

На заводзе „Камбарка“ праведзена ўдарнае абсьледваньне ячэек Осоавіяхіму.

У цэнтры Чувaскай рэспублікі—Чэбаксарах—пасьля прабегу створана брыгада Осоавіяхіму для праверкі актыўнасьці членаў мясцовых ячэек і для вярбоўкі новых.

У калгасе „Іскра“, сяло Чад, пастаноўлена засеяць гектар у карысьць дырыжаблябудаўніцтва.

У вёсках Кізбеева, Тохтамыш і інш. арганізаваны новыя ячэйкі Осовіяхіму.

У далейшым прабег, бязумоўна, паслужыць моцным штуршком для разьвіцьця мёртвай дагэтуль работы па службовай сабакагадоўлі на мясцох. Рашэньні аб стварэньні сэктараў службовай сабакадоўлі пры саветах Осоавіяхіму і ўзмацненьні работы існуючых вынесены ў Красна-уфімску, Елабузе, Сарапуле, Лыскове і цэлым радзе другіх гарадоў, дзе была вупражка.

Галоўная ўвага звaрачаецца на ахову сабакамі фабрык, заводаў і калгасаў. З калгаса на гэтыя мэты ўжо сабраны аванс у 4 тыс. руб. На сходзе ў дзяржаўным унівэрсытэце ў Казані вырашана стварыць пры ім спэцыяльнае кіналёгічнае аддзяленьне.

Потым па дакладах удзельнікаў прабегу вынесены ў розных пунктах цэлы рад і другіх рашэньняў, ставячых задачу ажыўленьня і ўмацаваньня работы Осоавіяхіму і ваеннай сабакагадоўлі.

У заключэньне т. Юркевіч сказаў, што III Усесаюзны ваенізаваны прабег на ездавых сабаках Камчаткі па маршруту Урал—Масква прынёс, бязумоўна, вялікую агітацыйную карысьць справе разьвіцьця службовай сабакагадоўлі ў нашай краіне.

(„С—во“.)

# За разумнае навучэньне сабакі

Сабака самою прыродаю створаны і прызначаны быць верным памочнікам чалавека. Ня трэба многа, каб пераканацца у моцнай прывязанасьці сабакі да свайго гаспадара. Жыве сабака ў галадзе, у немагчымых умовах, але свайго гаспадара ня кідае. Досыць аднаго ласкавага погляду, аднаго ласкавага слова — сабака забываецца на самае жорсткае абыходжаньне свайго гаспадара.

Адданы сабака падзяляе няшчасьце свайго гаспадара і засмучоны ходзіць за ім, калі той заклапочаны якім-небудзь жыцьцёвым здарэньнем. Затое, як весела скача ён перад гаспадаром, калі той у добрым настроі.

Сабака—адданы і верны памочнік свайго гаспадара. Ён па вачох адгадвае настрой свайго абаронцы і ўзгадняе з гэтым свае паводзіны. Як беспамылкова часам сабака адрозьнівае прыяцеля ад ворага. Як на дзіва доўга памятае ён ласку і лёгка забываецца на дрэннае абыходжаньне. Як добрасумленна выконвае даручанае; з якой стараннасьцю, напрыклад, нясе кошык, з якой паслухмянасьцю цягне цялежку з дзецьмі, як асьцярожна вядзе сьляпога. На поўначы — цягавая сіла сабакі, ды яшчэ па цаліне глыбокага сьнегу, вельмі важна.

А як дзейнічае сабака пры адшуканьні занесеных сьнегам людзей, параненых на полі бойкі? Як адшуквае злачынства? Колькі ратуе жывёлы ад крыважэрнага зьвера, папярэджвае крадзеж? А далёказрочнасьць, а тонкі нюх, слых!!

Якая другая жывёла здольна на такую самаахвярнасьць, каб, не задумваючыся, кінуцца насустрач небясьпецы, каб толькі выратаваць жыцьцё свайму гаспадару.

Цяжка глядзець, як адданага чалавеку прыяцеля—сабаку бязьлітасна, бяз толку мучаць парфорсам, б'юць арапнікам, палкай, а часамі нагою дзе і як папала, урэшце нават страляюць, каб такім чынам адвучыць ад пагоні за дзіччу, а то і зусім забіваюць.

Абураючы факт самадурства, меўшы месца ў сэзон летняга паляваньня ў мінулым 1930 годзе, перадае „Уральский охотник". Адзін з членаў Уральскага т-ва паляўнічых прадаў у Чалябінск паляўнічага сабаку „Альфу"—кроўнага ангельскага сэтэра, прэміраванага на выстаўках мэдалямі і атрымаўшага дыплём III ступені на палявых спрабаваньнях лягавых.

У пачатку паляваньня бягучага сэзону гаспадар новакупленага сабакі інжынэр Трактарабуду гр. Савінкаў адправіўся з „Альфай" на качак і за нежаданьне падружэйнага сабакі шукаць качак „Альфу" ён, не задумваючыся, застрэліў на месцы паляваньня.

„Уральский охотник", абураючыся дзікім паступкам самадура, зусім правільна гаворыць, што для такога жывадзёра за забой сабакі, уяўляючай каштоўны племянны матар'ял, мала аднаго грамадзкага ганьбаваньня ў друку, а трэ' было-б прыняць больш суровыя меры ўзьдзейнічаньня, г. зн. выключыць з ліку членаў саюзу паляўнічых, калі гр. Савінкаў лічыцца ў ліку іх.

Самадур гэты нагадвае — асколак старога часу, калі Цітыч біў люстры ў рэстаранах „дзеля забавы", трасучы поўнай кішэняй. Бяз сумненьня наша паляўнічая грамадзкасьць далучыцца да думкі, выказанай „Уральским охотником".

Хоць гэта і няпрыемна, але трэба сказаць праўду; доўга прыдзецца чуць яшчэ нам на балотах і лугох пісчаньне беднага пса ня толькі ад жорсткасьці свайго гаспадара, але проста ад яго няўменьня і няведаньня таго, што менавіта трэ' было патрабаваць ад свайго пса.

Адсылаючы ўсіх жадаючых дэталёва азнаёміцца з усімі тонкасьцямі справы дрэсыроўкі да спэцыяльных выданьняў, вышаўшым раней і за апошнія гады, я хачу толькі перадаць пачынаючым паляўнічым самыя элемэнтарныя правілы абыходжаньня з лягавым сабакам, як больш церпячай ад сваіх выхавальнікаў.

1) Прыступаючы да навучаньня сабакі, трэба памятаць, што толькі разумнае і сур'ёзнае абыходжаньне з ёю можа прывесьці да спрыяючых вынікаў: усякія лішнія размовы, ласкі ці жарты не да месца перашкаджаюць усваеньню тых нямногіх слоў, якія павінен завучыць сабака.

Уперад, уперад, даун (націск на літару а)—легчы! тубо (націск на літару о)—нечапай! вазьмі, цішэй"—толькі гэтыя словы і павінны фігураваць пры дрэсыроўцы; ласкавае паглажваньне рукою падбадзёрвае вучня да хутчэйшага ўсваеньня вуроку.

2) Трэба забыцца, што існуе пуга, а тым больш палка, дубец і наогул усякія сродкі фізычнага ўзьдзейнічаньня.

3) Перш чым прыступіць да дрэсыроўкі, паляўнічы павінен усвоіць названыя вышэй словы і тады толькі пачынаць навучаць сабаку: блытаніна ў словах зьбівае з толку і можа загубіць пачатую справу.

Раней і цяпер з панядзьцем аб дрэсыроўцы непарыўна зьвязваецца ўяўленьне аб страшэнных пабоях, мяркуючы, што толькі дубцом можна дабіцца ад сабакі паслухмянасьці і выкананьня ўскладзеных на яго патрабаваньняў.

Той дрэсыроўшчык, які б'е сабаку за тое, што ён ня выконвае незразумелых яму загадаў, заслужвае сам такога-ж пакараньня. Неразумна патрабаваць ад жывёлы, каб яна рабіла тое, чаго яна не зразумела і не запамятала,—гавораць і пішуць вопытныя дрэсыроўшчыкі і паляўнічыя, навучаныя вопытам. І гэта, бязумоўна, верна.

Сучасны паляўнічы не павінен ісьці па гэтым шляху.

**А. Лялін.**




— От бачыш, Васіль!?

— Я-ж табе казаў Амельлян, што гэта ваўкі.

Васіль быў белабрысы, з блакітнымі вачмі, год 30 чалавек. Твар яго быў сухі, доўгі, але здаровы, з бронзавым загарам. Фігура таксама, хаця і доўгая, але адчувалася ў ёй магутнасьць, аб гэтым сьведчылі нават яго буйныя рысы твару.

Амельлян быў процівалегласьць яму: фігура яго цела была і нядоўгая і некароткая, вочы жывыя, карыя, з чуць-чуць заметнай жаўтаватасьцю, хоць ён выглядаў і маладым, усяго год на 22, але ад яго ня веяла такой сілай, як ад Васіля,— ён быў трохі сутулы і гаварыў неяк сьпяшаючыся, нібы яму не хапала паветра, і голас быў яго нейкі дзявочы, я-б сказаў,—ціхі і піскліві, і рысы твару яго былі дробныя, нейкія нявыразныя.

Васіль і Амельлян былі абодвы калгасьнікі-паляўнічыя з „Магутнасьці натоўпу“. Васіль уступіў у гэты калгас яшчэ тады, калі вярнуўся з Чырвонай арміі, у 1924 годзе, а Амельлян толькі гады 2—3 таму.

Дык вось, зараз яны стаялі на высокім абрыве і глядзелі на худога каня, толькі што задаўленага ваўкамі. З раны на горле каня сачылася алая, яшчэ цёплая кроў. Мэтраў на 10, а мо' і менш, унізе серабрыстай зьмейкай вілася рака Можа, абапал якой расьцілаўся зялёнай коўдрай прасторны луг, парослы кустамі лазы і алешнікам. Нейдзе пад нагамі, здавалася зусім блізка, крычаў драч. На кожным кусьце па некалькі штук адразу сьвісталі салаўі—гэта быў той час, калі сонца ўжо схавалася за горызонт, але румяны загар яшчэ ня зышоў з неба і насоўваўся змрок. Трохі далей, на галубым, пацямнеўшым ад дзённай сьнёкі небе, нявыразна вылучаўся зубчаты контур лесу, у якім яшчэ кукавалі зязюлі. Яшчэ далей на ўсход, каля павароту ракі прытулілася вёска Матузоўка, а на бугры недалёка ад яе, сваімі разноколернымі крышамі віднеўся калгас „Магутнасьць натоўпу“. Але ад таго месца, дзе стаяў Васіль з Амельлянам як да вёскі, так і да калгасу было кілёмэтры тры.

Як я ўжо казаў, Васіль і Амельлян стаялі на абрыве, а вакол іх расьпіналася маладое жыцьцё вясны. Быў май месяц. У небе лёталі—растапырыўшы свае крылы і ўчыняючы імі патрасеньне паветра—бекасы. Недзе ў затоцы заплёхалася качка. Зараз-жа, усьлед за гэтым, з лазьняку падняўся качур і з зайздросным, нейкім нібы надтрэснутым скрыпучым, але моцным крыкам паляцеў туды. Усьлед за тым гэты крык яшчэ магутней, зайздросьней аднавіўся над ракой, а потым качка і качур узьняліся з затокі і з лёгкім сьвістам крыламі панесьліся ў паветры, над галавой Васіля і Амельляна. Загар яшчэ больш пацямнеў на захадзе. Пацягнула сырасьцю. Над лугам падымаўся туман. Васіль яшчэ раз паглядзеў на задаўленага каня і сказаў:

— От табе і вазьмі!—чалавек карміў зіму, спадзяваўся працаваць, а тут... от...

— Я-ж табе казаў, што гэта ваўкі краліся між кустоў лугам, калі мы выйшлі з калгасу,—адказаў Амельлян.—Я-ж табе казаў... Конь, відаць, наеўшыся ўжо выйшаў з лугу, а яны яго тут...

— І чорт іх ведае, што яны робяць?— зноў загаварыў у злосьці Васіль.

— Хто?—запытаўся Амельлян.

— Ды гэтыя матузоўцы. Столькі жывёлы ваўкі давяць, а яны хоць-бы палец аб палец ударылі. Нібы іх гэта не датычыцца. Вось дзе неарганізаванасьць, вось дзе беспарадак!

Вёска Матузоўка, як гэта было ўжо сказана, яшчэ не ўвайшла ў калгас. Нікому не сакрэт, што куды цяжэй арганізавацца на якую-небудзь справу, а тым больш на аблаву за ваўкамі, аднаасобнікам, чым калгасьнікам. У такіх выпадках адзін будзе казаць, што яму няма часу, другі, што ў яго нечага ваўкам давіць, трэці, што ў яго ўжо задаўлена ўсё ваўкамі, і больш няма аб чым клапаціцца і гэтак далей. А тым часам, каля Матузоўкі зьвілі

сабе гняздо ваўкі і рабілі сваю справу. То там, то тут, чуліся скаргі на гэтых драпежнікаў.

— Чорт іх ведае, што яны робяць!?— зноў паўтарыў у задуменьні Васіль.

— Ну, і чорт з імі!—злосна піскнуў Амельлян.—А тады крычаць, што няма каня палоску засеяць.

— Вось гэта-ж!—перабіў яго Васіль.— Шкода, што скаціна ад ваўкоў гіне!..

Васіль замаўчаў, паглядзеў яшчэ раз на зарэзнага каня, задумаўся.

гое—колькі іх, паляўнічых аднаасобнікаў— толькі два!

— Праўда, іх толькі два,—згадзіўся Амельлян.—Дык хай яны пачнуць, а потым арганізуюць і непаляўнічых.

— Але-ж яны бяз нас нічога ня зробяць,—запратэставаў Васіль.

— І мы дапаможам тады,—адказаў Амельлян.—Хоць калгасная жывёла і пасецца, ды воўк бярэ і худзейшую, і слабейшую... Хай гэтыя два паляўнічыя з Матузоўкі і робяць падвыўку.



— Знаеш што, прыдзецца нам з табой узяцца за гэтую справу; узяцца за падвыўку сёньня, каб зьнішчыць гэту навалу,— сказаў ён праз мінуту.

— Ідзі, калі хочаш,—злосна адказаў Амельлян.

— А ты?!

— Не пайду.

— Чаму?

— Спаць пайду: змарыўся, хочу спаць.

— Ты ня дуры, Амельлян.—От як да дзевак, дык хоць зараз, а да справы...

— Хай ідуць тыя, чыя жывёла прападае. Гэта-ж падумаць толькі, ваўкі столькі жывёлы парэзалі, а яны, хоць бы што... сядзяць сабе ў халадку, ды патыліцу чэшуць. Ну, і людзі... А тут ідзі за іх на падвыўку! У іх свае паляўнічыя ёсьць, хай і ідуць!—захваляваўся Амельлян.

Ён ніяк ня мог згадзіцца з тым, што ваўкі душаць жывёлу індывідуальнікаў, а яму прыходзіцца рабіць аблаву, аберагаць гэтую жывёлу ў той час, калі, сапраўды, у вольны час гэтым маглі-б пасьпяхова заняцца яны самі.

— Па-першае, ты ня крычы! Цябе ніхто ня гоніць,—сказаў Амельлян.—А па дру-

— Што калгасную жывёлу ваўкі ня рэжуць, а біруць з Матузоўкі—гэта ня важна,—сказаў Васіль.—Скаціны усёроўна шкода, а наконт таго, каб яны падвыўку рабілі, дык ты-ж ведаеш, што гэтыя паляўнічыя падвываць ня ўмеюць,—сурова, цьвёрдым голасам, адчаканьваючы кожнае слова, адказаў Васіль.—Будзем мы падвываць сёньня!

— Я не пайду!—крыкнуў, ужо хвалюючыся Амельлян і залапатаў:—Хай яны згараць, за іх я ночы ня буду спаць... Што я гэта ім, гэтым абібокам, парабок які ці што? Яны будуць ляжаць, а я...

— Не хвалюйся, Амельлян!—ужо ласкава, паклаўшы цяжкую руку на плячо таварышу, адказаў Васіль.—Мы сёньня з табой пойдзем на падвыўку—гэта доўга не працягнецца,—а потым і іх, матузоўцаў, возьмем у работу і пабачыш—ваўкоў паб'ем. Каму будзе радасьць, нам ці ім?

— Вядома, нам!—адказаў Амельлян, ужо супакойваючыся і гледзячы ласкава ў твар таварыша.

— Ну, а наконт таго, што матузоўскія паляўнічыя падвыўкі ня робяць, дык выбачай: мы-ж, калгасьнікі, як больш

арганізаваныя людзі, як больш сьвядомыя і ў гэтай справе павінны паказаць прыклад,—зноў пачаў гаварыць Васіль, але ўжо мяккім голасам, убачыўшы, што Амельлян здае.

— Яно то так,—згадзіўся ў задуменьні, Амельлян.

— Ну, дык пойдзем павячэраем, ды папытаем шчасьця,—адказаў Васіль.

— Хай сабе так...—ужо зусім ціха згадзіўся Амельлян.

— Ну, дык ідзем!

Яны яшчэ раз, ужо ў сумерках, кінулі погляд на задаўленага каня і накіраваліся на дарогу.

На захадзе ўжо засталася белая палоска, усё заціхала. Толькі лёгкі подых вецярка трэпятна будзіў спакой лістоў на кустох алешніка і бярозы. У небе загараліся зоры. Ужо і зязюля не кукавала, і звонкіх гаcскоў жаваранак ня было чуваць, і каровы ня рыкалі, ідучы з поля, і чалавечыя галасы ня былі чутны ў полі. Толькі салаў'і яшчэ больш зайздросьней сьвісталі ў ракітніку, драчы разьдзіраліся ў лузе, ды плёск і любоўны крык качураў нёсься з-за ракі.

Амельлян і Васіль, як дзьве жывыя цені, ціха рухаліся па пыльнай мяккай дарозе ў напрамку да калгаса „Магутнасьць натоўпу“. Месяц чырвоным, агнявым колам паўстаў на поўдні і, гледзячы на яго, у галаву лезьлі нейкія фантастычныя думкі.

---

Васіль і Амельлян сядзелі між кустоў арэшніка ў лесе на „Шутавым лагу“. Так называлася тое месца, дзе хлопцы меркавалі знайсьці логавы ваўкоў. З правага боку ад іх, за невялікай дзялянкай, заросшай дробналесьсем і заваленай ломам, уздымаўся ўверх высокі лес беразьняку, ольхаў і, часамі, ельніку. Зьлева—працякала рэчка Можа і луг ад яе, заросшы густым хмызьняком: лазой, калінай і іншымі балотнымі расьлінамі, вострым кутком заходзіў у лес. Тут самыя лепшыя месцы для гнездаваньня ваўкоў: і вада блізка, і суха на дзялянцы, і лому шмат, і з лесам зносіны добрыя.

Было пад поўнач. Месяц ужо падняўся высока і кідаў галубыя праменьні на блІскучыя ствалы тонкіх бяроз. Лес заціх і, здавалася, драмаў. Толькі маленькі вецярок чуць-чуць адчуваўся, ласкаючы сваім подыхам твары таварышоў — Васіля і Амельляна—і кволыя лісты маладых пахучых топаляў. Тады, здавалася, што яны шэпчуцца між сабой. Толькі дразды, тыя,



як нарочна, яшчэ горш напаўнялі паветра сваім сьвістам.

— Пара!—сказаў Васіль шопатам.

— Пара!?—недаўменна, спрасонку, прабурчэў Амельлян.

Ён трохі быў задрамаў.

— Пара пачыкаць!—паўтарыў Васіль.

— Мусіць... пара,—зноў адказаў Амельлян.

Яму і спаць хацелася, і неяк жудасна было, але ён спадзяваўся на Васіля, а таму сон браў верх над страхам.

— Дык глядзі, слухай—ды ціха!—папрасіў Васіль і завыў, падробліваючы свой голас пад голас старога ваўка.

— А-у-у-у-у! А-у-у-у-у!—працяжна і заўныўна палядела па лесе і, недзе далёка, заціхла.

У вёсцы забрахалі сабакі і зноў усё змоўкла. Васіль і Амельлян прыслухаліся, але ваўкі не адгукнуліся. Амельляну зноў стала неяк сумна, ён заварушыўся на месцы, нявольна пасоўваючыся да Васіля.

— Ціха! Сядзі ты!—прашаптаў Васіль і зноў завыў. Ізноў пакацілася па лесе рэха яго воўчага голасу, аднача̀сна нібы ціхага, нібы магутна пераклікаючыся фантастычнымі звонкімі галасамі ў залежах. Ваўкі на гэты раз адгукнуліся: спачатку недзе далёка, на полі, завыў адзінока стары—працяжна і сумна, потым забрахалі,—суха і каротка, званочкамі—маладыя на гнязьдзе. Здавалася, што яны вось тут, зусім недалёка поўзаюць шэрымі камочкамі пад нагамі. Амельлян нават расшырыў зрачкі вачэй, імкнучыся ўбачыць іх, але ўсё цёмнай ценьню заплывала ўперадзе.

— Мы амаль на іх узышлі!—радасна і ціха сказаў Васіль.—Заўтра мы падрыхтуем хлопцаў да аблавы, вечарам яшчэ раз праверым падвыўку, а пасьлязаўтра зробім аблаву.

— А зараз куды?—запытаўся Амельлян.

— А зараз куды?—адказаў Васіль,—Зараз спаць пойдзем, у калгас.

Яны ціха падняліся і, узышоўшы на дарогу, жывымі ценямі пасунуліся між лесу да калгасу. Ноч была цёплая і прыгожая, летняя ліпнёвая ноч.

З лесу цягнула сырасьцю і прахладай. Усё спала навокал. Было каля двух гадзін пасьля поўначы. Нават дразды, і тыя ўжо забыліся пра сьпевы. Дзе-ні-дзе, у верхавіньні, спрасонку трапятала птушка. Калі яны падышлі да ракі, там ня чутна было плёску качак. Толькі драч, яшчэ горш, чым увечары, разьдзіраўся ў густой расістай траве ў лузе.

---

— Я вам кажу, што ваўкі падвыты!—крычаў Васіль на сходзе аднаасобнікаў—матузоўцаў,—чаго вы яшчэ хочаце?

— Падвыты... то хай сабе падвыты, але ці даеш ты гарантыю, што яны будуць пабіты?—супярэчыў яму адзін аднаасобнік.

— А хто гэта іх мог падвыць?—запытаўся другі.

— А-а-а! Чаго яго там слухаць!—крычаў трэці.—Хто падвыў, той хай і аблаву робіць.

— Няма нам часу займацца гэтай справай,—упэўніваў чацьверты.

— Ды ў мяне ўсе авечкі цэлыя,—гаварыў пяты,

— Э-э-э, брат!—ускрыкнуў Васіль, наслухаўшыся разгавораў аднаасобнікаў.—Сьмех з вамі, ды і гора! Адзін цягне ў лес, другі ў ваду, а трэці паўзе назад, як рак, а чацьверты—з месца ня хоча крануцца. А я вось што скажу: калі вы самі ня зьнішчылі ваўкоў, дык яны пазаўчора каня Макара звалілі.

— Ось гэта, дык ты ўжо брэшаш!—вышаўшы ўперад сказаў чалавек з рыжай барадой.—Конь мой цэлы.

Васіль усьміхнуўся.

— Ты калі яго бачыў у апошні раз?—запытаўся Васіль.

— Навошта мне яго бачыць,—адказаў Макар.—Нядаўна яго бачыў, ураньні.

— Дык ты лепш ідзі, ды шкуру з яго здымі, калі ваўкі яшчэ не пасьпелі. Ён ляжыць на роскрысту дарог, над ракой.

Макар, паверыўшы, урэшце, Васілю, пабег дахаты, чэшучы патыліцу і нацягваючы на галаву шапку, а Васіль працягваў:

— Спадзявацца на вас няма чаго, але, калі вы нам не дапаможаце, дык ваўкі пазадавяць вашу жывёлу.

Гутарка з Макарам на іх трохі падзейнічала і матузоўцы маўчалі і слухалі.

— Хіба гэта нам адным, калгасьнікам, трэба!? Наша жывёла не бадзяецца, перш-на-перш, бяз догляду і дужэйшая яна, так што ваўкі шкодзяць вам больш. Але, бачучы, што вы нічога бяз нас ня зробіце, дык мы ўзяліся, зрабілі падвыўку, а ад вас просім дапамогі, просім людзей, крычаноў, ды загоншчыкаў. Вось што!..

— Адкуль ты такі ўзяўся, разумны!—крыкнуў праз галовы іншых Драздовіч Агей, абкладзены індывідуальным падаткам і пазбаўлены голасу. (Ня гледзячы на гэта, ён крычаў больш за ўсіх). Ён усім сваім нутрэўем, як клясавы вораг, ненавідзеў калгасьнікаў; і, дзе толькі можна было, імкнуўся, як гэта кажуць калгасьнікі, „укусіць“, уставіць палку ў калясьніцу, каб навокал калгасьнікаў не арганізавалася бедната і серадня́кі вёскі Матузоўкі.

— Не, хлопцы! Васіль праўду кажа!—выступіў за Васіля босы і худаваты чалавек невялікага росту.—А кулаку Агею

Драздовічу, што?! У яго, брат, ваўкі нічога ня возьмуць, бо коні добрыя, дужыя і канюха ён наняў, двор таксама шчыльны. Што яму, нашай жывёлы шкада, ці што? Скажам, у мяне: адна якаянебудзь захавалася здыхляціна і калі і тую... дык тады што я буду рабіць!? Падыхаць толькі. Дык вось,—сказаў босы і худы чалавек, невялікага росту, —мы давайце, лепш, без вялікіх разгавораў, дапаможам Васілю з Амельлянам, яго таварышом, зьнішчыць воўчую навалу.

Сход сялян загудзеў, замахаў галавамі. Чуліся галасы і за і супроць, але першых больш, чым другіх. Урэшце, дзьве трэці матузоўцаў перайшлі на бок паляўнічых-калгасьнікаў і толькі падкулачнікі пацягнулі за Драздовічам Агеем.

— От гэта, дык добра, —ускрыкнуў Васіль.—Ваўкі на нас у наступ разам з кулакамі Драздовічамі, а мы на іх наступам разам з беднатой і серадняком. От гэта, дык добра. А зараз слухайце. У дзевяць гадзін усе валіцеся да лесу, а там я вас навяду з Амельлянам. Узбройвайцеся, хто чым можа—там абмяркуем. Калгас з свайго боку выставіць сваіх усіх паляўнічых стралкоў.

Грамада загудзела, захісталіся галовы, мужчыны пайшлі па вуліцах, перагаварваючыся між сабой.

— Трыццаць стралкоў, - падлічыў Амельлян.

— Трохі малавата, але нічога не дабавіш,—адказаў Васіль, пачынаючы раздаваць нумары стралкам.—Перш-на-перш, хлопцы—абсолютная цышыня! ня курыць, ня кашляць, не гаварыць.

— А чыхаць можна?—запытаўся нехта з натоўпу.

Васіль усьмяхнуўся.

— Можна, але ня больш аднаго разу,—адказаў ён.—Але жарты на бок; як паб'ём ваўкоў, тады будзем і жартаваць, і курыць і чыхаць, а зараз трэба набрацца цярпеньня ды ўменьня. Слухайце, хлопцы: ідзеце за Амельлянам адзін за адным! ня будзеце слухацца, нічога ня выйдзе. Кожны стралок павінен замаскавацца і не перабягаць з месца на месца на нумарох. Як толькі крычаны і загоншчыкі дадуць голас, стралок павінен быць падрыхтаваны да стрэлу. Ітак, хлопцы, за справу!

Усе ўдзельнікі аблавы падняліся і пайшлі. Скрозь густую ліству ледзь прабіваліся праменьні сонца. Над верхавіньнем лесу вісеў летні зной, тут унізе веяла прахладай і сьвежасьцю. Ветру ня было, і гонкія бярозкі ледзь-ледзь, павольна, калыхаліся ў блакітным прасторы. Толькі птушкі розных відаў і масьцей званочкамі пераклікаліся між сабой. У верхавіньні лесу, кустоў дзікай чаромухі ляніва гудзелі шмялі і пчолы. З цьвятка на цьвяток пераляталі матылі. Паляўнічыя адзін за адным сьцежкай ішлі між дрэў, стукаючы нагамі аб карэньне. На душы было радасна і прыемна.

---

Праз поўгадзіны пасьля таго, як былі расстаўлены стралкі, па лесе панёсься крык загоншчыкаў.

— „Ту... а-а-а... а-ту... ту-уу!..“—неслася па лесе. То з левага, то з правага флянгу чуліся адзінокія стрэлы. Гэта Васіль на-



рочна даў па аднаму чалавеку са стрэльбамі на флянгу, каб папярэдзіць прарыў ваўкоў. Стралкі ціха, прытуліўшыся за кустамі і густымі елкамі, чакалі зьвяроў, і, здавалася, прытуліўся лес. Тут было ціха; загон пачынаўся з другога боку. Раптам паветра закалыхалася ад першага стрэла на нумарох і зноў зусім сьціхла. Потым яшчэ два стрэлы ў тым-жа месцы. Загоншчыкі набліжаліся з крыкамі і стрэламі да лініі стралкоў. Вось яшчэ некалькі разоў бухнула нейчая дубальтоўка на нумарох, потым і яшчэ; стрэлы зьмяшаліся з чалавечымі галасамі і ўвесь гэты гам быў падобен на нейкую „вакханалію“.

Сотнямі адгалоскаў на ўсе лады і тоны пералівалася рэха па верхавінах лесу і кацілася некуды далёка-далёка, а сэрца паляўнічага дрыжэла ў грудзёх:—„Эх, хоць-бы на мяне адзін выйшаў!“—І вока паляўнічага так і сьцелецца па прыцэльнай плянцы ў новай дубальтоўцы.

Вось на нумарох паказаліся першыя загоншчыкі. Потны і чырвоны вышаў з-за куста іх камандзір Васіль. З правага флянгу са сваей камандай паказаўся Амельлян. Абодвы веселы і радасны. Яны адчуваюць добрыя вынікі аблавы. А здавалася, чаго ім клапаціцца?.. Больш за ўсё аб гэтым павінны думаць аднаасобнікі—матузоўцы. З аднаго боку—паляўнічы пал, а з другога—нянавісьць да шэрых зьвяроў штурхнулі іх да аблавы. Сталі лічыць здабычу.

— Колькі? — не пачуўшы запытаўся Васіль.

— Семь.

— Нічога сабе.

— Старых ці маладых?

— Чатыры маладых, двое старых і адзін пераярак,—адказаў Амельлян.

Паляўнічыя абкружылі здабычу. Васіль зьвярнуўся да іх.

— Ну, як—задаволены вы? Ёсьць карысьць ад нашай аблавы? Гатовы вы надалей ісьці за намі, за калгасьнікамі, ці будзеце цягнуць хто куды? Арганізавалі-б вы бяз нас аблавы?

— Хопіць аб гэтым!—абідзеўшыся сказаў той самы маленькі босы чалавек, што выступаў супроць кулака Драздовіча на сходзе. — Аб гэтым гаварыць зараз няма чаго. Хто ня ішоў за вамі, за калгасьнікамі—таго тут няма, той пашоў за Драздовічам, а пакуль нечага час траціць. Трэба браць здабычу ды махаць дахаты...

---

Потнымі, чырвонымі і стомленымі вярталіся паляўнічыя ў калгас. На чале гэтай працэсіі ішло некалькі чалавек, гнучыся пад цяжкімі тушамі ваўкоў. Першым з іх быў Васіль і Амельлян, якія несьлі вялікага зьвера. Было ўжо каля поўдня. Сонца ў поўным зеніце стаяла над галавой і несьцярпіма паліла шыі, твар і рукі паляўнічых. Як толькі працэсія надыйшла да калгасу, лянiва і злосна забрахалі сабакі, пачуўшы пах ваўкоў і, падціснуўшы хвасты між ног, сталі хавацца ў двары. Дзеці сустракалі паляўнічых з крыкам. Васіль зьвярнуўся да хлопцаў:

— Глядзіце-ж, каб не адна туша ня была выкінута вон. Здымем скуры, тушы на воз ды зьвязем у салатопку. Карысьць будзе і ад гэтага.

— А як-жа? Вядома, так і зробім!—упэўнена адказалі некалькі галасоў.—Так і зробім...

**Мік. Цэлеш.**

---

## Увага!

**Чытайце ў наступных нумарох нарысы праф. А. У. Фядзюшына „Шляхі разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі Рэчыцкага палесься“.**

# Па таварыствах і ячэйках

## Выгнаць з шэрагаў паляўнічых клясавага ворага

### Ляднянскім т-вам паляўнічых кіруюць кулакі і іх агенты

У Ляднянскім т-ве паляўнічых на сёнешні дзень налічваецца каля 50 паляўнічых. У гэтым ліку толькі 5 проц. калгасьнікаў. А астатнія—серадлякі і заможныя. Калгасьнікаў раней было каля 20 проц., але ў сувязі з тым, што клясава-варожыя элемэнты заселі ў кіраўніцтве т-ва паляўнічых, калгасьнікаў адштурхнулі.

Вось, напрыклад, Мухін Аксен, які ў 1929 годзе быў абкладзен індывідуальным падаткам, застаўся ў саюзе паляўнічых. Апрача таго, як зараз высьветлілася, Мухін капіў разьменную манету.

Саюз паляўнічых абараняе клясавых ворагаў і зачыняе дзьверы калгасьнікам. Ёсьць выпадкі, калі калгасьнікаў, якія жадаюць быць у саюзе паляўнічых, прымушалі выходзіць з калгасу.

РСІ, Белкохотсаюзу неабходна зараз-жа праверыць работу Ляднянскага т-ва паляўнічых. Неабходна зараз-жа пачаць сапраўдную клясавую чыстку т-ва, выкінуць клясавых ворагаў—кулакоў і шкоднікаў і пачаць усіленную працу, па ўцягненьню ў т-ва калгасьнікаў, беднякоў і серадлякоў. Разгарнуць шырока работу па ўступленьні паляўнічых у калгасы.

Калгасьнікі, беднякі і серадлякі, пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі—дамо рашучы адпор па клясаваму ворагу, які пралез у шэрагі паляўнічых.

## Зусім кепска

Наша Чабатовіцкая паляўнічая ячэйка, Уваравіцкага раёну, працуе дрэнна. Драпежнікі не адстрэльваюцца і аб гэтым за ўвесь час існаваньня ячэйкі, нават, і гутаркі ня было.

Такім чынам, у той час, калі як раз бадзячыя сабакі шмат шкодзяць, аб гэтым ніхто ня цікавіўся.—Цяпер няма часу. Хай узімку адказваюць кіраўнікі ячэйкі.—Але таварышы забываюць тое, што ўзімку ня будзе за чым паляўнічыць (хіба за сабакамі!), калі паляўнічымі не ахоўваліся свае ўгодзьдзі, дзе плодзіцца дзічына.

**Карлоўскі.**

## Аб'езчык абараняе драпежнікаў

Мялешкаўская ячэйка, Слуцкага раёну, у ліку 6 чалавек змагалася за адстрэл драпежнікаў, бадзячых сабак і інш. Здавалася б, што гэтым павінна быць зацікаўлена і лясная варта. Але ня тут-та было.

Аб'езчык леспрамгасу Урэцкага вучастку т. Сеўрук Адам распладзіў столькі сабак усіх парод, якія бадзяюцца па паляўнічых угодзьдзях, што ў брыгады чуць хапіла набоеў адстраляць іх. Між іншым, брыгада запрасіла Сеўрука, як паляўнічага, удзельнічаць у адстрэле сабак, але той катэгарычна адмовіўся, не жадаючы, па яго словах, займацца „такой брыдкай справай, як адстрэл сабак“. Ня хоча, бачыце, аўтарытэт свой страціць.

Слуцкае т-ва паляўнічых, у якім састаіць Сеўрук членам, павінна ўзьдзейнічаць на яго.

**Малевіч.**

## Паляўнічыя арганізуюць чырвоныя абозы

Крыніцкая ячэйка Юравіцкага раёну, першая адгукнулася на адозву раённага т-ва аб пабудове трусятніка т-ва і засеву зямлі для трусоў. Крыніцкая ячэйка арганізавала чырвоны абоз для падвозкі будаўнічых матар'ялаў для трусятніка і запашкі вучастку зямлі. Наклалі вазы дошак, адвезьлі іх на месца пабудовы трусятніка, а потым з плугамі і баронамі накіраваліся ў поле для сяўбы.

Агульнымі сіламі паляўнічых пабудаван трусятнік і трусы будуць забясьпечаны кармамі і памяшканьнем на зіму.

Усё гэта сьведчыць за тое, што паляўнічыя не адстаюць ад жыцьця і будуюць сваю гаспадарку калектыўнымі сіламі.

## Ударнымі брыгадамі зьнішчаць ваўкоў

У раёне Дуброўскага с. с., Рэчыцкага р. шмат ваўкоў. Па хадайніцтву Рэчыцкага т-ва паляўнічых, тры паляўнічых Дубровенскай ячэйкі Рэчыцкім РВК былі зволены на зімні пэрыяд у мінулую зіму ад працпавіннасьці і іншых грамадзкіх абавязкаў. За зіму ў Дубровенскім с. с. гэтымі паляўнічымі было зьнішчана 10 ваўкоў, з якіх 5 самак. Калі ўлічыць тую шкоду, якую прыносяць ваўкі насельніцтву, дык паляўнічыя гэтым самым прынесьлі вялікую карысьць.

Рэчыцкаму т-ву паляўнічых, па колькі і зараз там наглядаецца вялікая колькасьць ваўкоў, трэба было-б і ўлетку арганізаваць такую самую брыгаду па разбурэньні воўчых гнёздаў. Але гэтага ня зроблена. Гнёздаў з маладымі ваўкамі ў раёне шмат, і ўвосень ваўкі сябе пакажуць.

**Радчук Адам.**

## Зьнішчылі драпежнікаў, і зайцоў наглядаецца шмат

За апошнія часы паляўнічыя Рэчыцкага т-ва зьнішчылі ўсіх бадзячых сабак. У гэтым годзе наглядаецца вельмі шмат зайцоў. Гэта гаворыць за тое, што бадзячыя сабакі зьнішчалі больш прыплоду зайцоў, чым самі паляўнічыя адстрэльвалі за ўвесь год. Неабходна адстраляць сабак і ў іншых раёнах. **Радчук Адам.**

## Бальшавіцкімі тэмпамі

Паляўнічыя Глухаўскай ячэйкі Веткаўскага раёну паказалі бальшавіцкія тэмпы ў выкананьні плянавых нарыхтовак. Ячэйка, у якой налічваецца 13 паляўнічых, плян пушнанарыхтовак зімняга сэзона выканала на 105 проц., па нарыхтоўцы крата на 176 проц. Заданьне было 200 шт. крата, нарыхтавана 365 шт.; пуха і пяра нарыхтавана 95 проц.

Чаму-ж гэта ячэйка мае такія дасягненьні, у той час, калі шмат іншых плятуцца ў хвасьце і ссылаюцца на „аб'ектыўныя" ўмовы. Таму, што паляўнічыя Глухаўскай ячэйкі, атрымаўшы з раёну заданьне па нарыхтоўцы, зараз-жа склікалі агульны сход, разьмеркавалі заданьне па здольнасьцях кожнага сябра. Ня было выпадкаў, каб гэта ячэйка ня выканала сваіх плянаў.

Пры ячэйцы арганізаваны брыгады моладзі па нарыхтоўцы крата. Старшыня ячэйкі 21 чэрвеня на агульным сходзе паляўнічых раёну рапартаваў, што ячэйка выканала пляны па ўсіх відах нарыхтовак, а таксама бярэ на сябе абавязак выканаць плян па лекавых травах.

За добрую працу старшыня ячэйкі прэміраван стрэльбай, а члены ячэйкі—ботамі.

Другія ячэйкі павінны ўзяць прыклад з Глухаўскай ячэйкі.

**Бабчонак.**

---

**Сельячэйкі паляўнічых! Арганізуйце ўдарныя брыгады, групы і арцелі паляўнічых, шырэй разгортвайце соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў барацьбе за выкананьне заданьня нарыхтовак дзічыны.**

## Культпрацы на барацьбу з браканьерствам

Культпраца па Белкохотсыстэме пастаўлена зусім дрэнна, увыніку паляўнічыя часта ня ўлічваюць той карысьці, якую прыносіць паляўнічая гаспадарка, і драпежніцкі адносяцца да зьвяроў.

Так, напрыклад, на р. Алі, Парыцкага р., плодзіцца выдра. Парыцкае т-ва ня прыняла ніякіх мер для аховы зараз рэдкіх зьвяроў, не даручыла ячэйкам ахоўваць іх. Паляўнічыя Жлобінскага раёну часта паляўнічаюць на выдру. Па зьвестках там забіта 2 выдры.

Паляўнічы в. Караткевічы, Жлобінскага р., Повар Сяргей забіў выдру. Дзякуючы ўмеламу падыходу старшыні Жлобінскага т-ва паляўнічых, браканьер затрыман з выдрай і перададзен у міліцыю. Другая выдра, па чутках, забіта паляўнічымі Парыцкага т-ва. Некаторыя паляўнічыя б'юць і дзікіх коз. Белкохотсаюзу і усім т-вам паляўнічых неабходна распачаць шырокую культасьветную працу сярод масы паляўнічых.

**Асьценка.**

## Рэчыцкае таварыства павінна дапамагчы Гажко

Паляўнічыя выкінулі лёзунг—„Да канца пяцігодкі ніводнага ваўка ў лясох Беларусі". Што гэты лёзунг жыцьцёвы, сьведчыць тое, што на яго адгукнуліся паляўнічыя масы глухіх раёнаў, дзе плодзяцца ваўкі.

Так, паляўнічы Рэчыцкага т-ва т. Гажко Рыгор прыслаў у рэдакцыю апісаньне, як ім самім бяз усякай дапамогі былі высачаны і разбураны два гнязды ваўкоў. Маладыя ваўчаняты ў ліку 10 шт. зьнішчаны. На жаль, гэта апісаньне вельмі вялікае і зьмясьціць яго на старонках часопісі немагчыма за недахватам месца.

Але відаць, што з т. Гажко можа быць вельмі добры, вопытны паляўнічы сьледапыт. Праз густую лазу, па высокай густой траве, па вадзе і праз лом сьледам за ваўком, трацячы яго і зноў находзячы, ён прабіраўся да гнязда, знайшоў яго і забраў малых. Такім чынам т. Гажко зьнішчаны два вывадкі маладых ваўчанят.

Тав. Гажко, па яго словах, бядняк, вельмі занят працай і ня можа ўдзяляць часу паляваньню за ваўкамі. Рэчыцкаму т-ву паляўнічых трэба дапамагчы т. Гажко. Мы павінны ўтварыць свае кадры—вопытных паляўнічых ваўчатнікаў, ведаючых гэтую справу. Іншыя паляўнічыя павінны ўзяць прыклад з т. Гажко і ажыцьцявіць лёзунг—„Да канца пяцігодкі ніводнага ваўка ў лясох Беларусі".

## Мацаваць штодзенна кіраўніцтва ячэйкамі

Слаўнянская ячэйка паляўнічых, Талачынскага раёну, аб'ядннае 20 паляўнічых. Паляўнічых, як бачыце, даволі шмат. Работа наладжваецца. Ячэйка амаль штодзень утварае выхады ў поле па зьнішчэньні драпежнікаў, арганізаваны брыгады. Зьнішчаны 90 бадзячых сабак і шмат іншых палявых драпежнікаў. Ячэйкай атрымана прэмія: 4 пары бацінак, 2 пары галёш, 12 мэтраў мануфактуты, 18 пачак махоркі, 5 катушак нітак і яшчэ грашмі. Наладжваецца культасьветная праца, што значна дапаможа ў працы.

Можна было-б і больш зрабіць, каб было кіраўніцтва ад раёну. Слабая сувязь ячэйкі з райтаварыствам дрэнна адбіваецца на працы.

**Паляўнічы.**

## Новадворацкая ячэйка Слуцкага р. перавыканала плян загатоўкі крата

Іншыя ячэйкі нашага раёну працуюць кепска, сьпяць—як гэта кажуць. Але наша Новадворацкая ячэйка, у якой толькі 4 паляўнічых, узялася за працу як трэба і паказала найлепшыя тэмпы.

На 1 чэрвеня здадзена 90 кратоў. Усяго ячэйкай здабыта на 100 руб. пушніны і на 90 руб. сыравіны. Усе заданьні, дадзеныя ячэйцы, выканаты і перавыканаты.

Бярэце прыклад з новадворцаў.

**Густарнік Хвёдар.**

# Рыбаводзтва і рыбалоўства

## Лоў рыбы ў ліпені—верасьні

Уціхла вясеньняя рыбалоўная гарачка. Наступіла лета. У чэрвені яшчэ рыбаловы ловяць рыбу па-вясеньняму, але мала па-малу клёў заціхае і пасадку пачне штораз аб'ядаць дробязь: келба, яршы і г. д. Рэкі мялеюць, зарастаюць травой... зьяўляюцца камяністыя отмелі. Па грэбню іх гудзіць, шпарка нясецца вада.

У другіх мясцох зьяўляецца шмат вялізарных каменьняў, якія тырчаць з вады. Вада імчыцца між каменьня.

Рыба перастае кляваць на тых мясцох, дзе яна лавілася ўвесну на вудачкі, шнуры і іншыя снасьці. Перад рыбаловам паўстае пытаньне—як быць надалей? І, не знаходзячы адказу, думаючы, што рака абяднела рыбай, пакідае лавіць рыбу да будучага году.

А між тым, ня так!

Можна зрабіць снасьць, вельмі падобную на перамёт ці подпуск. Тонкую бічоўку даўжынёй мэтраў 30 трэба запоўніць на адлегласьці паўтары мэтры адзін ад аднаго такімі-ж павадкамі даўжынёй каля паўтары мэтры кожны з якарам і карабінчыкам.

Гэтую снасьць можна зараз спускаць з плытоў ці з лодкі, раней начапіўшы жыўцоў. Пры чым на лоўлі на ціхім цячэньні басок трэба прадзяваць жыўцу пад жаберную крышку так, каб якар тырчэў з роту. Пры лоўлі на шпаркім цячэньні лепш за ўсё мець на баску 2 якары так, каб можа было-б укалоць жыўца у сьпінку; адзін у галаву, другі каля хваста.

Гэты від перамёта можна перацягваць неабавязкова праз усю раку, а з берага на якую-небудзь выспачку, віднеючую з вады палку, або, яшчэ лепш, на звалenae ў ваду дрэва. У мясцох, зарослых травой, добра паставіць на мяжы травы. У мясцох, дзе дно ўсеяна вялізарнымі, віднеючымі з вады каменьнямі, яна становіцца ў найбольш густа ўсеяных мясцох ламанымі лініямі ад камня да камня. Насадка тут павінна быць розных узораў: плотка, уюн, жабка, бертынь і г. д. Уначы ў такіх мясцох добра бярэцца мянтуз. Можна чакаць і галаўня. На ўсіх мясцох нязьменнай дадатковай прыладай гэтай снасьці зьяўляецца званочак.

Зараз аб другім. Рыбаловам вядома, што на камяністых адмелях у самым віры любяць быць буйныя галаўні. Калі ўзяць некалькі падпускаў, кручкоў па 15—20 кожны і замацаваць адзін канец кожнага подпуску на бераве, другі з прывязаным камнем занесьці ў ваду падалей так, каб подпускі ляжалі на дне поперак рэчкі, дык рыбалоў будзе забясьпечан клёвам на ўсю ноч. Удзень ня клюе. Насадка—чорны хлеб, жабка і ўюн.

Вядома, пры гэтай лоўлі прыходзіцца мерзнуць уначы і пад час у халоднай вадзе, але для заядлага рыбалова гэта сапраўдныя пусьцякі пры добрым клёве.

**Н. Крас.**

## Хваробы карпаў*)

*(Працяг)*

### Ж а б р ы

*А. Хваравітыя зьмены відаць без мікраскапічнага досьледа*

| | | |
|---|---|---|
| У малькоў жабры патоўшчаны; а) у жабрах дробныя чарвякі | Dactylogyrus | 14 |
| Што маса ў вузялках распадаецца ў масу спор | Myxobolus | 13 |
| Жабры пакрыты плесьневымі грыбкамі | Сапролечны, 6 (ад розных захварэньняў) | |

¹) Гл. „Паляўнічы Беларусі" за 1931 г. № № 1 і 4.

в) дробных чарвей у жабрах няма . . . Патаўшчэньне жабернага эпітэлія[1]) . . 20

На жабрах белыя вузлы:

Пад мікраскопам відаць, што маса ў вузялках варушыцца . . . Ichtyophthirius . . . 11

Жабры бледна афарбаваны . . . . . . Анемія, 46 (зьвярнуць увагу на паразітаў у страўніку)

*В. Без дапасаваньня мікраскопа хваравітыя зьмены ня відаць.*

Неабходна дасьледваць пад мікраскопам павярхоўны пакроў жабернага апаратаў. Бяручы пробу трэба імкнуцца захапіць эпітэлі і частку жабернай крыві.

Пад мікраскопам відаць як варушацца паразыты.

а) бічаносцы, хутка варушацца . . . . Costia 8, Trypanoplasma 44

в) рэсьнічныя інфузорыі, варушацца слаба . . . . . Cyclochaete 10, Chilodon . . . . . . 9

с) чэрві . . . . . Sanguinicola . . . 45

Пад мікраскопам відаць нярухомыя паразыты:

Вялізарныя адзіночныя клеткі эліпцічаскай формы . . . . . Mucophilus . . . . 4

Невялікія акруглыя клеткі . . . . . Ichthyochytrium . . 3

*С. Дасьледваньне мёртвай рыбы: унутранасьці.*

Неабходныя ўмовы, каб узятыя для дасьледваньня карпы былі абсалютна сьвежымі. Бактэрыяльныя культуры для дасьледваньня лепш за ўсё браць з почак або жоўчнага пухіра, а таксама і з сэрца.

**Печань.**

Афарбована ў зялёны колер . . . . . (Ikterus)

Увясну . . . . . Зьявішча зусім нармальнае. Тлумачыцца зімнім галаданьнем

У другія часы году . . Рыбы галадаюць

Пэчань абкружана больш ці менш шырокай белаватай каймой . . Ажырэньне . . . 36

У печані паразыты:

Споры або споравыя арганізмы . . . . . Myxobolus . . . . 13

Цысты, большай часткай з плямамі пігмэнта . Sanguinicola . . . 45

**Жоўчны пухір**

Вельмі малы . . . . Рыба вельмі добра харчуецца

Вялікі, цьвёрды . . . Рыба знаходзіцца ў пэрыядзе галаданьня

**Страўнік.**

Прасьвечваецца чырвоная пляма ў страўніку, язвы ня відаць . . Успаленьне страўніка 42

Прасьвечвацца чырвоная пляма страўніка, відаць язвы . . . . . . Чырвоная чума . . 64

У страўніку відаць паразіты без мікраскапічнага дасьледваньня:

а) лентачныя чэрві з цьвікавобразнай галоўкай . . . . . . Caryophyllaeus . . 40

б) круглыя чэрві . . Аскарыды . . . . 41

в) невялікія сасучыя чэрві . . . . . Alocreadium . . . 39

Пры разгляданьні ў мікраскоп можна бачыць паразытаў:

Паразыты сядзяць у белых, вузлавобразных патоўшчэньнях у сьценках страўніка . . . Eimeria subepithelialis 38

б) паразыты распаўсюджваны па ўсяму эпітэлію страўніка . Eimeria cyprini . . 37

У страўнікавай сьлізі відаць жаўтаватыя цельцы . . . . . Інфэкцыя, унесеная паразытам Eimimeria 37

**Сэрца**

У мускулатуры пігмэнтаваныя цысты . . Sanguinicola . . . 45

Цысты не пігмэнтаваны Цысты іншых чарвей 43

**Кроў**

Малакроўе . . . . Зьвярнуць увагу на кішэчнік паразытаў . 46

У крыві паразыты:

Бічаносцы . . . . . Трапаноплазмы . . 44

Чэрві . . . . . . Sanguinicola . . . 45

**Селязёнка**

Відаць жаўтаватыя, дыгеніратуючыя клеткі (жоўтыя цельцы) . . Пасьля перанесенай хваробы . . . . . 48

Відаць споры . . . Розныя Mixoboliden 48

[1]) Эпітэлі—ткань, высьцілаючая розныя органы жывёлы знадворку.

**Почкі.**

Пры дасьледваньні без мікраскопа:

| | |
|---|---|
| відаць шэры налёт | Бактэрыяльная інфэкцыя . . . . . 65 |
| Вельмі павялічаны | Неабходна дасьледваць на прысутнасьць паразытаў . . . . 49 |
| Бледна-чырвонага колеру з белымі плямамі. | Nephromyces . . . 50 |

Пры мікраскапічным дасьледваньні:

у канальцах:

| | |
|---|---|
| У эпітэліі паразыты з прасьцейшых | Гоферэлус . . . . 52 |
| У канальцах ніцевобразныя грыбкі | Nephromyces . . . 50 |

У тканях:

| | |
|---|---|
| жоўтыя цельцы | Пасьля перанесенай хваробы . . . . . 48 |
| спораносцы | Розныя Myxoboliden 51 |
| бічаносцы | Trypanoplasma . . . 44 |
| чэрві | Sanguinicola . . . 45 |

**Плавальны пухір.**

| | |
|---|---|
| Сьценкі пухіра ўспалены і патоўшчаны | Бактэрыяльная інфэкцыя . . . . 53, 63 |
| У сьценках пухіра відаць белыя плямы | Myxoboliden . . . 53 |

**Палавыя органы.**

| | |
|---|---|
| Яечнікі з напоўненым вадкасьцю пухіркамі | Цыста яечніка . . 55 |
| Яечнікі разжыжаны | Разжыжэньне яечнікаў 57 |
| Полавыя органы часткова мужчынскія, часткова жаночыя | Гермафродытызм . . 56 |

**Мозг.**

| | |
|---|---|
| Паразыты з прасьцейшых у сярэднім мозгу. | Zentospora encephalica 59 |
| Бічаносцы ў вадкай масе мазга | Trypanoplasma . . 44 |

**Вочы.**

| | |
|---|---|
| Вочы выпуплены | Exophtalmus . . . 61 |

В. Е.

(Працяг у наступным нумары)

# КНІГАСЬПІС

**Г. Друккер і А. Клыкаў. „Рыба и рыбные товары“. Выд. 2-ое выпраўл. і дапоўненае. М. Л. „Госторгиздат“, 1930. Стар. 260 з 60 мал. у тэксьце. Цана 3 р. 15 кап.**

Вышла другім выданьнем, заваяваўшая сабе вялікую папулярнасьць, кніга Друккера і Клычкова аб рыбных таварах. Гэта выданьне асабліва карысна, а пакуль і зусім незамяніма для тых работнікаў рыбнай гаспадаркі, якія маюць справу з рыбай, перш за ўсе як з таварам. Вельмі карысна гэта кніга таксама і наогул для ўсіх, хто мае тыя ці іншыя адносіны да рыбнай гаспадаркі. На жаль і ў другім выданьні ёсьць рад дэфэктаў. Падрабязны разбор кнігі з гэтага боку зроблены ў № 1—2 „Рыбного хозяйства“ (б. „Бюллетень рыбного хозяйства“) за 1931 год на 12 старонках дробнага друку і, таму можна рэкамэндаваць усім, хто карыстаецца кнігай Друккера і Клыкова, азнаёміцца з гэтым цэнным і носячым зусім аб'ектыўны характар разборам.

В. Е.

**С. І. Агнёў. „Звери Восточной Европы и Северной Азии“. Том II. „Хищные“ М.-Л. Дзярж. выдавецтва 1931. Стар. VIII+776, з мал. у тэксьце і на асобных лістох. Цана ў пераплёце 14 р. Тыраж 2.000 экз.**

Вышаў другі том капітальнай працы пра зьвяроў усходняй Эўропы і паўночнай Азіі, пачатай С. І. Агнёвым*). Гэты том, зьяўляючыся найбольш цінавым для паляўнічых, уключае ў сябе атрад драпежных, у прыватнасьці сямейства: мядзьведзяў, сабакападобных, куды ўваходзяць воўк, шакал, песец, ліс і ўсырыйскі енотападобны сабака, шэн, куніцападобных (бареукі, мёдаеды, выдры, куніцы, тхоры, каломкі і норка) Пры складаньні свайй працы аўтар выкарыстаў вялізныя матар'ялы, у выглядзе калекцый, якія хаваюцца ў заолёгічным музэі Акадэміі навук, і ў другіх музэях, а таксама прыватныя калекцыі, у тым ліку сваю ўласную. Па свайму аб'ёму і паўнаце даваемых вестак гэтая праца зьяўляецца першай на расійскай мове і трэба пажадаць, каб аўтар з посьпехам і ў магчыма кароткі тэрмін давёў сваё пачынаньне да канца.

Пабудова работы Агнёва наступная. У пачатку дадзена вызначальная табліца сямейства атраду наземных драпежнікаў, якія водзяцца ў межах б. Расіі. Потым для кожнага сямейства дадзена вызначальная табліца родаў, відаў і падвідаў. Кожны від падрабязна апісваецца як з боку анатамічнай пабудовы, так з морфолёгічнага (афарбоўка і інш.).

*) Першы том, які вышаў у 1930 г., зьмяшчае апісаньне лятучых і паядаючых казюрак, мышэй.

Прыводзіцца геаграфічнае распаўсюджаньне віда і даецца кароткае апісаньне жыцьця жывёлы. Калі гутарка ідзе пра зьвера, маючага паляўніча-прамысловае значэньне, аўтар закранае і спэцыяльныя прамысловыя пытаньні.

Пры апісаньні асобных жывёлін аўтарам выкарыстана вялізная колькасьць літаратурных крыніц, з якіх выбрана ўсё самае каштоўнае і істотнае. У кароткай рэцэнзіі немагчыма ахапіць увесь багаты зьмест працы Агнёва. Кніга выдана з набоку зусім здавальняючай. Ёсьць рад добра выкананых малюнкаў, у тым ліку, фатаграфій аўтара. Вельмі шкада, што па чыста тэхнічных прычынах не ўдалося ілюстраваць гэтую каштоўную кнігу большай колькасьцю малюнкаў, асабліва малюнкамі, спэцыяльна выкананымі для гэтага выданьня, вядомым мастаком-анімалістым Цатагіным. Будзем з нецярплівасьцю чакаць далейшых тамоў працы С. І. Агнёва.

Е.

**А. Я. Недашывін. „Посол рыбы и приготовление побочных продуктов рыбного промысла". 2-е выданьне. М. Л. „Сельколхозгиз", 1931. Стар. 64, з 29 малюнкамі ў тэксьце. Цана 15 кап. Тыраж 25.100 экз.**

Ня гледзячы на тое, што рыбная гаспадарка за апошні час прыцягвае да сябе вялікую ўвагу з боку партыйных, дзяржаўных і грамадзкіх арганізацый, пытаньне з папулярызацыяй асноў рыбнай гаспадаркі абстаіць у нас усё яшчэ вельмі нездавальняюча. Асабліва гэта відаць у адносінах да апрацоўваючага промыслу. Радавы рыбак-калгасьнік ці рабочы па апрацоўцы рыбы ня знойдуць для сябе падыходзячай кніжкі, у якой яны маглі-б знайсьці адказы на цікавячыя іх пытаньні.

Толькі што вышаўшая другім выданьнем кніжка Недашывіна (першае выданьне яе ўжо даўно разышлося) да некаторай ступені запаўняе гэты прабел. Увесь матар'ял пабудаваны на вопыце аднаго з буйнейшых нашых прамысловых раёнаў, а імена Волска-Каспійскага.

Аўтар падрабязна апісвае памяшканьні, якія служаць для апрацоўкі рыбы, разьдзелкі і пасолкі рыбы, уборкі рыбы, асобна спыняецца на разьдзелцы, пасолцы і ўборцы сома і „красной" рыбы, потым дае апісаньне спосабаў прыгатаваньня пабочных прадуктаў рыбнага промыслу. У гэтым разьдзеле гутарка ідзе аб прадуктах, атрымліваемых з часьціковай рыбы: прыгатаваньне ікры, клею і тлустасьці і з „красной" рыбы: прыгатаваньне ікры, вязігі і клею. Асобная частка прысьвечана хатнім спосабам прыгатаваньня з карысьцю рыбных прадуктаў. Новае выданьне гэтай карыснай кніжкі мае некаторыя рэдакцыйныя заўвагі, зробленыя І. Ф. Праўдзіным. Напісана кніжка даступным і зразумелым языком і цана яе невялікая, што дае ёй магчымасьць самага шырокага распаўсюджаньня.

В. Е.

**Проф. І. Арнольд. „Основы прудового хозяйства". З 68 мал. М.-Л. „Сельколхозгиз" 1931. Стар. 125. Цана 65 к.**

Ставочная гаспадарка ў шмат якіх раёнах нашага Саюзу можа адыграць значную ролю ў справе зьмякчэньня харчовага крызісу. Таму колгасам трэба зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на арганізацыю, дзе гэта толькі магчыма, правільнай рыбаводнай гаспадаркі. Амаль усякі стаў і ручэй могуць быць выкарыстаны для гэтай мэты,—патрэбны толькі ўмелы падыход да справы. Разьбіраемая тут кніга, складзеная вядомым знаўцам рыбаводзтва, і мае сваёй мэтаю прыйсьці на дапамогу калгасам у іх імкненьнях да аднаўленьня запушчаных і стварэньня новых ставочных гаспадарак. Прывядзем каротка зьмест гэтай кнігі. У першай частцы даецца апісаньне пабудоў рыбаводных ставоў, паказваецца, дзе і пры якіх умовах можна і трэба закладаць рыбаводныя ставы, у які час году трэба ўтвараць земляныя работы, якімі асаблівасьцямі павінны ўладаць ставы. Другая частка датычыцца догляду за ставамі. Як утвараецца ачыстка і асушка ставоў, іх вапнаваньне і ўгнаеньне, якім чынам зьнішчаюцца ў прудох шкодныя для мэтаў рыбаводзтва расьліны і як ахоўваюцца ставы і як яны выкарыстоўваюцца для пабочных мэт. У трэцяй частцы падрабязна разглядаецца разьвядзеньне і кармленьне рыбы ў ставох. Якую рыбу сажаць у ставы. Асобна аўтар спыняецца па карпах, ліне, карасі і фарэлі. Апісваюцца ўмовы, пры якіх выгодна разьвядзеньне той ці другой пароды рыб, жыцьцё рыб у ставох, іх рост і штучнае кармленьне. Даюцца практычныя паказаньні па перавозцы жывой рыбы і ўтрыманьню яе ў садках і зімавальніках. Напісана кніжка добрым, даступным нават і для малапісьменнага чытача, языком і мае шмат малюнкаў, якія дапамагаюць лёгка ўсвоіць напісанае.

В. Е.

Рэдактар—рэдкалегія: Домарацкі, Цэлеш, Волдынь, проф. Федзюшын. Тамашэўскі,

## Усім т-вам паляўнічых

Згодна паведамленьня, „Всекохотсоюза“ ад 3/VII—31 г. за № 32143 з сьпіскаў судзьдзей Прамыслова-Паляўнічых сабак выкрэсьлены як клясавы-чужды элемэнт наступныя асобы: М. Аляксееў, б. князіня Н. Сумарокава, Н. Чэлішчаў, В. Востракаў.

Белкахотсаюзам накіраваны паведамленьні аб гэтым усім раённым таварыствам паляўнічых з прапановай вышэйпералічаных асоб да судзьдзейства на выстаўках і палявых іспытах не дапушчаць.

Сакратар Белкахотсаюзу ТАРШЫС

